© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

Г. ШІЛЬГЕН.

Апрацаваў Васіль Друя.

# ТЫ І ЯНА

Прысьвячаецца беларускай моладзі.

Выданьне Беларускае рэлігійнае Місіі.
ПАРЫЖ, 1950.

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
БІБЛІЯТЭКА
БЕЛАРУСКАГА ГІСТАРЫЧНАГА ТАВАРЫСТВА
ў Беластоку
Н-Р 4482

З дазволу духоўнае ўлады.

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

## ЗАМЕСТ УСТУПУ.

Ёсьць нямала пытаньняў, аб якіх мы думаем, гутарым і перажываем іх, але тайком, баючыся, каб ніхто нас не падслухаў, бо будзе сорамна. Вось да гэтае катэгорыі пытаньняў належаць у першую чаргу адносіны мыжчыны да жанчыны, іхняе каханьне й расчараваньне, іхняя доля і нядоля. Сёньня ня знойдзеш фільму ці повесьці без каханьня маладых, але якжа-ж часта той вялікі цудоўна-манлівы дар каханьня мы знайходзім перадчасна патаптаны разбрыканай людзкой натурай! Як-жа часта малады хлапец ці дзяўчына, ня ўсьпеўшы сарваць кветку радасьці каханьня, топяцца ў бяздоньні балота, на якім гэтая кветка пачынала расьцьвітаць.

У чым-жа тады справа?

Часта мы ня знаем, як паступаць у гэтых далікатных справах. Трэба аднак глянуць праўдзе ў вочы, трэба пазнаць, што мы маем ад Бога ў нашых плоцьных гонах? Адкуль яны бяруцца? што ўзаемна цягне адных да другіх? Як належыць кіраваць сабой ў хвілінах найбольш небясьпечных для моладасьці?

Вось сьцяг пытаньняў, якія будуць разьвязаны ніжэй.

Дарагі чытачу! калі хоць час ад часу разважаючы над закранутымі намі пытаньнямі, будзеш гадзіцца з намі, дык гартуй свой дух, зрабі стальную пастанову паслухаць і даканаць чынам тое, што табе параяць. А ведай, што тыя, якія тут бяруцца даваць свае рады, нямала знаюць аб закалотах маладога сэрца з уласнага дасьведчаньня, в кніжак і з веры, якая йдзе непамыльна на падмогу нашага меленькага сьветача — розуму. Яны жадаюць шчыра табе дапамагчы.



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

## РАЗЬДЗЕЛ I.

### Мэты Божага Правіду.

У створаным сьвеце ўладае прынцып: тое, што Бог можа асягнуць праз свае стварэньні, таго зноў не стварае. Тады Бог карыстаецца стварэньнем, як прыладаю. Сьвет — гэта запраўды дзіва Божае мудрасьці, у якім раз выяўленыя сілы і здольнасьці ў далейшым аднаўляюцца і разьвіваюцца без таго, каб Бог за кожным разам увайходзіў з сваім новым творчым актам.

Чалавек ёсьць вынятковым зьявішчам у сьвеце, а гэта таму, што ён мае вольную волю. Усе іншыя стварэньні кіруюцца ўстаноўленымі для іх правамі і дзеля таго выконваюць намечаныя Богам пляны бяз ніякіх абмежаваньняў. Чалавек-жа сам павінен наважыцца, ці падпарадкавацца Божым правом, ці не. Аднак і пры вольнай волі чалавека Бог праводзіць свае пляны: Ён улажыў у натуру чалавека розныя гоны і нахілы, якія кіруюць ім у штодзенным жыцьці. Каб мы ня вьбіліся з дарогі і не надужывалі іх, нас Бог перасьцерагае прыказаньнямі і пагубнымі наступствамі няпослуху гэтым прыказаньням.

Найстарэйшае апавяданьне аб пачатку людзкога роду нас вучыць, што Бог стварыў аднуадзіную, здатную да жыцьця сямейную пару. Ад не павінны былі ўзяць пачатак усе людзі. Дзеля таго Бог надарыў людзкую прыроду магчымасьцю памнажаньня людзкога існаваньня.

Дзіўна, але праўдзіва: чалавек, падобна як кожнае іншае жывое стварэньне, можа радзіць новае жыцьцё бяз шкоды для свайго ўласнага, а народжанае патомства (у нармальных абставінах) вусім дараўноўвае яму сваёю вартасьцю.

Аднак Божыя пляны толькі тады споўняцца, калі чалавек здолее выкарыстаць, так як трэба, свае прыродныя гоны. Ведама, што прыемнасьці бацькоў салодкія, але бацькаўскія абавязкі ня-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

лёгкія; дзеці нясуць з сабою цяжар клопатаў, трудоў і цярпеньняў. Беларуская прыказка кажа: «Малыя дзеці — малы клопат, вялікія дзеці — вялікі клопат; малыя цяжкія на руках, а вялікія — на сэрцы». Дзеля гэтага Бог у сваёй прамудрасьці ўсё так уладзіў, што маральна ёсьць немагчымым, каб людзі ня ўступалі ў сужэнствы. Ён даў людзкой прыродзе пацяг адных да другіх і дазволіў людзям ужываць чыстае роскашы, калі толькі яны з сабою злучацца, згодна з Божым і прыродным законам.

Мы заўважваем, што Бог так стварыў мужчыну і жанчыну, што кожны з іх паадзіночна ня творыць дасканалай цэласьці. Гэта ня значыць, што кожнаму з іх чагосьці бракуе да поўнага чалавека. Не. Душа мужчыны і жанчыны ў сваёй сутнасьці нічым ня розьняцца. Але іншы склад цела спрычыняе ў ім розныя рэакцыі. Інакш тады ў розных залозках адбываецца нутраная сэкрэцыя сокаў, якія ўвайходзяць у склад крыві, а гэтым самым паўстае іншае разьвіцьцё здольнасьцяў, нахілаў і духовых патрэбаў у мужчыны чымся ў жанчыны. Душа тады будзе думаць, адчуваць, жадаць памужчынску, або пажаночаму, залежна ад таго, ці яна будзе ажыўляць арганізм мужчыны, ці жанчыны. Кожнаму з іх чагосьці не стае і акурат таго, што можа знайсьці ў іншага, і такім чынам іхнія душы ўзаемна могуць дапаўняцца й выроўнівацца.

Гэтая розьніца навонках выяўляецца ў жыцьцёвых занятках, якія йдуць у неаднолькавым кірунку; мужчына звычайна імкнецца да дзеяньня ў шыршым абсягу, да здабываць працы, тады, калі для жанчыны найбольш натуральным зьяўляецца сямейнае жыцьцё, у якім яна рупна даглядае прыдбаны мужам дабрабыт.

Мужчына пакліканыісьці ў жыцьцё адважна і наперабой, адкрываць і здабываць новае, змагацца з перашкодамі. Жаданьнем жанчыны ёсьць: ціха й ахвярна заапекавацца мужам, дзяцьмі, агрэць усіх сваёю дабратой і заўладаць усімі сваёю любоўю.



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

Вельмі важным ёсьць факт вырауньня, што бязупынна адбываецца між духовасьцю мужчыны і жанчыны, якога уплыу ня лёгка выказаць і апісаць, які аднак тым ня менш моцна адчуваецца і перажываецца. Мужчына адчувае патрэбу выказацца аб тым, што яго спаткала, што яго цікавіць і што гнобіць. Ён тужыць за спагадным зразуменьнем, за ацэнкай свае працы, за чулым спачуцьцём і пацяшэньнем. Вяртаючыся з працы, якая прайходзіць у неспакойных і зьменных жыцьцёвых абставінах, ён жадае мець адпружаньне і скінуць на некаторы час вяжучую яго прымусовасьць, ды паказаць сябе такім, які ёсьць, нават са сваімі слабасьцямі. Гэтак цяжка яму паказвацца нават перад найлепшым сваім сябрам, у якім можа заувважыць спаборніка, ці нават завідніка свайго шчасьця. Зусім інакш з праудзівай сяброукай жыцьця, з жонкай, каторая сваім далікатным і быстраглядным адчуцьцём здолее утуліць цярпеньне, палагодзіць гнеу, дадаць сілау і выпрастаць маральныя карабаціны мужа. Нярэдка той дабрадзейны, спагадлівы уплыу шляхотнай жанчыны спрычыняе ледзь ня цудоуныя перамены у паводзінах мужчыны. Думкі і пляны, якімі дзеліцца муж, знаходзяць жывое рэха у сэрцы добрае жонкі і вяртаюцца адтуль паглыбленыя і ушляхотненыя. Здаецца што ідэі, якія нараджаюцца у галовах мужчын (калі яны не адносяцца да чыста навуковых праблемау) павінны перш чым выйсьці у сьвет, занурыцца у сэрца жанчыны, каб набраць значэньня жыцьцядайнае вартасьці для людзтва.

Тады, калі духовыя сілы мужчыны выяуляюцца у досьледным, творчым і арганізуючым розуме, прыметы жанчыны выяуляюцца у здольнасьці далікатнага адчуцьця. Жанчына выдае суд не апіраючыся на разумовых прадпасылках, але яна хутчэй інтуіцыйна адчувае слушнасьць, ці няслушнасьць нейкага пытаньня.

Шырока рассыланыя анкеты на унівэрсытэтах у розных краінах выказалі згодна, што студэнткі перавышаюць сваіх калегау пільнасьцю і



удзелам у лекцыях, ясна разумеюць і хутка успрыймаюць выкладаны матэрыял, аднак адносна здольнасьці паглыбленьня набытае ужо веды і дапауненьня яе саматужнымі досьледамі, нарэшце у крытычных асудах, лёгіцы і чыста навуковай працы пасьля унівэрсытэту — ува усім гэтым студэнты перавышаюць сваіх сябровак. Мы бачым, што у галіне мастацтва, як напр.: у музыцы, малярстве, драматургіі і ін. жанчыны дагэтуль ня выказаліся ніякім творчым набыткам, хоць у аддаваньні мастацкіх творау яны стаяць вельмі высака. Кіраваньне хатай, хатняй гаспадаркай, кухняй і клецяй, руплівасьць аб памешканьні, вопратцы й ядзе, аб узгадаваньні дзяцей — вось прыродная сфэра ,дзе незаменна праяуляюцца уроджаныя уласьцівасьці жанчыны. Але у выкананьні гэтых вялікіх заданьняу, яна патрабуе помачы мужчыны, які-б стаяу побач яе з радай і апекай, на давер якога яна магла-б аперціся, нічуць ня трацячы свае чэсьці.

Бескарысным было-б парауноваць абодва характары — мужчынскі і жаночы, каб паказаць вышшасьць каторагась з іх. Тое, што ёсьць перавагай у адным, адначасна зьяуляецца ягонаю слабасьцю. Дзеля таго у праўдзе Створцы ёсьць, каб мужчына і жанчына узаемна дапауняліся, дасканаліліся. Яны павінны сябе узаемна разумець, адзін другому дапамагаць, бліжэй з сабою зжывацца, быць найвярнейшымі супольнікамі й сябрамі у перажываньні радасьцяу і цярпеньняу, знайсьці у чыстай любові вялікае і глыбокае шчасьце, якое павінна для іх стацца крыніцай сілы й волі у выконваньні жыцьцёвых заданьняу.

Плоцьныя розьніцы, так характэрныя для чалавека, выяуляюцца ужо у дзіцячых годах і ня гледзячы на аднолькавыя абставіны у якіх гадуюцца брат і сястра, яны розна разьвіваюцца дагэтуль, пакуль зусім не расьцьвітуць адзін у дасьпелага юнака, а другая у дарослую дзяучыну.

Хлапец змалку тод рвецца да дзейнасьці. На усім ён пробуе сваіх сілау і здольнасьцяу. Усьцяж да чагосьці імкнецца, нешта пляное і разва-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

жае, каб штосьці асягнуць. Яго цягне ў шырокі сьвет — там бо пакажа сваю сьмеласьць, спаткаецца з супраціўнасьцямі, выпрабуе ў труднасьцях сваю сілу. Таму й натура падросткаў такая каструбатая. А ўсё-ж такі пры сваёй дзікасьці і шурпатасьці хлапец найбольш чульліва прывязваецца да свае маці, ёсьць рыцарам у адносінах да сястры, ахвотна кіруецца іхнімі радамі і заўвагамі.

Дзяўчынка — яна найшчасьлівей чуецца, калі мае змогу згуляць ролю маткі і гаспадыні. Яе зацікаўленьні пры дамашніх занятках, а ў гульні з лялькай выяўляюцца ўсе тыя прыметы, каторыя некалі будуць упрыгожваць дбайлівую маці. Яна туліцца ахвотна да таты; на яго яна глядзіць з пашанай і зьдзіўленьнем ды сіліцца, каб якім колечы спосабам зрабіць яму прыемнасьць.

Мудры правід Тварца даў чалавеку моцны пацяг, што цягне ў кірунку рознай ад яго плоці. Гэта называецца плоцьным гонам, хоць звычайна гэты назоў разумеем вельмі вузка. Мыліўся-б той, хто думаў, што плоцьны гон у розных людзей ёсьць нечым адным нескладовым і розным толькі сілаю напяцьця і праяваў. Ужо адно тое, што ўспомнены гон ахоплівае і цела і дух, паказвае на ягоны рознаякі склад.

Паводля сучасных псыхалёгаў на плоцьны гон складаюцца тры элемэнты. (Прымаем гэтую схэму, не ўвайходзячы ў яе доказы).

Гэтыя тры элемэнты, каторыя ў вельмі няроўнай прапорцыі праяўляюцца ў розных адзінак ёсьць: 1) пачуцьцёвыя гоны, якія маюць сваю сядзібу ў целе і выклікаюць жаданьні шукаць задаваленьня змыслаў і 2) чуцьцёвыя гоны — гэта жаданьне кахаць і быць каханым, 3) сямейныя гоны, або жаданьне мець уласных дзяцей.

Быццам дзеля таго заданьня, якое мужчына мае выпаўніць у сужэнстве, яго пачуцьцёвыя гоны моцна разьвітыя, тады, калі ў нармальнай і нявіннай дзяўчыны яны ледзь ня сьпяць. Найчасьцей бывае, што яна нават і не дагадваецца аб тым, як яна палка раздражняе маладога муж-



чыну і не дагадваецца гвалтоўнасьці пачуцьцяў, якія ў яго пабуджае. Пэўна-ж і ў дзяўчаці могуць разбудзіцца пачуцьцёвыя гоны і тады яны становяцца гвалтоўнымі. Аднак паводля сьведчаньня выдатных вучоных у гэтай галіне, у дзяўчат падобнае зьявішча выклікаецца вонкавымі ўплывамі, як: чытаньнем рамансаў, размовамі, кінотэатрам, зводнымі намовамі і пад., калі толькі ў самай натуры няма чагосьці ненармальнага.

Чуцьцёвы гон праяўляецца у жанчын куды мацней, чым у мужчын. У звычайным ходзе рэчаў дзяўчына, адчуваючы слабасьць свае жаночае асобы, мае тугу за сільным, поўным ініцыятывы і духова вышэй стаячым мужчынай, каб на ім магчы аперціся, каб глядзець на яго з поўным даверам і падзівам,каб бясьпечна аддаць сябе ягонай апецы. Ёй перадусім залежыць на тым, каб знайсьці ў мужчыны любоў і прызнаньне за роўную сабе сяброўку жыцьця.

Але і ў мужчыны ёсьць чуцьцёвыя гоны, каторыя тым мацней праяўляюцца, чым лепш юнак змог апанаваць свае змыслова-пачуцьцёвыя гоны. Божае слова: «Нядобра чалавеку аставацца самому, зробім яму сяброўку падобную да яго», — да сёньняшняга дня ня страцілі на цане. Нармальны, добра разьвіты малады мужчына, у меру свайго развою адчувае больш і выразьней быццам нейкую паражнечу ў сваім жыцьці. Ён тужыць за сяброўкай, которая-б сваім далікатным абыходжаньнем, сонечна-пагоднай усьмешкай і дабрадзейнай радасьцю ўпрыгожвала-б жыцьцё; каторая-б яго зразумела, выявіла-б зацікаўленьне для ўсіх ягоных спраў, падымала-б на духу і пацяшала ў цяжкай працы і ў жыцьцёвых турботах;якая-б зрабіла для яго мілым і прынадным сямейнае вогнішча. Тады яму праца будзе шмат лягчэйшай, калі будзе ведаць, што працуе для каханай асобы, пры боку которае пасьля дзённых турботаў знойдзе дабрадзейны супачынак.

Што да разродчага, або сямейнага гону, дык у жанчыны ён мацнейшы, чым у мужчыны і гэта ёй



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

патрэбна з гледзішча на яе мацярынскае прызначэньне. Запраўдная жанчына толькі тады чуецца задаволенаю, калі знойдзе поўнае заспакаеньне сваіх мацярынскіх жаданьняў у клапатлівым і самаахвярным служэньні для другіх. З невялікім толькі перасолам можна было-б сказаць, што з кожнага нэрву жанчыны чуецца крык за дзяцём. Але і ў натуры мужчыны глыбока сядзіць жаданьне патомства, у якім хоча прадоўжыць сваё існаваньне, якое сталася-б ягоным другім, лепшым «я».

Плоцьныя гоны — зложаныя з трох вышэйапісаных элемэнтаў у нармальнага дзіцяці яны быццам сьпяць. Хаця некаторыя мужчынскія, або жаночыя прыметы выяўляюцца ўжо ў раньняй моладасьці, аднак тады яшчэ немагчыма гутарыць аб нейкіх запраўдных плоцьных інстынктах, хіба што яны былі-б выкліканыя хваравлівым спадкам, або вонкавымі дзейнікамі.

У нармальнага чалавека плоцьныя гоны будзяцца перш вельмі нявыразна і быццам праз туман і гэта адбываецца ў часе т. зв. дасьпяваньня, калі ў арганізьме пачынаюць дзейнічаць унутраныя сэкрэцыі плоцьных залозак. Гэта час, калі дзіця пачынае пераменьвацца ў дарослага дзяцюка ці дзяўчыну.

Першым вынікам распачатага працэсу дасьпяваньня ёсьць тое, што хлопцы і дзяўчаты, якія дагэтуль спакойна гулялі супольна, пачынаюць адчуваць у сабе нейкую сілу, што іх наўзаем адпіхае. Цяпер хлапец стаецца занадта скоры да таго, каб на слабейшую сяброўку глядзець бяз ніякага паважаньня, а нат' з пагардай. Ён пачынае праймацца гэраічнымі ўчынкамі. Яго цягнуць гульні ў якіх можа паказаць сваю сілу і адвагу. Дзяўчына ня раз балюча адчувае дзікае і бесцэрэмоннае абходжаньне хлапца і яна так-жа са свайго боку паглядае з абурэньнем і нясмакам на яго «дужасьць».

Тыя супроцьлежныя адчужэньні маюць такжа сваю мэтазгоднасьць у мудрых плянах Тварца. Разьдзеленыя ад сябе хлапец і дзяўчына, павінны ўзрастаць і разьвівацца адасобнена і то так, каб адно другога ня выбіла з каляінаў, сваім спосабам думаньня, не зьвяло з дарогі. Гэткім парадкам хлапец можа разьвіцца на поўнавартаснага мужчыну, а дзяўчына на дасканалую жанчыну. Толькі поўнавартасны мужчына і дасканалая жанчына могуць у сужэнстве стацца для сябе тым, чаго кожнае з іх шукае і жадае. Дзеля таго разьдзельнае выхаваньне моладзі вымагаецца найбольш істотнай патрэбай маладых людзей, калі толькі ня хочацца адняць ад іх тую прымету, з якое павінны будуць чэрпаць у будучыні сілы для выкананьня чакаючых іх розных заданьняў.



У маральна здаровых хлапцоў у гэтым часе завязваюцца вузлы прыязьні. Хлапчук ня ўмее яшчэ датарнавацца да рэчаіснасьці; той сьвет думак, якім жывуць дарослыя, для яго яшчэ ня зусім зразумелы. Дзяля таго ў іх прысутнасьці ён чуецца ніякава, і шукае лучнасьці з равесьнікамі, каторыя яго добра разумеюць, бо знаходзяцца на тым самым ўзроўні разьвіцьця. У іх асяродзьдзі ён чуецца найлепш, толькі ў іх сяброўстве найлепш весяліцца. Неўзабаве між равесьнікамі паўстаюць цясьнейшыя кругі сяброў, якія сябе найлепш разумеюць. Для поўнага разьвіцьця юнака бывае запраўдным шчасьцем калі знойдзе добрага прыяцеля- сябру, у каторым быццам у люстры можа бачыць адбіцьцё самога сябе; перад каторым можа шчыра выказацца; у каторым знаходзіць падпору і дапаўненьне.

Падобнае сяброўства перадусім павінна апірацца на ўзаемным паважаньні. Адзін у другім павінны бачыць добрыя духовыя прыметы, знаходзіць шляхотную ініцыятыву і падтрымку ў добрым. Добры хлапец дзеля гэтага ніколі сам праз сябе не пераходзіць ад гэткага сяброўства да выкрыўленае прыязьні, што спатыкаецца ў маральна падпсованых маладых адзінак. Яго патрэба мець сябру, ня мае нічога супольнага з сэксуальнымі гонамі. Ён засаромяўся-б перад сябрам, калі-б у ім штосьці падобнае абудзілася



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

нават бязвольна. Пагодна і сьмела яны глядзяць сабе ў вочы і ў душы, вольныя ад брудных думак, якія спалохаліся-б дзённага сьвятла. Дзеля таго юнак адчувае прыродны нясмак, калі яму нехта нахабна накідаецца са сваім сяброўствам, стараючыся прывабіць яго сабе ветлівасьцю, ці падаркамі. Гэта супраць яго натуры; гэта яго коле і наводзіць падазрэньне чагосьці нядобрага; яго здаровы інстынкт вычувае небясьпеку і кажа абмінаць яе чым далей.

З гадамі дзейнасьць унутранае сэкрэцыі на мазгі і ўяву стаецца штораз то выразьнейшай. Падобна, як гвалтоўныя буравеі ў красавіку абвяшчаюць надыход вясны, так разбуджаныя плоцьныя гоны азначаюць паважныя зьмены ў юнаку. У гэтым маладым чалавеку, у каторым ўсё разьвіваецца, адбываецца быццам бязупынная фэрмэнтацыя; настрой зьмяняецца бадай штохвіліны; ім пачынае валодаць нейкая няясная, неабмежаваная туга, з якое сам ня ўмее зрабіць высnаўку. Сам сабе стаецца загадкавым.

Паколькі гэтае разьвіцьцё юнака адбываецца нармальна, — што бывае тады, калі ён мае заўсёды паважнае заняцьце, якое займае ўсе ягоныя сілы — ягоны ўнутраны стан паволі выясьняецца і на мейсца нявыразнай тугі і мрояў адзываюцца штораз сільней плоцьныя гоны, зразумела ня ў кожнага з аднолькавай сілай. Тыя што зусім адданыя практычным заняткам, вельмі мала зьвяртаюць увагі на ўнутраныя перажываньні. Іншыя адчуваюць нешта падобнае да ўнутранага незадаваленьня, але глыбей у яго прычыны ня ўнікаюць. Розныя абставіны могуць тыя гоны ў іх разбудзіць, ды ўсьцяж нанава распальваць, пакуль яны ўпоўні не завалодаюць маладым сэрцам.

Усялякага роду нават выпадковыя здарэньні могуць выклікаць у маладым сэрцы прыхільнасьць да пэўнае асобы іншага полу. Калі гэтая прыхільнасьць спаткаецца з узаемнасьцю, тады абох ахоплівае бязьмежная радасьць і здаваленьне. Колькі гэта песьняў высьпевалі паэты ўсіх



часоў і ўсіх народаў, каб апісаць шчасьце першае любові! Сьведамасьць, што каханую асобу можна ўважаць за сваю непадзельную ўласнасьць, што ёсьць каханым і ўзаемна можа кахаць — сэрца абох залівае радасьцю. Яны ўважаюць сябе за найшчасьлівейшых людзей на зямлі і маюць тое пераканаsuccessiveньне, што апрача гэтага каханьня нічога больш да шчасьця не патрабуюць. Найвялікшую ахвяру, якую трэба было-б зрабіць для гэтага каханьня, лічаць нічым у параўнаньні з тым, што атрымоўваюць праз яго.

У гэткім стане чыстая любоў і плоцьнае каханьне непадзельна мяшаюцца ў сэрцы закаханых. Любоў згодна са сваей сутнасьцю імкнецца да злучэньня. Кахаючыя жадаюць быць блізка сябе. Калі іх доля дзеліць, дык прынамся думкамі яны непадзельна з сабою. Усялякая разлука выклікае боль і тугу за каханым, што для сэрца зьяўляецца вялікай мукай; тады яно нічым ня можа заняцца і нідзе не знаходзіць патолі. Са смагай чакаюць хвіліны, калі маглі-б зноў злучыцца. Каханьне цягне іх, каб пяшчотамі ўпэўнівалі адзін другога аб узаемнай прыхільнасьці і яна ня можа быць заспакоенаю датуль, пакуль не наступяць Богам прызначаныя суадносіны ў сужэнстве.

Але праўдзівай і апошняй мэтай, якую Божы правід хоча асягнуць цераз плоцьныя гоны, даныя натуры чалавека — ёсьць дзіця.

Гэта трэба зусім ясна і з націскам усьведаміць. Розьніца паміж мужчынай і жанчынай; каханьне з усёй паэзіяй і красой; сужэнства са сваім шчасьцем і радасьцю — гэта ўсё дана не для задаваленьня ўласных пажаданьняў, не для асабістае прыемнасьці, ані нават дзеля дабра сужонкоў. Гэта ўсё пабочныя мэты, або лепш сказаць сродкі, якія вядуць да праўдзівае мэты, якою ёсьць ня што іншае, як дзіця. Бог усё так уладзіў, каб заіснавала дзіця. Таму дзеці ня ёсьць, як гэта некаторыя памылкова думаюць, нейкім больш менш прыемным дадаткам да шча-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

сьця ў каханьні і сужэнстве, але галоўнай і апошняй мэтай сужэнства.

Вось-жа, калі малады чалавек пачуе прывязанасьць да дзяўчыны, і калі задаволены, што знайшоў такую, якая адказала ўзаемнасьцю, і што яе можа назваць «мая», і калі сэрца напаўняецца радасьцю і ён гатоў верыць, што да шчасьця яму больш нічога ня трэба, — хай тады добра ўсьведаміць, што ўсё гэта яму дадзена не для яго асабістага шчасьця, але каб пацягнены ўсім гэтым, імкнуўся да сужэнства і да годнасьці бацькі.

Пэўна-ж шматлікія ўступаючы ў сужэнства маюць на мэце толькі асабістыя карысьці, якія іх могуць чакаць. Адны жадаюць забясьпечыцца, іншыя разбагацець, мець помач у штодзеннай працы; адзінкам ніжэйшага палёту цялесныя роскашы выдаюцца найбольш пажаданай мэтай. Але, як «усе дарогі вядуць у Рым», — так паміма розных людзкіх меркаваньняў, якія робяцца пры ўступаньні ў сужэнства, намечанае Богам прадаўжэньне людзкога роду, між агулу людзей ёсьць запэўненае.

Ня трэба так-жа забывацца, што разьвіцьцё плоцьных гонаў ува ўсіх іх фазах, пачынаючы ад самага асноўнага, што маецца ў розьніцы характараў, у патрэбе ўзаемнага дапаўненьня і пацягу адзін да другога, аж да радаснага захопленьня закаханых і ціхага шчасьця сужонкаў — **усё гэта сам Бог сваею мудрасьцю даў людзкой натуры.** Дык у гэтым няма нейкага такога адкрыцьця, што існавала-б у чалавеку насупраць Божага пляну. На першых старонках Біблії чытаем: «Дзеля гэтага пакіне чалавек бацьку свайго і матку сваю, і прыстане да жонкі свае, і будуць двое ў адным целе» (Быць. 2, 24).

Але адначасна роскаш зямное любові мае вышэйшае значэньне. Яна павінна даць да зразуменьня і быць вястуном беспараўнаньня вышэйшае і дасканалейшае любові, якая задаволіць чалавека ня толькі на хвіліну і часткова, але ўпоўні і заўсёды — гэта значыць любові Божай. У



найвышэйшай паэме сьв. Пісаньня «Песьні песьняў» туга душы да Бога апісваецца ў форме любоўных суадносінаў закаханых. Жаданьне сэрца чалавека заглыбокае, каб яго трывала магла заспакоіць зямная любоў. Ды нават і тыя сьветлыя хвіліны дробнага шчасьця нават найбольш дабраных сужонкаў часта зацемніваюцца; то людзкія слабасьці іх скаламуцяць, то непрадбачаныя зьмены долі засмуцяць, то хваробы, то іншыя турботы і цярпеньні прыгнобяць, аж пакуль канчаткова сьмерць не пакрые іх чорнай жалобай. Таму дух павінен узьняцца вышэй, асягнуць насычэньне свайго любоўнага жаданьня ў іншым жыцьці — у Богу.

БІБЛІЯТЭКА
БЕЛАРУСКАГА ГІСТАРЫЧНАГА ТАВАРЫСТВА
ў Беластоку
Н-Р 4482



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

## РАЗЬДЗЕЛ 2.

### Божыя Прыказаньні.

Чалавек — як гэта відаць ад пачатку нашых разважаньняў — ёсьць абдараваны вольнай воляй. Тады, калі ўсе іншыя стварэньні на зямлі, кіруючыся выключна інстынктам, імкнуцца да мэты вызначанае ім Тварцом, чалавек павінен сам сьведама і мэтазгодна кіраваць сваім жыцьцём. Свае прыродныя нахілы і гоны чалавек павінен упарадкаваць сваім розумам і ведаю.

Аднак гэтага самакіраваньня нельга так разумець, быццам чалавек сам пастанаўляе аб тым, што мае быць добрым і справядлівым. Ён павінен слухацца законаў, на якіх апіраецца ягоная натура і якія Бог-Тварэц у сваёй дабраце выяўляе цераз людзкое сумленьне. Толькі той парадак можа давесьці да праўдзівага шчасьця, каторае запраўды можа ашчасьлівіць чалавека. Бог забараняе чалавеку толькі тое, што гэтае шчасьце псуе і нішчыць. Было-б тады безгалоўем, шукаць шчасьця на тых шляхох, аб якіх Боская мудасьць і наш розум сьведчаць, што яны канчаткова вядуць да няшчасьця.

Бог быў так абдарыў нашых першых прабацькоў, што яны мелі поўную ўладу над ніжэйшымі нахіламі свае натуры. Гэта быў стан дасканаласьці, які перавышаў самую натуру чалавека і яе прыродныя магчымасьці. З свае любові і дабраты Бог быў іх падняў да вышэйшага парадку, які яны мусілі ўтрымаць для сябе і свайго патомства дабравольна падпарадкоўваючыся Божай волі.



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

Аднак гордым супрацівам Божаму прыказаньню яны пазбавілі сябе райскага шчасьця і былі скінутыя ня толькі на той узровень прыроднага парадку. які адказваў іхняй натуры, але нават і ніжэй.

Нідзе наступствы граху прабацькоў чалавецтва не праяўляюцца гэтак страшна, як у плоцьнай галіне. Пачуцьцёвыя гоны — той нізкі элемэнт плоцьных гонаў — у чалавека зусім не падобны да гэткага-ж гону ў зьвяроў, у якіх ён абмежаваны або часам, або порамі году. У чалавека ён свабодны ад усякіх унутраных бар'ераў не падлягае ніякай іншай кантролі і ўладзе як толькі сіле духа, якая павінна яго апанаваць і кіраваць ім. Аднак гэты інстынкт ня лёгка паддаецца кіраўніцтву духа; наадварот, ён бунтуецца супраць гэтае ўлады, хоча скінуць яе ярмо і яе самую падпарадкаваць сабе, падняволіць сваім прынадам. Ён бязупынна напрыкраецца, падлізваецца і дражніць. Тысячу разоў пераможаны, ён зноў атакуе з новай неслабеючай сілай. Больш таго, сам праз сябе мацнее і можа дасягнуць гвалтоўнай моцы. Пры гэтым пранікае ўсю нэрвовую сыстэму, інтэлектуальнае жыцьцё чалавека праймае нейкім тужлівым жаданьнем і пажаданьнем, што дамагаюцца здаваленьня.

Пачуцьцёвыя гоны вельмі ўзалежніваюцца ад вонкавых уражэньняў. Асоба іншае плоці; яе валасы, вочы, твар, гукі мовы — могуць моцна дзейнічаць на чалавека. Апрача таго, асабліва ў жанчын, ёсьць сьведамае жаданьне, каб падабацца мужчыне і прыцягнуць яго да сябе. Дзеля таго вопратка, строй галавы і валасоў, ужываньне рознага роду парфумаў, позіркі і самыя паводзіны — усё гэта вельмі часта дыктуецца якраз гэным жаданьнем прыпадабацца.

«Нажаль наша сучасная культура, — піша адзін з найвыдатнейшых вучоных у гэтай галіне, — ня толькі выбіла з каляінаў натуральныя і ўведзеныя абычаямі плоцьныя адносіны, але часткова іх зьняважыла; больш яшчэ — давяла іх проста да хвараблівага віду... Зусім забываючы аб пры-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

родным прызначэньні плоцьных гонаў, сучасная культура прыдумала зрабіць з іх штучную крыніцу роскашаў і павынаходзіла да гэтага ўсялякія сродкі, каб толькі тыя роскашы не надаядалі сваею аднавобразнасьцю... Перадусім сучаснае мастацтва сталася магутнай прыладай дражніць пачуцьці; скажама адкрыта: яно сталася супрацоўнікам парнаграфічнае літаратуры.З фарызэйскім абурэньнем супраць іншага пагляду славіць, бароніць і захопліваецца не адзін, быццам у імя мастацтва, найбольш гадкімі і брыдкімі эротычнымі карыкатурамі, якія выстаўляюцца за апошняе слова ў найнавейшым дасягненьні мастацтва!.. Адным словам для штучнага гадаваньня пачуцьцёвых гонаў мужчын заложана фармальныя акадэміі праступства і распусты... Бяз сумніву, усьцяж паўтараючы і штучна дражнячы плоцьныя пачуцьці, ужываючы пры гэтым розных дзеючых на змыслы прадметаў, палкасьці ўсьцяж павялічваюцца і ўзмацняюцца. Такога роду прывычкі, штучна падтрымліваючыя плоцьныя гоны, выклікаюць у мужчынскім сьвеце найбольш пераваротны настрой і спосаб думаньня, што вядзе да пагубных вынікаў. Некаторыя маладыя пачынаюць уважаць, што яны павінны «пазволіць сабе на ўсё», бо інакш «ня былі-б зусім мужчынамі». Гэтае ідыётычна-недарэчнае паняцьце набірае сілы яшчэ больш праз тое, што нясьведамы, або сарамязьлівы стаецца прадметам насьмешак маральна сапсаваных сяброў.

Калі так гэны стан раздражненьня плоцьных гонаў усьцяж падтрымоўваецца штучна, не зважаючы на яго вышэйшыя і маральныя мэты, але выключна так, як у быдляці, дык хутка ў душы творыцца быццам парнаграфічны настрой, які авалодвае чалавекам і праменюе навонках. У гэткіх людзей увесь іхні кругазор так запоўнены жаданьнем распусты, што ён уплывае на спосаб думаньня і чуцьця. У найбольш нявінных рэчах, яны бачаць штосьці сьлізкае, бруднае, маючае плоцьныя дачыненьні. Пры гэтым адзін стараецца перавысіць другога, а іхнюю гэніяльнасьць і дас-



каналасьць у гэтай галіне перавышае хіба пустэча і няведа ў кожнай іншай галіне... Магчыма, што больш шляхотным адзінкам гэты малюнак пакажацца перасоленым, бо звычайна больш далікатныя і лепшыя адзінкі ў падобных выпадках найчасьцей ідуць сьледам за страусам, яны адварочваюць з агідай вочы ад гэткага балотца і абмінаюць яго здалёк».

Наўмысьля мы паклікаемся на вывады вучонага, які ўважаецца добрым знаўцам гэтых праблемаў, да таго ён ня будучы вызнаўцам хрысьціянскага сьветапагляду, ня можа быць падазроны ў якойколечы аднабокасьці.

З вышэйшага ясна, калі малады юнак ня будзе асьцерагацца, але дасьць волю сваім хаценьням, а вонкавым спакусам так-жа адчыніць насьцеж дзьверы свае ўражлівае душы, дык плоцьны гон будзе апаноўваць яго больш і больш. Узрастаючы, ён станецца штораз больш бурлівым і непагамаваным і ўканцы, як кожная іншая палкасьць, можа спрычыніць папросту неаблічальныя шкоды. Бо плоцьны гон сьляпы, ён імкнецца выключна да здаваленьня свайго хаценьня і не бярэ пад увагу ані дабра іншае асобы, ані свайго уласнага. Ці тое, чаго ён хоча, ёсьць агідным, пагубным, брыдкім, ці не — яму гэта зусім абыякава. Ён не аглядаецца на нішто; хоча сябе насыціць, а што з гэтага можа быць, яму ня важна. Што чалавек падарве фізычныя і духовыя сілы, або нават зусім змарнее, што патопча ўласнае шчасьце, або другіх сапхне ў пропасьць бяды і роспачы, што сам акрыецца сорамам і пагардай, што цэлыя сем'і зробіць няшчаснымі і прычыніцца да існаваньня дзяцей народжаных у ганьбе і прызначаных да бядовага жываценьня, што сее навокал сябе згоршаньне і нішчыць папросту неаблічальнае дабро, або перашкаджае ў яго здабываньні, што стаецца прычынаю горкіх сьлёзаў і суму бацькі і маткі, што атруціўшы ім усялякую радасьць жыцьця, перадчасна заганяе іх у магілу — на ўсё гэта плоцьны гон не зьвяртае ніякае ўвагі, каб толькі асягнуць зда-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

валеньне. Ён не заспакойваецца кароткатрывалымі ўступствамі, але настойліва дамагаецца ўсіх сваіх жаданьняў бяз межаў і часу.

Калі толькі хоць раз пойдзеш на ўступкі прывярэдліваму плоцьнаму гону, ён станецца яшчэ горш ненасытным і больш настойлівым. Ён ня зьмякне перад сьлёзамі, якія спрычыніў; ня спыніцца перад няшчасьцем, якое выклікаў; ён не пакіне свае ахвяры нават і тады, калі яе вядзе да фізычнае і маральнае руіны. Пры гэтым пазбаўляе чалавека ўсякага глыбейшага ўніканьня ў рэчы вышэйшае катэгорыі; і такой адзінцы брыдне рэлігія — тая адзіная сіла, якая магла-б яго выратаваць з балота; гасьне сьвятло веры, цьмянее зорка надзеі і быццам непраглядная ноч — роспач пачынае напаўняць галаву і сэрца.

Няма больш цьвёрдага, самалюбнага, драпежнага і безразборлівага дэспата, як плоцьны гон, які патрапіў завалодаць чалавекам.

Як усё іншае магутнае ў прыродзе, так і гэты гон павінен падпарадкавацца дысцыпліне кіруючага духа. Тады і толькі тады ён можа стацца згодна з сваім прызначэньнем у сужэнстве, паводля Божых прыказаньняў — крыніцай чыстае радасьці і глыбокага шчасьця.

Цяпер мы разумеем значэньне і неабходную патрэбу Божых прыказаньняў. Яны нам гавораць ня што іншае, як толькі тое, што: «Тваім абавязкам ёсьць завалодаць плоцьнымі гонамі, каб імі карыстацца выключна ў законным сужэнстве з іхняй мэтай прызначэньня, а па-за тым захаваць чыстасьць!»

Дабравольнае ўжываньне плоцьнае роскашы і смага за ёю перад сужэнствам ёсьць чужалоствам і нячыстасьцю, а тым самым цяжкім грахом, як таксама грахом ёсьць усё тое, што пабуджае плоцьныя пачуцьці і выклікае жарсьць (за выняткам толькі тых выпадкаў, калі гэткія пабуджэньні робяцца бяз грэшнага намеру і з канечнасьці ды не атрымоўваюць згоды волі). Грахом ёсьць так-жа ўсё тое, што робіцца з мэтаю выклікаць плоцьную роскаш.



Думкай грэшыцца супраць чыстасьці, калі сьведама падтрымліваецца жаданьне ўчыніць штосьці нячыстае, або калі адчуваецца задаваленьне і радасьць дзеля споўненых у мінулым нячыстых грахоў, а так-жа тады, калі памяць і фантазію сьведама і дабравольна затрымоўваецца на прадметах, якія выклікаюць грэшныя пажаданьні і грэшныя пачуцьці.

Размовы зьяўляюцца грахом супраць чыстасьці тады, калі іх вядзецца з намеранай прыемнасьцю на тэму недазволенай сэксуальнай роскашы, або з мэтай пабудзіць у іншых падобнае пачуцьцё, а так-жа тады, калі гутарка аб плоцьных справах ня ёсьць неабходнаю і можа выклікаць у яе ўдзельнікаў небясьпеку нячыстай прыемнасьці. Адгэтуль ня цяжка кожнаму зрабіць выснаў аб тым, калі і якія позіркі, кніжкі, танцы, прадстаўленьні кіна ці тэатру і пад. зьяўляюцца праступствам супраць чыстасьці.

Згодна з Хрыстовымі словамі: «Кожны, хто глядзіць на жанчыну, каб пажадаць яе, ужо грашыць з ёю ў сэрцы сваім» (Мат. 5, 28), — дапускаецца граху нячыстасьці той, хто на толькі паддаецца змысловым нахілам да асобы іншае плоці, што жадае мець яе ў недазволены спосаб. Гэта ёсьць выразны грэх супраць Божага прыказаньня: «Не пажадай».

У плоцьных дачыненьнях цяжка дакладна правесьці разьмежаваньне паміж цяжкім (сьмяротным) грахом і лёгкім, асабліва тады, калі-б нехта хацеў гэткае разьмежаваньне выкарыстаць на тое, каб у гэтай галіне пайсьці на пэўныя ўступствы. Дзе як дзе, але тут мае аграмаднае значэньне стары кліч: «Не паддавайся спачатку!» Або інакш: «Будзь асьцярожны з агнём!» Гэтая асьцярога мае нязвычайна глыбокі сэнс, бо зьвяртае ўвагу на тыя людзкія слабасьці, у якія шматлікія пры ўсёй добрай волі не зграшыць, пад напорам гвалтоўных спакусаў няраз упадаюць, дык што тады казаць пра людзей, якія ня маюць непахісных жыцьцёвых прынцыпаў; яны ніякім чынам не ўсьцерагуцца ад цяж-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

кіх праступстваў. Плоцьныя гоны на толькі моцныя, што было-б самадурствам перш іх крыху здаволіць, а пасьля жадаць паўстрымаць іх, як на каманду. Шмат упадкаў людзей з добрай воляй тлумачыцца тым, што неасьцярожна загульвалі з пачаткавымі адрухамі нізкіх гонаў і нахілаў, а ў наступстве, калі гоны адазваліся з усею сілаю, не знайшлі ў сабе толькі моцы, каб ім супрацьставіцца.

Пад адрэсам чысьціні можна часам пачуць сказ, што паўстрыманасьць плоцьных гонаў шкодзіць здароўю, што такое абмежаваньне цела кепска ўплывае на нэрвы і пад. На пацьверджаньне падобнае думкі спасылаюцца на вырваныя сказы дактароў мэдыцыны.

Зразумела, што там і сям раз'яранасьць плоцьнага гону можа быць прыкрым, а нават часам можа перашкаджаць у працы і занятках, аднак ніводзін сумленны лекар ня скажа, што тыя прамінаючыя зьявы запраўды могуць пашкодзіць здароўю. Наадварот, — задаваленьне гэтых нахілаў ёсьць шкодным для цела, а перадусім яно вельмі аслабляе волю. Але колькі ёсьць на сьвеце прафэсыяў, выконваньне якіх зьвязана з шматлікімі нявыгодамі, а нават шкодна дзеючых на здароўе! Хто аднак прызнаў-бы слушнасьць лекару, які пакліканы ноччу да цяжка хворага заявіў-бы, што ён туды пайсьці ня можа, бо перарваць ночны сон, шкодзіць ягонаму здароўю?

Памінаючы пэўныя нявыгоды, ня можна давесьці, што існуюць нейкія шкодныя для здароўя наступствы ад чыстага і паўстрыманага жыцьця. Цэлы рад найвыдатнейшых лекараў і вучоных станоўка цьвердзіць, што нічога ня ведае аб існаваньні гэткіх шкодаў. Спаміж шматлікіх выказаў прывядзём хаця некалькі.

Д-р. мэд. В. Говэрс, лекар унівэрсытэцкага шпіталю ў Лёндане, заяўляе: «З усёю сілаю майго дасьведчаньня і павагі цьверджу, што ніколі ніякі чалавек ня меў ніякае карыснасьці з непаўстрыманасьці, ані так-жа ня меў ніякай шкоды з паўстрыманага жыцьця».



Ведамы нарвэскі пісьменьнік Бьёрнсон кажа: «Я перакананы, што ад паўстрыманасьці ніхто не хварэў, але затое напэўна хварэла шмат тых, хто ўсьцяж патураў свайму сэксуалізму».

Д-р мэд. Мэй: «На працягу мае 30-годняе вельмі шырокае практыкі я меў нагоду спатыкаць ахвяраў ад здаваленьня плоцьных гонаў, аднак ніколі не знашоўніводнага такога, які-б захварэў ад цноты паўстрыманасьці».

Мэдычны раднік д-р Шмітц кажа: «Дагадка, што няўжываньне плоцьных органаў у якіколечы спосаб шкодна адбіваецца на здароўі, на нічым не абаснаваная, бо дасьведчаньне паказвае, што чыстае жыцьцё нежанатых зьяўляецца прынамся таксама даўгавечным і чорствым, як і тых, што жывуць у сужэнстве».

Праф. мэд. д-р. Рюбнэр: «Зусім памылковай ёсьць думка тых, якія цьвердзяць, быццам з нявыкананьня плоцьных функцыяў могуць быць нейкія шкодныя вынікі».

Д-р. Тутон: «Ніколі не заўважана якойколечы хваробы паходзячай з плоцьнай паўстрыманасьці».

Д-р Актон: «Абсалютная паўстрыманасьць ёсьць магчымай і павінна захоўвацца маладымі людзьмі перад сужэнствам бяз ніякай крыўды для здароўя».

Праф. д-р Фурніер: «У неадпаведны і лёгкадумны спосаб гаварылася аб небясьпеках паўстрыманасьці для маладога мужчыны. Я мушу прызнацца, што калі-б гэткія небясьпекі існавалі, я, як лекар, мусіў-бы іх ведаць і напаткаць, тымчасам я іх ня ведаю, ані ніколі іх ня мог сьцьвердзіць, хаця меў ня рэдкую нагоду да назіраньня ў гэтай галіне».

Праф. мэд., д-р фон Штайнэн: «Паўстрыманасьць ня ёсьць шкоднай, — наадварот, яна ёсьць крыніцай выдатнага разьвіцьця сільнае волі і вельмі карыснаю для здабыцьця прафэсыі».

Д-р. мэд. Якобсон у скароце падае адказ пяцісот трыццаці выдатных прафэсароў мэдыцыны на анкету аб вартасьці паўстрыманага жыцьця:



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

«Моладзь павінна сьцерагчы чыстасьць, каторая ніякім спосабам ёй не пашкодзіць, наадварот — прынясе ёй толькі карысьць. Захоўваючы чыстасьць і ўхіляючыся ад усялякіх плоцьных зносінаў перад сужэнствам, моладзь спрычыніцца да ўтрыманьня на адпаведнай вышыні ідэалу любові, а сама ўсьцеражэцца вэнэрычных хваробаў».

Д-р. Оппэнгайм: «Нават даросьлы юнак павінен заўсёды трымацца прынцыпу, што ўсякі ўзрух плоцьнага гону трэба ў сабе перамагаць бяз ніякіх адгаворак і то аж да брамы сужэнства».

Праф. д-р мэд. Форэль: «У нармальных абставінах нармальнага маладога чалавека, каторы духова, а таксама і фізычна, бадзёра працуе, пры гэтым ухіляецца ад штучных пабуджэньняў перадусім наркотыкаў, якія аслабляюць волю і інтэлект (алкаголь і пад.) — плоцьная паўстрыманасьць не належыць да немагчымых зьяваў».

Праф. Рыбінг: «На працягу мае дваццацігадовае лекарскае практыкі я сустракаўся з людзьмі, асабліва маладымі, з усіх пластоў грамадзянства, аднак я не спаткаў ніводнага, каторы-б — бяз сумніву, пры добрай волі — лічыў паўстрыманасьць і апанаваньне самога сябе за немагчымае... Для маладога чалавека карысьнейшым ёсьць жыць у чыстасьці».

Калегія лекараў унівэрсытэту ў Хрысьціяніі (Ослё) заявіла наступнае: «Цьверджаньне, якое нядаўна выказана рознымі асобамі, а пасьля паўторанае рознымі часопісямі і згуртаваньнямі, быццам маральнае жыцьцё і плоцьная паўстрыманасьць прыносяць шкоду для здароўя, паводля нашага аднагоднага дасьведчаньня ёсьць зусім фальшывае. Мы ня ведаем аб ніякэй хваробе, аб ніякай слабасьці, якія-б выклікаліся зусім чыстым і маральным жыцьцём».

Дарэчы заўважвае ведамы расейскі пісьменьнік і філязоф граф Леў Толстой: «На тое, што паўстрыманасьць ёсьць магчымай і для здароўя



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

бяз сумніву менш небясьпечнай, чым распуства, кожны знойдзе сотні доказаў навокал сябе».

Падсумаваўшы вышэй сказанае, ясна бачым, што сучасная мэдыцына ня ведае ніводнае хваробы ад паўстрыманага жыцьця, але затое мае вялікі клопат з гідкімі і жудаснымі вэнэрычнымі хваробамі, выклікаными распусным жыцьцём.

Адносна ўсіх вышэй прыведзеных сьведчаньняў, трэба заўважыць, што яны былі выказаныя з чыста лекарскага гледзішча; іх выказалі лекары нават некатолікі. Дзеля таго ў іх не бярэцца пад увагу яшчэ адна сіла, вельмі важная ў захаваньні чысьціні, якою ёсьць ласка.

Сьведчаньні лекарскіх павагаў наводзяць нас на тую думку, што цьверджаньні аб шкоднасьці чыстага жыцьця сягае сваімі карэньнямі сапсаванага людзкога імкненьня, якое стараецца абараніць свой немаральны спосаб жыцьця наперакор усім фактам.

Для хрысьціян бяз вялікіх круцігаловак ёсьць ясным, што Бог ня можа вымагаць ад чалавека рэчаў немагчымых, або шкодных здароўю. Кожны чалавек добрае волі можа захаваць чыстасьць, калі толькі будзе сьцерагчы сябе і будзе карыстацца памоцнымі сродкамі, якія яму дае і паручае сьв. Царква.



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

## РАЗЬДЗЕЛ 3.

## БЛУДНЫЯ ШЛЯХІ.

З Божага допусту плоцьныя гоны даюць знаць аб сабе ў гадох, у якіх моладзь не павінна яшчэ думаць аб сужэнстве, да чаго аднак гоны накіроўваюцца. Гэта час, калі юнак павінен навучыцца трымаць іх так, каб пасьля магчы зусім апанаваць іх. Пачаткавы ўзрух гэтых гонаў даволі слабы і ня цяжка яму супрацьставіцца. Паступова аднак яны набіраюць сілы і могуць спрычыніць шмат прыкрасьцяў.

Шмат залежыць ад таго, каб дасьпяваючы юнак ад пачатку заняў належнае становішча адносна праяваў плоцьных гонаў, калі яны толькі пачынаюць будзіцца. Перш-на-перш ён павінен ясна зразумець, што тыя знакі дасьпяваньня ў мужчын ёсьць зусім натуральнымі, дзеля таго ня трэба імі непакоіцца. Самі ў сабе плоцьныя гоны ня ёсьць чымсьці дрэнным. Сам Бог даў іх чалавеку. Для нас аднак і для кожнае шляхотнае душы ёсьць упакараючым факт, што нізкі бок гэтых гонаў — змысловы і матэрыяльны — часта каб асягнуць задаваленьне сваіх жаданьняў, адзываецца так нахабна і так імкліва, што заглушае ўсе вышэйшыя меркаваньні. Малады чалавек мусіць усьцяж мець перад вачыма значэньне і мэту гэтых гонаў, а ведаючы, што ня можа паддавацца ім датуль, пакуль ня можа ўступіць у вызначаную Богам сувязь для вызначанае Ім мэты, павінен усімі сіламі старацца, каб завалодаць імі. Не сьляпыя гоны, але розум асьвечаны верай, павінен быць яму пуцяводнай зоркай. Тады і толькі тады ён будзе запраўдным чалавекам. Зялезнай рукой павінен дух трымаць на прывязі



плоцьныя гоны і гэтым падпарадкаваць іх і захаваць здаровымі і непашкоджанымі, каб некалі дапамагалі яму да выконваньня паважных пляноў, а не падрывалі і руйнавалі іх.

Моладзь любіць паказваць, што ўмее і што можа. Як-жа ім усьміхаецца перамога ў спаборніцтвах, напр.: у спорце! Тэлеграфічныя драты і штодзёньнікі разьнясуць вестку па цэлым сьвеце, колькі «пунктаў» здабыў той ці іншы, што асягнуў перамогу. Аднак-жа тая перамога, якую-ж яна мае вартасьць для запраўднага дабра чалавека, для ягонага збаўленьня?

Тымчасам у змаганьні за чыстасьць вырашаецца ягонае праўдзівае дачаснае і вечнае шчасьце. Дык ці-ж гэтае змаганьне ня можа падбадзёрыць амбіцыі юнака надзеяй перамогі і майстэрства ў тых спаборніцтвах? Праўда за гэткім змаганьнем ня сочыць і ня пляскае ў далоні шматтысячная таўпа ратазеяў, але затое ўсё неба ёсьць яе сьведкам і рыхтуе лаўры перамогі. Праўда аб здабытых пунктах у гэткім змаганьні маўчаць спартовыя справаздаўцы, але ў кнізе жыцьця яны запісаны залатымі літарамі на вечную хвалу.

З поўным супакоем прыгляньмася цяпер да некаторых блудных шляхоў, на якія плоцьныя гоны стараюцца сіламоц сапхнуць маладога чалавека. Калі тут апісваюцца натуральныя наступствы, якія йдуць усьлед за нячыстым грахом, дык трэба заўважыць, што гэта само па сабе яшчэ ня ёсьць дастатковым, каб супрацьставіцца атакам юрлівасьці. Трэба яшчэ жывое веры, якая выплывае з прызнаньня Божае забароны, і ласкі, якая нам дае сілы захаваць чыстасьць. У далейшым разважаньні гэта выясьнім больш грунтоўна.

Перадусім трэба мець пэўнасьць, што нешта ёсьць запраўды забаронена Богам. Недасьведчаная, мала думаючая і наіўная маладосьць ёсьць аж занадта скорай, каб небясьпекі ня браць пад важна. У шматлікіх рэчах запраўды грозных ня бачыць нічога злога. Дзеля таго ёй неабходна адчыніць вочы і паказаць вынікі, якія можа спры-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

чыніць лёгкадумства і бяздумства. Трэба каб ты пазнаў, што крыецца пад такімі сказамі, як: «жыцьцё мае свае правы», «маладосьць павінна вышумецца», «ужывай сьвету, пакуль служаць леты», або, як вялікае няшчасце можа спрычыніць адна гадзіна слабасьці, ці «грэх маладосьці».

Трэба быць перакананым, што калі табе нешта забараняецца, дык ня дзеля вузкалобасьці, але дзеля твайго істотнага дабра. Кожная забарона ў гэтых дачыненьнях павінна здабыць тваю волю і перакананьне ды выяўляцца ня ў сказе: «гэтага мне ня можна», але: «я гэтага не хачу!»

Нашы доказы тады толькі будуць мець нейкі ўплыў на цябе, калі маеш **добрую волю** жыць паводля Божага права. Пазнаньне страшэнных вынікаў, да якіх даводзіць грэх нячыстасьці, павінна зрабіць цябе асьцярожным, каб ты, браце, ня ступаў лёгкадумна на тыя шляхі, на якіх толькі дзеля недасьведчанасьці ня бачыш небясьпекі. Трэба шмат асьцярожнасьці, каб не зрабіць фальшывага кроку, бо грэх умее прыміляцца ў найбольш прывабліваючай постаці, адзяючы зводную вопратку шчасьця і любові. Табе трэба выявіць страхоцьце, якое часта крыецца пад гэтымі манлівымі словамі, якую подласьць і агіду таіць у сабе грэшны нахіл, каб з. надходзячай небясьпекай, ты мог заўсёды ўжо здалёк распазнаць яго злачыннае пятно. У барацьбе з так варожай і ня менш хітрай магутнасьцю ніколі ня можа быць зашмат асьцярожнасьці, зашмат сродкаў, каб мець пэўнасьць перамогі.

Ніжэй мы зьвернем асаблівую ўвагу на чатыры пуцявіны, якія зводзяць на бездарожжа тых, што йдуць на ўступкі плоцьным гонам. Гэтыя пуцявіны ня ёсьць адзінымі блуднымі і грэшнымі, але навакол іх найлепш падсумаваць тыя патрэбныя рады і перасьцярогі, якія могуць не аднаго маладога чалавека паўстрымаць ад фальшывага кроку.

У першую чаргу мы зоймемся прыхаваным грахом самагвалту. Наступна пяройдзем да «юнацкага каханьня», г. зн. да нясьпелае пры-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

язьні хлапца з дзяўчынаю, ў якой магчымасьць сужэнства нават не ўвайходзіць у лік. Звычайна такая прыязьнь называецца фліртам. На трэцім мейсцы прыглянемся нелегальнай сувязі, а разумеем пад гэтым проста немаральнае сужыцьцё, найчасьцей пазбаўленае і мэты і магчымасьцяў праўдзівага сужэнства. Уканцы скажам крыху аб «выгадных адносінах», што мы разумеем, як часовае збачэньне, да чаго даюць нагоды гулі і вуліца.

## Грэх самагвалту.

У нармальнага чалавека ў часе так званага дасьпяваньня адбываецца працэс, каторы юнака перамянае ў мужчыну . У гэтым працэсе асаблівае значэньне мае дзейнасьць насенных залозкаў, якія сама тады прабуджаюцца. У іх пачынаюць вытварацца ня толькі насеньнікі (спэрматозоіды), але так-жа пачынаюць выдзяляцца нутраныя сэкрэцыі, аб якіх мы ўспміналі перш, і якія маюць паважны ўплыў на нэрвовую сыстэму і на падзел жыцьцядайных сокаў крыві. Гэтая нутраная сэкрэцыя насенных залозкаў называецца плоцьным горманам, яна беспасрэдна з залозкаў пераходзіць у кроў і зьяўляецца неабходнай для фізычнай і інтэлектуальнай сьвежасьці і неабходна патрэбная для поўнага разьвіцьця мужчынскасьці.

Вось-жа для дасьпяваньня вельмі важна, каб яно адбывалася ў поўным супакоі без закалотаў і перашкодаў. Маладыя цягляцы набіраюць сілы праз гімнастычнае практыкаваньне, але дасьпяваючыя залозкі, калі будуць раздражнівацца перадчасна і ненармальна, стануцца слабымі і хваравітымі, а тымсамым трацяць здольнасьць належна прычыняцца да развою юнака ў мужчыну і падтрымоўваць як сьлед здароўе цела.

Ня трэба ў гэтым часе непакоіцца тым, калі падчас сну арганізм сам выкідае лішнія сокі. Гэта ёсьць нармальным зьявішчам, што здараецца ў кожнага дасьпелага маладога чалавека больш



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

менш кожны месяц і ёсьць знакам добрага здароўя. Але грашыў-бы той, хто сьлепа паслушны гонам натуры, выклікаў-бы штосьці падобнае сьведама.

Каб магчы ацаніць веліч такога праступства і ягоныя наступствы, асабліва ў галіне духовай, трэ' было-б ведаць, што спрычынілася да гэткага праступства. Тых, што блудзяць гэткім чынам, можна падзяліць на тры групы.

ДА ПЕРШАЕ групы залічаем тых, каторыя на пачатку зусім нясьведама ці то пад уплывам сапсаваных сяброў, ці праз неасьцярожнае ўступства на карысьць абуджаных сэксуальных гонаў, ці ўканцы дзякуючы нешчасьліваму здарэньню запазналіся з самагвалтам і бяз глыбейшае развагі ўсьцяж паддаюцца юрліваму пажаданьню. Трэба сказаць, што бязглузьдзе ў хлапцоў часам бывае страшэннае. Усьцяж пастанаўляюць ня падаць у маральнае балотца, аднак-жа калі надыдзе спакуса — ёй паддаюцца. Гэтая спакуса цягне іх у свае сеткі, нахабна пускаючы туман у вочы і паддаючы думкі, быццам ёй нельга супрацівіцца, і што быццам гэта адзіны спосаб заспакаеньня і пад. Чым далей, тым лягчэй ёй паддаюцца быццам дзеля прывычкі, ледзь не мэханічна. Аднак-жа пасьля граху самі на сябе гневаюцца і шкадуюць, што з імі так брыдка сталася. Хоць няраз і горача жадаюць пакінуць самагвалт, але дзеля прывычкі і дзеля слабасьці ўсьцяж да яго вяртаюцца. Бываюць між імі адзінкі выдатныя, ідэальнага палёту, каторым гэткі стан рэчаў спрычыняе вялікую прыкрасьць.

ДА ДРУГОЕ групы належаць такія, што ў падобны-ж спосаб увайшлі ў навык, але ня робяць сабе з гэтага найменшага клопату, каб яго пазбыцца. Гэта слабыя характары, бяз ніякае энэргіі. Яны ня могуць здабыцца на ніякія больш мужныя натугі,

ДА ТРЭЦЯЕ групы трэба залічыць тых, у якіх сэксуальныя гоны ўзялі верх над усімі пачуцьцямі і заразілі сабою ўсе думкі і жаданьні. Такія людзі стаюцца няздольнымі да вышэйшых



і шляхатнейшых думак. Іх можа зацікавіць толькі тое, што мае сэксуальную прынаду. Цяжка знайсьці адпаведныя словы, каб належна выказаць той брыдкі і гідкі ўзровень думак, пажаданьняў, гутарак ды гульняў гэткіх людзей.

***

Ясна, што паміж гэтымі трымя групамі, асабліва між першаю і трэцяю існуе вялікая розьніца і што іх у ніякім выпадку нельга мераць адною меркай. З людзьмі першае групы можа здарыцца (ня цьвердзім, што заўсёды так ёсьць), што часам паміма праўдзівых стараньняў, захоўваючы ўсю асьцярожнасьць, каб унікнуць нагоды да граху, і ня гледзячы на шчырую малітву і прыступаньне да сьвятых Тайнаў, пасьля даўжэйшае барацьбы супраць граху, — некаторыя з іх яшчэ падаюць і аддаюцца ў палон спакусе, аднак гэткі ўпадак ня ёсьць цяжкім грахом, бо ў выніку раздражненьня і замяшаньня ня было ані належнае развагі, ані так-жа зусім дабравольнае згоды на грэх. Аднак трэба засьцерагчыся, што не заўсёды лёгка можна вырашыць у гэткіх выпадках аб ступені грахоўнасьці, дзеля гэтага самая заўвага ня можа быць штуршком да лёгкадумства; яе можна ўважаць толькі нейкаю, хаця і нязначнаю, пацехаю для ўсіх тых, каторыя шчыра стараюцца ўсьцерагчыся граху, але часам паддаюцца гвалтоўнай спакусе. Калі-б аднак хтосьці зразумеў гэтую заўвагу ў гэткі спосаб, быццам пры напоры моцных спакусаў уканцы можна ім уступаць, — дык ужо самая гэткая думка была-б грахом.

Наступствы самагвалту для фізычнага разьвіцьця арганізму залежаць ад розных абставін, асабліва ад частасьці паўтараньня гэтага праступства. У кожным выпадку яны дзейнічаюць на арганізм падобна да глыбокага надрэзу на кары маладога дрэва раньняю вясною, з якога выцякае сок, патрэбны дрэву да росту. Дзеля гэта-



3

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

га найбольш адпаведным сказам для азначэньня самагвалту быў-бы: дзейнасьць накіраваная на аслабленьне самога сябе. Самагвалт уводзіць закалот у спакойнае разьвіцьцё насенных залозкаў, змушаючы іх да дзейнасьці, якую толькі праз некалькі год павінны былі-б спаўняць, гэтым самым робіць трудным выкананьне цяперашняга заданьня, што адносіцца да тых нутраных сэкрэцыяў, якія наагул спрычыняюць розьніцу плоці.

Праўда, не заўсёды ў аднолькавы спосаб праяўляюць сябе тыя няшчасныя вынікі, але ў бальшыні выпадкаў пры частым паўтораньні граХоўнага налогу, гіне фізычная і духовая сьвежасьць, а на яе мейсца прыходзіць перадчаснае перамучаньне і вяласьць, за чым усьлед ідзе прыгнобленасьць; позірк стаецца прыцьмёны і неспакойны; падвяўшыя, сьцягнутыя і быццам пераЖытыя абліччы тых няшчасных будзяць літасьць у іншых і зраджваюць аж надта выразна праступнае парушэньне жыцьцяносных сілаў. Нават рэдкія выпадкі ўпадку праяўляюцца ў сумных наступствах.

Шмат аб гэтым гаворыць вось гэтае прызнаньне маладога чалавека: «Падмануты нядобрым прыкладам у 14-тым годзе жыцьця, трапіў я ў налог самагвалту. Толькі дзякуючы дакладу айца ўсьведаміў сабе ясна маё дзеяньне ад некалькі гадоў. Мая гордасьць перашкодзіла мне зьверыцца перад айцом. Цяпер я перамог тыя цемры і грэх. Гэта сталася не бяз цяжкога змаганьня, але затое цяпер маю ўражэньне, быццам з мяне зваліўся аграмадны прыгнятаючы цяжар. Цяпер чуюся вольным, шчырым, чэсным і чыстым чалавекам!» Далей ён прызнаецца: «Даўней на пытаньне: Як маешся? адказваў: Сяк-так. Цяпер я поўны надзеі. Усе дзівяцца з майго зьмененага выгляду; даўней усьцяж бледны і кволы, цяпер я сьвежы, поўны і здаволены, як тое сонейка на ўсходзе».

Іншы ліст можа не аднаму памагчы і дадаць адвагі: «Перадусім магу прызнацца айцу, што мне і надалей удалося вытрываць. Хоць часам і трудна, аднак рашучая і бадзёрая пастава ўздымае надзейны погляд на неба; пабачым хто сільнейшы, Бог ці чорт!.. і хто паможа да перамогі. Няхай гэта айцец скажа ўсім тым хлапцом, якія трапілі ў гэткае самае няшчасьце, што і я; зварот з гэтае дарогі ёсьць зусім магчымы і што ў гэтым паВароце і перамозе ўпаўшыя знойдуць шчасьце і супакой задаваленьня».



Неадрэчы тут паказаць на той стан, да якога можа пазьней давесьці хлапца грэх самагвалту, калі ён, будучы ў палоне гэтага граху, уступіць у сужэнства. Сумныя вынікі праяўляюцца пераважна толькі пры грахох трэцяй і часткава другой групы, а ў першай групе амаль не здараюцца зусім.

У дасьпяваючых маладых людзей, каторыя дабраволька і сьведама паддаюцца змысловаму пажаданьню і ў ім раскашуюцца, гэтае пажаданьне бярэ верх над думкаю і паводзінамі, заражае іхняе інтэлектуальнае жыцьцё, накіроўвае ўсе іхнія імкненьні і жаданьні так, што па-за сэксуальнай роскашшу нічога больш ня знаюць, што іх больш пацягвала-б, цешыла, або што было-б для іх прадметам годным большых стараньняў натугаў.

Ясна, што такія адзінкі і на сужэнства глядзяць толькі, як на магчымасьць здаволіць свае нізкія гоны. Жанчына-ж у іхных вачох спадае на ўзровень прылады, што дае прыемнасьць. Для годнасьці і красы бацькаўскіх абавязкаў, для шляхотнае і чыстае любові, для духовае прыгажосьці сужонкі і маткі, не стае ім ніякага зразуменьня. Адзіным іхным жыцьцёвым ідэалам стаецца нічым неакелзанае дагоджваньне похацям.

Потым мы пастараемся паказаць, якія страшэнныя наступствы можа мець для дзяўчыны падобнае настаўленьне хлапца адноса яе. Цяпер зьвернем увагу толькі на адно. Як было ўспомнена папярэдне, чыстая дзяўчына мае толькі жаданьне каханьня і нясьведамая нават пачуцьцёва-змысловых гонаў мужчыны. Яна іх не разу-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

мее, бо ў яе тыя гоны звычайна маўчаць, пакуль захоўвае дзявочасьць і, паводля сьведчаньня паважных лекараў, трэба вялікай далікатнасьці з боку шляхотнага мужчыны, каб каханая жанчына ў сужэнскім акце бачыла тое, што з Божае ўстановы павінна бачыць, гэта значыць доказ сьвятое, праўдзівае любові, вонкавы сымбаль духовага злучыва.

Вельмі-ж тады памыляюцца шматлікія мужчыны, думаючы, быццам дзяўчына мае тыя самыя пажаданьні, што й яны.

Дзяўчына, якая вырасла здалёк ад усялякіх спакусаў, разумее толькі духовую любоў. Калі яна туліцца да мужчыны, шукае ў яго пяшчотаў, гэта ёсьць праяў жаданьня, каб ля яго схавацца, знайсьці ў ім падтрыманьне, памоцніка і абаронцу, якому з поўным даверам магла-б аддацца без засьцярогі. Як-жа прыкрым для яе будзе адкрыцьцё, што таго, чаго шукала, не знайшла, і што перад тым, каму жадала даверыцца, павінна быць асьцярожнай, а нават, што нідзе ёй ня ёсьць так небясьпечна, як каля яго (таго сапсаванага з трэцяе групы); што гэта яна павінна мець сілу, каб яго і сябе бараніць перад упадкам! Нажаль неадна дазнаўшыся гэткага расчараваньня, толькі ўступае перавазе мужчыны і ня здолее нічога запярэчыць каханаму. У душы аднак часта чуецца сьмяротна нешчасьлівай, бо замест спадзяванага шчасьця, знайшла горкае расчараваньне.

Ад некалькі гадоў можна заўважыць новы кірунак у жаночым сьвеце, які ёсьць быццам бунтам супраць таго, як у бальшыні мужчыны разумеюць і выкарыстоўваюць свае сужэнскія правы. Можна пачуць думкі і сказы, што лепш вырачыся сужэнства, чым стацца нявольніцамі разбэшчанай юрлівасьці мужчын. «Лепш у дзеўках сівець, чым замужам паршывець». Шляхотную жанчыну абурае, калі бачыць, што яе муж ня мае ніякага зразуменьня для яе вышэйшых лятуценьняў і духовых патрэбаў, і што бачыць у ёй перадусім прыладу для задаваленьня сваіх юрлівых гонаў, ці ў лепшым выпадку — гаспадыню і старожку гаршкоў, але ня роўную сабе сяброўку жыцьця.

Тое, што гэткія мужчыны называюць любоўю, у сапраўднасьці зьяўляецца найбольш грубым эгаізмам і похацяй, каторая ня чуе і ня бачыць, якую страшэнную крыўду спрычыняе прадмету сваіх пажаданьняў. Такія мужчыны няздольныя заўважыць, як сваімі нізкімі пажаданьнямі і сваім надакучаньнем глыбока раняць пачуцьцё сужонкі, як нішчаць узаемную пашану, на каторай выключна апіраецца праўдзівая любоў, і як гэтым самым разбураюць назаўсёды тое з нічым не параўнанае, вялікае шчасьце, выцякаючае з любові. Не адна ня мела ўжо ясьнейшае хвіліны ад часу, калі па шлюбе пераканалася, да якога распусьніка сталася прывязанаю. Горкім жалем заліло ея сэрца пытаньне: «Як мой муж дайшоў да такіх рэчаў? Дзе ён гэтага навучыўся?» Адзін з найвыдатнейшых лекараў, нэрвовых хваробаў кажа, што знаў не адно здарэньне, гдзе дзікая брутальная распуста мужа, ня толькі зьмяніла найдалікатнейшае каханьне ў найглыбейшую агіду, але спрычыніла нэрвовы растрой. Яшчэ горшае ўражэньне выклікае заўважаная пазьней у мужа бяссорамнасьць адносна ягонага разуменьня плоцьнага сужыцьця і любові наагул. Тады ў душы жанчыны родзіцца цяжкое змаганьне з расчараваньнем і зьнішчэньнем усіх лятуценьняў аб шчасьці і любові. Часта гэтым расчараваньнем здушваецца больш шляхотная любоў жанчыны, а пасьля ўжо можа быць толькі гутарка аб цярпеньні і пераношаньні няшчасьця.

Дый ня трэба забывацца, што сужэнства ня ёсьць бесперапыннай крыніцай роскашаў каханьня. Яно толькі дае права да заспакаеньня ў дазволены спосаб плоцьнага гону, але не дае легітымацыі для дагоджваньня ўсім ягоным прымхам. Праўдзівая любоў вымагае прыняць пад увагу жаданьні і настроі сужонкі і зразуменьня, што ў сужэнстве бываюць так-жа абставіны і пэрыяды, калі паўстрыманасьць ёсьць абавязкам мужчыны. Тыя, каторыя гэтага ясна і выразна не




© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

ўсьведамілі і не здабылі патрэбнага самаапанаваньня, могуць апынуцца ў вельмі цяжкай сытуацыі, калі не жадаюць для свае юрлівасьці ахвяраваць сваю душу і ўсё сямейнае шчасьце.

Гэткім спосабам не адзін у сваіх маладых гадох рыхтуе ўжо напярод руіну прышлага магчымага шчасьця ў сужэнстве. Хтосьці мог-бы на гэта сказаць, што ёсьць і такія людзі, якія пасьля вельмі лёгкадумнае маладосьці, счасам сталіся добрымі і дастойнымі мужамі і бацькамі сем'яў. Хто аднак зможа глянуць глыбей у іхныя душы, пераканаецца, што зьверхнасьць мыліць. Плоцьнае надужываньне ніколі не праходзіць бясьсьледна. Нізкі сьвет думак проста не даецца вырваць з карэньнямі, каб яго льга было заступіць іншым сьветам. Часта ўсё духовае жыцьцё нізка ўпаўшых людзей стаецца нявылячальна хвараблівым, або і зусім згубленым. У першую чаргу ў іх аслабленая воля для змысловых падражненьняў, бо ніколі ня прывыклі да перамаганьня пажаданьняў. Лёгка тады яна ўступае пры кожнай нагодзе.

Узяўшы пад увагу ўсе тыя шкоды, якія не даюцца направіць, варта спытацца; чым-жа вабіць да сябе самагвалт? Магчыма дае некалькі хвілін змысловае прыемнасьці, якая ў кожнага чалавека хутка перамяняюцца ў абрыдласьць... Ці-ж гэта само не паказвае на патрэбу энэргічнага змаганьня з ім?



## РАЗЬДЗЕЛ 5.

### Недасьпелае каханьне.

Калі пэрыяд разьвіцьця маладога чалавека праходзіць нармальна і здаровымі шляхамі, тады ў ім нават не адзываецца патрэба навязваньня бліжэйшых адносінаў з дзяўчынай. Гэта для яго ёсьць нешта такое, што яго зусім ня цікавіць. Апрача таго ён чуў ад сваіх бацькоў і ад сваіх душпастыраў, што гэта ў ягоным веку «не на мейсцы». І гэтага яму даволі, каб згасіць першыя пажадлівыя мроі, тымбольш, што ягоныя заняткі і абавязкі не пакідаюць шмат часу. Да таго сумленныя бацькі глядзяць за сваімі дачушкамі і толькі ў іхняй прысутнасьці могуць адбывацца спатканьні з іншымі асобамі. Бяз сумліву было-б багаславенствам, калі-б усюды княжылі падобныя звычаі. Нажаль сёньняшнія часы зусім іх занядбалі.

Нездаровая і перадчасная сьпеласьць спрычыняе перадчасную юрлівасьць плоцьнага гону. Гутаркі, прыклад іншых, зараза кіна, тэатр і ўсялякага роду разрыўкі, чытаньне немаральных раманаў, танцы і агулам дух часу скіраваны на расьпяразанасьць, выклікаюць у маладога хлапца думкі, да каторых сам ніколі-б не дайшоў.

Найгоршым уплывам кіна ёсьць тое, што моладзь можа ў ім пабачыць, як гэта брацца за падобныя знаёмствы. Пасьля чаго яны насьледуюць толькі тое, што бачылася.

Такім чынам штучна пабуджаецца гон і расьце смага пакаштаваць юнацкае любові. Не адзін жадае пазнаёміцца з дзяўчынай толькі дзякуючы інстынкту насьледаваньня, бо думае, што гэтак выпадае запраўднаму маладому мужчыне; ня хо-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

ча астацца ззаду за іншымі... Потым хваліцца, калі яму ўдалося ў падлётку-дзяўчаці абудзіць да сябе «зацікаўленьне».

Цяпер з поўным супакоем разглянем прычыны, дзеля якіх пад ніякімі ўмовамі нельга пазволіць на перадчаснае залётнае знаёмства з дзяўчынай. Каб ня было непаразумленьня, перш-наперш трэба зрабіць наступную заўвагу. Можа здарыцца, што між запрыязьненых сем'яў знойдзецца двое людзей так сабе дабраных, што будучае іхняе сужэнства выглядае толькі справаю часу. Яны прынагодна спатыкаюцца і сабе ўзаемна падабаюцца і прыдзе час, калі напэўна ажэняцца. Бяз сумніву гэткаму знаёмству ня толькі ня можна працівіцца, ці рабіць закіды, але падобныя абставіны для іх ёсьць вялікай карысьцю.

У далёйшым маю на воку тыя залёты і каханьні, што нажаль вельмі часта маюць мейсца сярод моладзі, якая ледзь зьлезла са школьнае лаўкі, або толькі распачала вышэйшыя студыі, — або агулам ёсьць у гадох, калі для іх сужэнства яшчэ вельмі далёка і ў гэткім стане завязвае знаёмства дзеля таго, каб загадзя пазнаць прыемнасьць сантымэнтальных адносінаў.

Перадусім, колькі-ж гэта трацiцца дарагога часу і марнуецца найлепшых сілаў праз гэтыя чульлівыя уздыханьні і пустыя гутаркі! Такі малакасос затрачвае сотні гадзінаў з аграмаднай крыўдай для ўласнае адукацыі і вучобы! Пачуцьці, каторымі ён усьцяж заняты, паглынаюць ягоныя думкі, зьядаюць волю і ён ня мае ані часу, ані сілы адрабіць свае абавязковыя заняткі. Не адзін вучань толькі дзеля гэтага не атрымоўвае належнага пасьведчаньня пераходу ў вышэйшую клясу. З усякім імкненьнем ёсьць гэтак, што яно быццам бярэ ў палон думкі і волю чалавека, пры чым усе іншыя зацікаўленьні адходзяць на бок. Калі тое, да чаго імкнецца, не асягне, ня будзе мець супакою. Дзеля таго ёсьць бязглузьдзем і ненатуральнасьцю лятуцець за нечым — можа нават і цэлымі гадамі — ня маючы пры тым ані



магчымасьці, ані волі, каб асягнуць канчатковую мэту гэтых лятуценьняў. Пэўне-ж неадзін сябе і другіх угаварвае, што жадае ў будучыні сужэнства, але гэта амаль заўсёды ёсьць самаашуканствам. Праўдай ёсьць тое, што мілы тварык, ці іншыя вонкавыя прынады, так іх заблыталі ў сільлё, што ня могуць з іх вызваліцца. Драбніцы могуць прыкончыць падобныя знаёмствы, а да таго абое яшчэ за маладыя, каб належна ацаніць значэньне падобнага выбару і ягоныя наступствы. Тут перадусім павінны быць меркаю нутраныя вартасьці, а ня змысловы пацяг. Жыцьцёвае дасьведчаньне кажа, што з так званых «студэнцкіх каханьняў» ані нават адно на сто не даводзіць да сужэнства.

Выпрабленьне характару так-жа спатыкае шмат перашкодаў дзеля нясьпелага каханьня. Такі малакасос зусім ня лічыцца з тым, чаго ад яго вымагаюць права і абавязак, але брыдзе насьлепа туды, куды яго накіроўвае нахіл, не зважаючы на голас розуму і сумленьня. Праз нядбаласьць ён пазбаўляе сябе найважнейшага дапаможніка, які прычыняецца да выпрабленьня бадзёрай, моцнай і самастойнай мужчынскасьці — апанаваньня і перамогі самога себя. Ён марнуе найлепшыя нагоды да ўзмацненьня нутранай сілы і вольнасьці. Усе настроі, пляны і лятуценьні існуюць акурат дзеля таго, каб чалавек навучыўся імі валодаць. Замест таго, каб быць іх нявольнікам, чалавек павінен стацца іх валадаром і гэта моцай свайго духу. Калі нехта дазволіць сабе заблытацца ў нейкае нясьпелае каханьне, адразу ім пачынаюць кіраваць пажаданьні ніжэйшае катэгорыі. Аблытаны імі, натужвае свой розум толькі ў тым кірунку, каб ім дагадзіць. Тады выходзяць на бок усе вышэйшыя, праўдзівыя і найбольш асабістыя інтарэсы. Такім чынам ніколі ня будзе самастойным характарам той, хто ня зможа запрэгчы плоцьнага гону да свайго жыцьцёвага пляну, але сам дасца кіраваць гонам, а гэтыя, як той дэспат, — усіх фармуюць на аднолькавы капыл.



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

Гэтым самым шуканьне і завязваньне нясьпелага каханьня ёсьць азнакаю чалавека «нізкага маральнага палёту». Першы ўзрух плоцьнага гону кладзе гэткага дарастаючага мужчыну на абедзьве лапаткі. Ледзь той гон паказаў сябе, а ўжо яму такі гэрой паддаўся і бяз ніякага супраціву дазваляе ўзьдзець на сябе ягоныя кандалы.

Запраўды жалка глядзець на тых, што ў сваіх уласных вачох выдаюцца вялікімі таму толькі, што пачуўшы подых мужчынскага інстынкту, лічаць найпільнейшым заданьнем свайго жыцьця поўнасьцю яму паддацца. Розум, скінуты са свайго людзкога пасаду, ідзе на ўступкі плоцьнага гону. Усе хаценьні таго гону для такога падрастаючага нявольніка становяцца загадам і знаходзяць у ім дабравольны і бязузглядны послух. Усё, што думае і што робіць такі нявольнік, ужо ня ёсьць вынікам яго «я», але таго сьляпога гону і носіць на сабе сьляды таго-ж гону. Бо ў запраўднасьці гэтаму нешчасьліваму чалавеку ня ёсьць важным, ці ён калісь саўе сямейнае гняздо, знайшоўшы сяброўку жыцьця; ён шукае выключна задаваленьня плоцьнага гону для свае прыемнасьці — не зьвяртаючы ўвагі на мэты і правы ўстаноўленыя Створцам.

Гэта акурат ёсьць супраць натуры, ёсьць чымсьці самым у сабе несправядлівым і дзеля гэтага забароненым. Пры гэтым уся псыхалёгія маладога юнака знаходзіцца быццам у атмасфэры сапсутага паветра. У нармальных абставінах нахіл двух сэрцаў павінен прывесьці ў кароткім часе да сужэнства. Кожнаму, хто азнаёмлены з жыцьцём, ведама, што закаханыя спачатку бываюць проста вывіхнутыя з духовай раўнавагі. Слушна гаворыцца аб вар'яцтве каханьня, якое агортвае абодвых. Толькі па нейкім часе, паволі яны прыходзяць да сябе. І калі малады чалавек гоніцца за гэткім хмелем усёю сваею істотаю, каб перажыць прыемнасьці каханьня, гэтым самым змушае сябе быць усьцяж у ненармальным стане. Дзеля таго аднак, што гэты стан панявolі



ўплывае на развой плоцьнага нэрвовага строю, які ў юнака знайходзіцца ў стадыі фармаваньня, а тым самым і на насенныя залозкі, дык мусовым наступствам гэтага будзе трывалы, нездаровы, хваравліва раздражнены стан гэтых залозкаў, што спрычыняецца да шматлікіх гвалтоўных спакусаў.

Такім чынам усё ягонае думаньне стаецца прасякнутым сэксуальнымі вобразамі і няма там ані мейсца, ані часу, ані зразуменьня для вышэйшых рэчаў. Гэта перашкаджае дайсьці да духовага дасьпяваньня; узровень думак астаецца нізкі, разважаньне плыткае і нярэдка прыходзіць лёгкадумства адносна духовых вартасьцяў. Такая адзінка становіцца малавартаснай ува ўсіх галінах.

Тут знайходзіцца яшчэ небясьпека іншага роду, у якую трапляе малады чалавек. Закаханы ня хоча быць горшым ад другіх; ён лічыць сваім абавязкам несьці розныя ахвяры для «выбранае свайго сэрца», купляць ёй падарункі. На гэта аднак не дазваляе ягоная пустая кішэня. Тады распачынаюцца зладзействы і абман, якія ўдаецца хаваць толькі да пэўнага часу. Пасьля для бацькоў тут адчыняецца крыніца суму і прыгнобленьня. Неадзін тады траціць заработак і пасаду, стаецца безработным і пачынае валацужнае жыцьцё — пачатак усялякага праступства.

Але мы яшчэ ня ўспомнілі аб найбольшай небясьпецы, якая часта йдзе неадлучна з перадчасным каханьнем. Ці-ж запраўды ўсё канчаецца, як мы дагэтуль дапускалі, толькі самым флíртам, уздыханьнем і чульлівасьцю? Магчыма, што каханьне ня выходзіць за межы пэўнага рамантызму, пакуль розныя абставіны не дапускаюць на большае збліжэньне. Але хай толькі абставіны зьмяняцца, адразу дайходзіць да большае зажыласьці, а вынікі гэтага стаюцца вельмі небясьпечныя.

Звычайна юнацкае каханьне не праходзіць так нявінна, як гэта магло-б здавацца. Бо нахіл да



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

асобы іншае плоці па сваёй сутнасьці мае ў сабе той неспакой, каторы можа быць задаволены ня інакш, як толькі ў акце сужэнскага самааддањня. Гэта ёсьць істотная розьніца паміж нахілам да асобы іншай плоці і паміж усякай іншай любоўю ці прыязьню. Праўда, кожная любоў імкнецца да нейкае злукі. Бачымо гэта ў маці, тулячай да сябе дзіцятка; у прыяцялёў, што кідаюцца сабе ў абыймы. Але ім гэтага дастаткова, прытым яны не адчуваюць ніякага цялеснага закалоту, каторы будзіцца адразу, калі толькі прыбліжаюцца да сябе асобы іншае плоці.

Бяз сумніву напачатку, калі адкінем грэшныя намеры, астаецца толькі духовы нахіл. Адзін другога кахае, ўзаемна разумеюцца і прыемна ім быць разам. Іх сэрцы напоўненыя радасным адчуваньнем, каторае неканешне павінна мець у сабе нешта сэксуальнае. Гутараць, адкрываюць адно перад другім тайны свае душы, свае пляны і пажаданьні. Такому нахілу зусім свойска, каб ён праявіўся ў вонкавых знакох. Пачынаюцца пяшчоты, цалункі абыймы. Гэтае фізычнае збліжэньне, а так-жа ўвесь той сьвет думак будзіць (і то неабходна) натуральныя плоцьныя гоны. Памятайма, што ўпадабаньне і каханьне ня ёсьць нічым іншым, як часткай плоцьнага гону і што абодва гэтыя дзейнікі вельмі на сябе ўплываюць, так што калі разбудзіцца адзін з іх, канешне павінен выклікаць абуджэньне другога.

Праявы, каторыя выклікаюць разбуджаныя гоны ёсьць розныя, згодна з тэй роляй, якую адна і другая плоць граюць у акце злучэньня. У юнака ўзрух плоцьнага гону спрычыняе фізычнае напружаньне і высілак, каб задаволіць сэксуальны інстынкт. Затое ў дзяўчаці «раскаханасьць» выклікае такі стан умысловага раздражэньня, каторае як паралюш забівае ўсякае супраціўленьне і волю. Квола тады туліцца яна, плача ў абыймах мужчыны, паддаецца яму бяз супраціву і гатовая споўніць ўсякага роду самадур. Гэтак крочыць у далейшым натуральнае разьвіцьцё плоцьнага гону. Затрымаць яго тады, або пагасіць рэдка каму ўдаецца. З напорам і з бязьлітаснай канешнасьцю імкнецца гэты найсільнейшы і найбольш падступны з гонаў да мэты свайго прызначэньня і ня дасьць чалавеку супакою, пакуль гэтага прызначэньня не асягне.



Пагаджаемся з тым, што шматлікія, каторыя распачынаюць нясьпелае каханьне, ня думаюць сягаць да крайнасьці. Нават з абурэньнем адкінулі-б яны падобны закід, бо ім нават праз галаву ня прайшло штосьці падобнае. Ня хочам сумнявацца ў чэснасьці іхных цьверджаньняў. Можа здарыцца, што неадзін ня пойдзе аж так далёка, бо ў час заўважыць разрываючыя яго буры і неспакой, ды перарве знаёмства ў адпаведны час. Праўда гэткі разрыў трэба будзе доўга адхварэць. Дазволілі на ўзгадаваньне ў сабе нахілаў, каторыя запоўнілі ім усю душу, а цяпер не стае належнага заканчэньня гэтых нахілаў ,якім ёсьць сужэнства.

Можа здарыцца, што пройдзе шмат часу, пакуль дойдзе да тае крайнасьці. У гэтым аднак месьціцца ўвесь трагізм нясьпелага каханьня, падтрымованага толькі дзеля яго смаку, **што імена нястача сапраўднае мэты адбірае яму тую маральную павагу, каторая адзіная можа ўтрымаць яго ў межах належнае прызваітасьці.** Калі хто ня мае сілы аперціся гонам, каторыя набліжаюцца да яго слабенькімі звычайнымі нападамі, дык якжа зможа аперціся тады, калі гэтыя гоны будуць прыманьваць яго найвышэйшай роскашшу, якую толькі даць могуць? Калі ня будзе мець моцы адрачыся ад дробнае прыемнасьці, дык не зрачэцца і тае крайне-апошняе.

Вельмі сумнае дасьведчаньне вучыць, што гэткі ёсьць нямінучы канец таго працэсу. Штохвіліны пачынаць яго, а пасьля ў палавіне перарываць — гэта палюдзку немагчыма.

Ці-ж наагул магчымая праўдзівая прыязьнь паміж асобамі рознае плоці? Каб адказаць на гэтае пытаньне, перадусім трэба сьцісла азначыць



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

паняцьце, якое хаваецца пад словам «прыязьнь». Бяз сумніву, што прыяцельскае сужыцьцё, якое паўстае звычайна паміж знаёмымі сем'ямі, павінна абымаць так-жа і маладое пакаленьне ў гэтых сем'ях. Кепска сьведчыла-б аб тым маладым чалавеку, каторы ў падобных абставінах ня ўмеўбы захавацца ў адносінах да маладое дзяўчыны з прыемнай і свабоднай ветлівасьцю, не парушаючы пры гэтым усюды вымаганай прызваітасьці.

Але такая доўгая сардэчная прыязьнь, што спатыкаецца паміж хлапцамі ці юнакамі, ня дасца ўтрымаць у тых самых межах між дзяцюком і дзяўчынай. Нават пры сьпелых, зусім выробленых характарах было-б гэта магчыма толькі ў вельмі вынятковых абставінах, «калі, — як кажа ведамы пісьменьнік і мараліст Альбін Штольц, — душа ўзьнялася вышэй прызямельля», а плоцьныя гоны або знаходзяць у чым іншым належнае задаваленьне, або яны акялзаныя цуглямі цноты, здабытай у доўгатрывалым змаганьні з сабою і нярaз ужо выпрабаванай. Аднак акурат неадна скандальная гісторыя сваім карэньнем сягае да таго самаабману, што быццам іх двое злучыла толькі шчырае сяброўства, а фактычна йшлі сьледам за нахілам сэрцаў, каторы зьяўляецца духовай часткай плоцьнага гону і каторы, бяз сумніву, папіхаў іх у сваім кірунку.

Моладзь бяз жыцьцёвага дасьведчаньня, а затым ня маючая змогі ацаніць таго ўсяго важнага, што ў яе прабуджаецца, будучы ў гадох, калі наймагутнейшы з гонаў разнаякімі спосабамі шукае сабе дарогі да заваладаньня сэрцам, яна ня зможа ўтрымаць такога сяброўства, што апіраецца толькі на ўзаемнай пашане і пэўным лёгкім узаемным нахіле аднаго да другога. Тут неабходна дойдзе змысловае каханьне, якое накіне на іх свае кандалы. Асабліва для дзяўчаці трудна адрозьніць сяброўства ад мілоснага нахілу, бо ў яе звычайна змысловы гон дрэмле, тады калі ў юнака своечасова будзіцца адчуваньне, якое яго перасьцерагае, што тое, што ім пачынае аваладваць, ня ёсьць нявіннае.



Вышэй сказаныя заўвагі пацьвярджаюцца прызнаньнямі маладых людзей, каторыя жадалі аставацца для сябе толькі сябрамі, але ўканцы павінны былі сказаць, што тое, што іх вяжа, ужо ня ёсьць **толькі** сяброўствам.

Юнак канчаючы гімназію, даўно ўжо лятуцеў уступіць у духоўную сэмінарыю. Ад некаторага часу ён сябраваў з дзяўчынаю, каторая яму падабалася. Яна ведала аб будучым намеры хлапца. Сяброўства іх мела быць чыстым, ідэальным. Яны ўхіляліся ад усякага зьбліжэньня, ніколі не пазвалялі на пацалункі. Калі юнак атрымаў матуру, на некалькі месяцаў яны разлучыліся, а калі ён вярнуўся, дык заявіў дзяўчыне, што канчаткова наважыў уступіць у сэмінарыю. На гэта пачуў словы: «Па-праўдзе гэта павінна-б мяне цешыць, але зразумееш хіба, што гэта мне ня прыходзіць так лёгка»... І прызнаўся пасьля той клерык-сэмінарыст перад сябрам, што завязваючы сяброўства зрабіў памылку, бо хто ведае, ці тая дзяўчына калі небудзь зможа пакахаць гэтак шчыра іншага, як яго.

Іншы малады чалавек знайшоўся ў падобным палажэньні. Абое адчулі небясьпеку новага пачуцьця, але абое зрабілі пастанову, даць яму станоўкі адпор, каб астацца для сябе толькі сябрамі. Калі запыталі пазьней таго маладога чалавека, як ён сабе ўяўляе сваю будучыню, адказаў: «Думаю, што на гэтую ахвяру ў мяне хопіць сілаў, ці яна гэта зможа — ня ведаю». — «А што зробіш, калі табе заявіць, што ў яе ня хопіць на гэта сілы? Што без цябе жыць ня зможа? Што ўсяго гэтага не перанясе?»

Гэтыя і ім падобныя прыклады паказваюць, што ў падобных выпадках, зьбліжэньне маладога хлапца да дзяўчыны ня ёсьць сяброўствам, але праявам плоцьнага гону.

Дасьведчаньне не пярэчыць магчымасьці, што адзінкам абдараваным нязвычайна моцнай воляй удаецца дайсьці да пэўнае ступені, ідучы за пачуцьцёвымі гонамі, і пасьля сіламоц зьвязаць гэ-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

ты гон і не дапусьціць да далейшага натуральнага разьвіцьця; лёгка аднак зразумець, што падобны гвалт пачуцьцяў ня можа стацца бяз шкоды для духовага развою.

Лепш бяз ніякае небясьпекі адрачыся здаваленьня плоцьнага гону, і ўсе ягоныя пабуджэньні тушыць бяз літасьці напачатку.

Магчыма так-жа, як мы ўспаміналі вышэй, што ў вынятковых абставінах у людзей сапраўды дасьпелых, займаючых становішчы, якое запаўняе зусім іхныя духовыя лятуценьні, можа заіснаваць чыстае сяброўства. Але маладыя нявырабленыя людзі, якія знаходзяць задаваленьне ў даверлівых блізкіх адносінах з асобаю іншае плоці, хаця-б і жадалі глядзець на сябе, як брат і сястра, ідуць заўсёды ў кірунку, у якім папіхае чуцьцёвы гон.

Сілаю права натуры імкнецца гэтае сяброўства, набіраючае сілы праз сулучнасьць, да далейшага ўласьцівага яму разьвіцьця. Не дапусьціць да гэтага раптоўна, раўназначна з гвалчаньнем натуры,што пасьля ўсёроўна адпомсьціцца якім небудзь спосабам. І гэтая помства заўсёды дасягала тых, што жадалі ўтрымліваць брацкія адносіны сяброўства. Гаворачы аб гвалтоўным тушэньні плоцьнага гону, трэба зацеміць, што шкоднасьць такіх адносінаў пакідае глыбейшы сьлед у дзяўчыны, бо ў яе гэты гон праяўляецца мацней.

Трэба так-жа заўважыць датычна сяброўства паміж хлапцом і дзяўчынай, што калі яно і было-б магчымым, дык толькі ў сьпелым веку, а не ў гадох разьвіцьця.Аднак наступствам такога сяброўства ёсьць тое, што дзяўчатам адпадае ахвота ісьці замуж. Па некалькі гадох ахвота вяртаецца і адзываецца з вялікай сілай, але тады ўсьведамляюць сабе, што сваімі-ж паводзінамі загарадзілі сабе дарогу да мацярынскае годнасьці, чаго цяпер усёй душой жадалі-б. Значыць самі стаптапі сваё магчымае шчасьце. Не адна дзяўчына была для маладога чалавека, паводля



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

ўласнага яго асьведчаньня, анёлам старажам, але,... коштам уласнае лепшае будучыні. Усё пазьнейшае яе жыцьцё сталася зьвіхненым.

Бывае і так, што доўгае нясьпелае сяброўства між маладымі людзьмі спрычыняе потым нядобрыя сужэнскія адносіны, калі прыяцелі сэрца стануцца мужам і жонкай, але з іншымі асобамі. Жыцьцё ў сужэнстве гэтых людзей ніколі ня бывае шчасьлівым.

**Трэба сьцьвердзіць, што адзінай згоднай з правамі натуры бліжэйшай сувязьзю паміж асобамі рознае плоці (памінуўшы адносіны між бацькамі і дзяцьмі) ёсьць сувязь паміж мужчынай і жанчынай у сужэнстве.** Унікліва выказвае гэтую думку Колёма ў повесьці «Бой»: «У жыцьці мужчыны толькі дзьве жанчыны маюць права адыгрываць ролю: родная матка і матка ягоных дзяцей. Усё, што з гэтай чыстай і сьвятой любоўю не пакрываецца, тое ёсьць або грэшным праступкам, або небясьпечнай памылкай». Гэтага Богам устаноўленага парадку нельга легкаважыць, каб ня трапіць у небясьпеку вельмі сур'ёзных наступстваў.

Маладзі ў веку дасьпяваньня, наагул не ўдаецца ўтрымаць адносіны між球 рознымі поламі ў межах брацкага сяброўства. На доказ гэтага а. Лінс прыводзіць, як цікавы прыклад, разьдзел з кнігі «Паромшчык» д-ра Рэкайса. Малады хлапец і дзяўчына пыталіся яго лістоўна, ці яны могуць стацца для сябе прыяцелямі. Пасьля доўгае развагі. а. Лінс пастанавіў зрабіць дасьведчаньне, ці такога роду сяброўства ня ёсьць немагчымым. Абставіны былі выняткова памысныя. Юнак прызнаўся, што праз гэтае сяброўства ён стаўся другім чалавекам. Бацькі дзяўчыны далі свой дазвол на сяброўства пад умовай, што яны заўсёды будуць ведаць, калі маладыя сустракаюцца. Адпісаў тады а. Лінс вельмі сур'ёзна і вызначыў непераступальныя межы сяброўства, мэтай якога мела стацца ўзаемная падтрымка на зорным і чыстым шляху.



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

Па даўжэйшым часе абое пераканаліся, што памыліліся. Ня гледзячы на спрыяючыя абставіны, ня гледзячы на тое, што духоўны апякун мог быць зусім пэўны, што абое, каторых знаў ад дзяцінства, былі натхнёныя шляхотнымі лятуценьнямі, што яны будуць прытрымоўвацца ягоных радаў і перасьцярогаў; ня гледзячы на тое, што яны жадалі толькі чыстага, шляхотнага сяброўства і спатыкаліся толькі з ведай бацькоў — на самым толькі чыстым сяброўстве ня скончылася. Любоўны нахіл будзіцца з напорыстым імкненьнем і разьдзьмухвае полымя, якога маладыя людзі ўжо ня ў стане апанаваць.

Некаторыя з маладых сябе пераконваюць і пастанаўляюць перарваць усе цялесныя адносіны, як толькі заўважаць, што знаёмства стаецца для іх небясьпечным. Яны забываюцца, што праступства, асабліва на самым пачатку, ёсьць вынікам не спакойнай развагі, але аднэю хвілінаю забыцьця ў якой палкасьці ўзялі верх. Пасьля гаворыцца: «Тады я ўжо ня ведаў, што раблю», «Не магу сам зразумець, як я мог гэтага дапусьціцца» — але ўсё ўжо пачасе. Да таго трэба ведаць, што пачуцьцё ўмее так завалодаць сэрцам чалавека, што бальшыня людзей ня мае сілы, каб парваць адносіны, хоць самі добра бачаць надыходзячую небясьпеку. Так выглядае праўда сьцьверджаная нязьлічанымі фактамі дасьведчаньня. Хто ня хоча паверыць тым, якія пераканаліся ў сваім жыцьці аб гэтай сумнай рэчаіснасьці, той пасьля на сваіх уласных перажываньнях сьцьвердзіць, што перасьцярогі былі слушнымі.

Узрушаюча скаржыцца ўпаўшая Грэтхэн у «Фаусьце» Гэтага:

О, Божа, усё, што туды мяне завяло,
Выдавалася добрым, ласкавым і мілым!

Бяз сумніву Грэтхэн ня мела ніякай праступнай думкі, калі йшла за поцягам сэрца. Для яе ўсё здавалася быць добрым і ласкавым, таму йшла не апіраючыся прывабам і ўпала.

Сумныя наступствы хаця-б толькі аднаго фальшывага кроку ёсьць неаблічальныя. Назаўсёды гіне непарочная чыстасьць цела. Нявіннасьць траціцца беспаваротна. Узьнёслае пачуцьцё захаванай чыстасьці, таго бясцэннага шчасьця нявіннае душы — крышыцца. Як некалі Адам і Ева, стоячы перад зачыненымі райскімі варотамі, з болем кіравалі вочы на згубленае шчасьце, так неадна душа стаіць затопленая ў жалю перад раем нявіннасьці, адкуль яе выгнаў грэх — а той рай ужо перад ёю ніколі не адчыніцца. Нявінныя чыстыя радасьці, якія меліся раней, страчаны беспаваротна. Адчыняюцца вочы, каб убачыць страхоцьце нядолі, ў якое трапіла душа цераз адзін грэх. Аднак жаль і плач страчанага раю нявіннасьці ня верне.

Больш таго: згінуў натуральны сполах, які раней асьцерагаў перад грахом. Заламалася сіла супраціву ў падобных спакусах; пахіснулася пачуцьцё пашаны для жанчыны. А з успаміну ўпадку карыстае юрлівасьць, каб пабудзіць смагу да новага граху.

Спраўджваецца нарэшце тое, аб чым з горкім болем у сэрцы кажа Давід: «Грэх мой ёсьць заўсёды перам маімі вачыма». Гэткае правіны не забудзешся ніколі.

Як іней кветкі, марозіць яна ўсякую радасьць. Усьцяж стаіць перад вачыма душы, каб мучыць сваімі ўспамінамі. Да апошняй драбніцы аднаўляе ў памяці ўсё тое, чаго чалавек дапусьціўся і корміцца мукай, каторую спрычыняюць успаміны.

А што-ж бядак можа прыдбаць, для выраўнаньня ўсіх тых стратаў? Каплю каротка-трывалае змысловае роскашы і нічога больш. І за гэта трэба плаціць найбольш цэннымі скарбамі сэрца і душы!

Дагэтуль мы гаварылі перадусім аб выніках, да якіх прыводзіць маладога чалавека нясьпелае юнацкае каханьне. Падобна-ж помстуе яно і на дзяўчыне, таму ўсё вышэй сказанае адносіцца і да яе. Толькі наступствы для яе шмат больш адчу-





© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

вальныя. Неадзін жоўтадзюб і не дадумоўваецца, як вельмі няшчаснай робіць ён тую, каторую пераконвае аб сваёй да яе «любові». Каб гэта паказаць ясьней, мы зьвернем увагу на яе розныя своиасьці душы.

Накіраваньне дзяўчыны да будучага прызваньня і становішча ў жыцьці ёсьць зусім адменнае чымся ў маладога мужчыны. Хлапец думае, вышаўшы са школьнае лаўкі, вучыцца шавецтву, кравецтву, сьлясарству і пад. Абітурыент думае аб праве, аб мэдыцыне, ці палітэхніцы. У сучасных умовах нямала дзяўчат так-жа хапаецца за падобныя прафэсыі, але здаецца не шматлікія цэняць гэтыя прафэсыі, як сваё прызваньне. Бо ў гэткіх прафэсыях жанчыны ніколі ня чуюцца, як рыба ў вадзе. Вельмі трапна заўважвае адзін з навачасных псыхалёгаў, што «праўдзівая жанчына вешае свой дакторскі бірэт на вешаку, калі прыходзіцца калыхаць сваё дзіцятка». Бо прызваньне жанчыны ёсьць мацярынства і дзеля гэтага ўзбагаціў яе Бог сапраўды ў дзіўны спосаб.

Найбольшае багацьце дзяўчыны ў яе чыстым, пабожным, чулым, добрым, міласэрным, спагадным і ахвярным сэрцы. Яна мае дар нязвычайна хуткае ацэнкі таго, што выпадае раіць, што можна і што шляхотнае. Гэтэ кажа:

Хто хоча ня зблудзіць у тым, што выпадае,
Ў жанчын шляхотных рады хай пытае.

Бяз лішняга мудраваньня, жанчына нясьведама меціць у тое, што належыць. Яе найвялікшым шчасьцем ёсьць: у поўным забыцьці сябе самое аддацца поўнасьцю турботам аб іншых. Няраз гэта дае яе вачом чароўную красу. Бывае, што яна тады зьзяе такою дабратою і салодкасьцю, такою зычлівасьцю і скромнасьцю, ахвярнасьцю і патульнасьцю, такою чыстасьцю і годнасьцю, што самі прыходзяць на думку словы паэты:



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

Ты падобна да кветкі прыгожай,
Гэтак ясна і міла, і чыста.
Твой пагляд у душы маёй можа
Абудзіць рой ідэй залацістых.
Так і хочацца з шчырай малітвай
Узьняць рукі да самага Бога,
І прасіць, каб цябе на век веку
Захаваў такой чыстай і гожай.

Неапісаным прывабам упрыгожвае Бог дзявоцтва. Гэта бачна ў далікатным подыху ненарушанай сьвятасьці; яно разьліта на ўсім, што дзявочае; у ім ёсьць пэўная няпрыступнасьць і сьведамая сябе паўстрыманасьць, у якой спалучаюцца адначасна аддалёнасьць са шчырай прыветлівасьцю навонкі. Гэта праяўляецца ў захаваньні поўным павагі, скромнасьці і прастаце поўнай шляхотнае годнасьці. Сустрэча з такою дзеваю ўзвышае чалавека і сэрца напаўняе чэсьцю да жаночае велічы.

Дык ці-ж ня ёсьць парступствам ламаць гэтак мілую краску-чалавека для свае прыемнасьці, каб пасьля яна сумна апусьціўшы галаву падсохла і змарнела?

Гэты далікатны подых дзявочасьці гіне праз нясьпелае каханьне. Дзяўчына, каторая зьнізілася да ролі забаўкі нейкага ўхажора-абібока тым самым выракаецца свае годнасьці, перастае шанаваць сябе і гэта хутка праяўляецца навонках. Яе паводзіны стаюцца лёгкадумнымі, гіне скромная паўстрыманасьць, яна пачынае страляць вачыма і на абліччы ў яе зьяўляецца зашмат свабоды. Чар нявіннасьці зьнікае.

Больш грозныя шкоды дзеюцца ў нутраным ладзе дзяўчыны. Зялёнае каханьне найчасьцей здараецца між 14 і 20 годам жыцьця. Тады якраз адбываецца нутранае разьвіцьцё органаў прызначаных да вялікіх мэтаў мацярынства. Гэты працэс, паводля аднагоднай думкі лекараў вымагае нармальнага садзеяньня ўсяго арганізму. Дзеля гэтага вельмі і вельмі пажадана, каб гэты працэс



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

адбываўся ў поўным супакою, бяз ніякіх забурэньняў.

Аднак узаемныя суадносіны між сэксуальнымі нэрвамі і адказваючаю ім уяваю муціць перадчасная любоў і парушае раўнаважнае дасьпяваньне.

У дзяўчыны пераважае чуцьцё, дзеля гэтага яе натура больш адчуваючая чымся ў хлапца, а тым самым ўсякае перажываньне ў яе адбываецца больш гвалтоўна і глыбей патрасае яе нутраным жыцьцём. Калі яе розум і ўвесь пачуцьцёвы лад знаходзяцца на шляху поўнага разьвіцьця, тады ўсякія нутраныя забурэньні ўплываюць на іх шкодна, а нават проста забойча. Дзяўчына лёгкадумна траціць праўдзівыя скарбы свайго сэрца і губляе гое, што мае найлепшае. Зьнікае далікатнасьць пачуцьцяў, што дагэтуль трывожліва бараніла ад усякае непрызваітасьці. І зразумела чаму, бо паступае супраць свайго сумленьня, супраць бацькаўскіх напамінаньняў і супраць прыказаньняў рэлігіі. Аўтарытэты блякнуць. Над усім гарою стае нахіл похаці. Новы сьвет змысловых думак авалодвае яе душою і выганяе пераможна ўсё вышэйшае.

Аднак тое, што гоніцца за фліртам ці каханьнем, ня ёсьць яе істотным «я» — гэта толькі гоны, якія дарваліся да ўлады і як тыран, жадаюць кіраваць асобай. Не адна дзяўчына, пакаштаваўшы любоўнае прыемнасьці, губляе зусім маральную сілу. Ня ўмее бяз іх абыйсьціся і дзеля таго пасьля аднаго каханьня йдзе другое, маральны ўзровень стаецца ўсьцяж ніжэйшым і ніжэйшым.

Нарэшце поўны грэх падгрызае яе істотную вартасьць. Малады мужчына лягчэй зможа працай у прафэсіі адвярнуць руйнуючыя вынікі сваей віны, бо ў яго гэта было перадусім збочаньнем з дарогі змысловага гону. Але ў дзяўчыны гэта будзе збочаньнем з дарогі пачуцьцёвага гону, што вельмі балюча парушае ўсё яе нутранае жыцьцё.

Зялёная любоў маладога чалавека ёсьць заў-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

сёды трагэдыяй фаўставай Грэтхэн. Душа дзяўчыны пасьля ўпадку хварэе, у выніку чаго вяне ўсё жыцьцё, а часам нават гіне. Мужчына, маўляў той матыль, што пырхае ад кветкі да кветкі, адлятае.

І вось як выглядае тое, ублытанае ў сільлё стварэньне: скаштавала крыху з чары роскашы і згубіла ўсю сваю вартасьць. Душа зьдзічэла, сэрца сталася пустым. Мінуў супакой — зьнікла зразуменьне для вышэйшых рэчаў. Воля аслабла, узьнялі галаву нізкія нахілы і прабудзіліся злыя, небясьпечныя гоны. Рэлігійнае пачуцьцё атупела; дзесьці зьнікні: маральны гарт і сьведамасьць адказнасьці за славу і ўчынкі.

Рэдка, з трудом і толькі часткова ўдаецца направіць гэтыя сумныя наступствы. І такія дзяўчаты маюць пасьля стацца маткамі!

А між тым — якое вялікае значэньне добрае маткі! Вялікі магунцкі біскуп Кэттэлер падчас аднаго свайго казаньня сказаў: «Найвялікшым дабрадзействам, якое Бог можа даць чалавеку ў прыродным парадку ёсьць бяз сумніву сапраўды хрысьціянская матка... Шчасьлівае тое дзіця, якое мае сапраўды хрысьціянскую матку, хаця-б яно выхоўвалася ў лахмоцьцях і ў лахмоцьцях зыходзіла-б у магілу. Як няхрысьціянская маці, хаця-б яна на словах і называлася хрысьціянскай, сваім падыходам заражае і труціць душу свайго дзіцяці, так наадварот пабожная маці ўлівае ў душу дзіцяці багаславенства. Калі добрая матка зьляжа ў магілу, а яе сын, кіданы бурамі жыцьця, гатоў пакінуць і веру і чэснасьць, і па нейкім часе знойдзецца на берагу пропасьці ля вечнай загубы — яшчэ і тады стоячая ў памяці шляхотная, чэсьцігодная постаць пабожнае маткі зможа яго проста цудоўнай сілай вырваць ізноў на шлях веры і дабраты».

Якіх толькі пахвалаў ня выказалі і не напісалі найвыдатнейшыя прамоўцы і паэты ў чэсьць добрай маці! Імя маткі мае ў вушох чалавека свой нявымойны гук. Зьвініць у ім глыбіня дабраты і



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

сэрца, вялікадушнасьці і цярплівасьці, ахвяры і вырачэньня, чулай і моцнай любові. Добрая маці для дзіцяці ёсьць чымсьці адзіным і адначасова ўсім; ёй давярае свой сум, просіць яе рады ўва ўсіх клопатах, ёй на вуха расказвае аб крывулях свайго жыцьця. Часам нельга было чытаць без хваляваньня вестак з поля бою ў часе вайны, каторыя паведамлялі, як раненыя жаўнеры сярод страшэнных цярпеньняў і енкаў клікалі сваю маму. Можна заўважыць, што на характары чалавека, каторы ня знаў свае маткі, лажыцца пэўны цень суму. Маладосьць без цяпла матчынай любові ёсьць вясной бяз сонца.

Ці-ж тады ня ёсьць гэта драконскім праступствам псаваць і нішчыць у будучых матках усё тое, што іх прыспасабляе да вялікае мацярынскае годнасьці? Забіваць у іх павагу жыцьця, багабаязьнь, далікатнасьць сэрца і пачуцьця і ў выніку ўсяго гэтага яны могуць стацца толькі кепскімі, або менш добрымі маткамі для сваіх дзяцей; ці--ж гэта ня злочын?

Ці-ж гэта будзе перасол, калі назавём таго чалавека імем разбойніка і бандыты, каторы дзеля хвілёвага патураньня сваёй юрлівасьці нахабна ўлазіць у сьвятыню дзявочага сэрца і, аграбіўшы ў яе найкаштаўнейшыя скарбы, ідзе ў сьвет з бястурботнай замашкай аб тым, што за сабою пакінуў? Сапраўды ён горшы за бандыту, бо ўкрадзеныя зямныя скарбы можна яшчэ зьвярнуць, але скарбаў адабраных дзяўчыне праз лёгкадумнае каханьне ўжо ёй ніхто і ніколі ня верне.

Але ня ўсе дзяўчаты прызначаны да сужэнства. Як горкім будзе для іх успамін, што калісь у маладосьці нехта лёгкадумна іграў з іх сэрцам пад прыкрыцьцём любві, а мо нават і з ім страціла чэсьць і нявіннасьць! Сьлёзы і нараканьні, якія вырываюцца потым: «Каб мяне ня было ніколі...!», «Каб я жывой на сьвет ня прыйшла...!» — каб-жа яны здолелі направіць зробленую крыўду! Але рака не цячэ назад на наша жаданьне!

А ёсьць і іншыя — пакліканыя да вышэйшых рэчаў. Да іх калісьці Госпад зьвяртаўся: «Пачуй, дачка, і глянь ды прыхілі вуха тваё і забудзь ты народ свой і дом бацькі твайго. І калі Цар зажадае красы твае, сукланіся Яму, бо Ён Валадар і Бог твой». (Пс. 44, 11-12). Яны маюць быць закліканы ў карагод тых, каторыя Хрыста выбралі за валадара сваіх сэрцаў, каб усю сваю любоў прынесьці Яму ў ахвяры. Як тады асудзіць Сын Божы таго, хто прызначаную Яму душу давёў да бессаромнай палюбоўніцы, а можа нават абясчэсьціў і зьвёў на бездарожжа? Ці такі не павінен баяцца, што падобнае праступства сьцягне на яго жыцьцё страшэннае пракляцьце?

Хочацца быць пераконаным, што ні адзін беларус юнак, каторы хоць крыху падумае, якую крыўды спрычыняе дзяўчыне, ачмураючы яе залётамі з лёгкай рукі, ніколі не дазволіць у адносінах да яе на падобнае злачынства. Нягодным чэснага чалавека ёсьць той, што з сэрца дзяўчаці робіць забаўку для забіцьця часу! Сама любоў да свае каханае маці павінна паўстрымаць маладога чалавека ад суадносінаў, праз якія дзяўчынабудучая маці магла-б стацца менш добрай, або і зусім кепскай маткай. Якім чынам выпраўдаецца той, хто праз лёгкадумства і жаданьне гульні спрычыніўся да таго, што іншыя ня мелі добрай, чэснай і чыстай маці? А яшчэ страшнейшай брыдоты дапусьціўся-б той, хто скрыўдзіў-бы выбраную і пакліканую ў службу Госпаду.

**Маладосьць — гэта час падрыхтаваньня, вясна жыцьця, час росквіту. Калі хочаш асеньняй парою зьбіраць плады, дык ня маеш права маёвымі днямі рваць квітнеючыя галінкі і з іх віць вянок для пустое гульні.**





© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

## РАЗЬДЗЕЛ 6.

### Незаконныя зносіны.

Мы ўжо бачылі, як нясьпелае каханьне, калі яно ў пару і хутка ня будзе спынена, усёроўна завядзе да граху. Калі-ж яно і ў далейшым падтрымоўваецца праз грэх, тады сходзіцца на іншае бездарожжа, якім маем тут заняцца. Гэтым бездарожжам ёсьць незаконныя зносіны, або незаконнае сужыцьцё. Гэтым назовам азначаюцца тыя грэшныя зносіны, у якіх пазьнейшае сужэнства не бярэцца пад увагу. Мы тут ня зьбіраемся цьвердзіць, быццам кожная незаконная сувязь пачынаецца ад нясьпелага каханьня. Ёсьць шмат такіх людзей, якія ў гадох дасьпяваньня ня мелі ніякіх бліжэйшых знаёмстваў, а пазьней ужо ў дарослым веку адразу пачалі блудзіць ад незаконных зносінаў. Адны з іх адразу складаюць аружжа перад змысловымі прывабамі, або іх зводзяць дрэнныя прыклады, падслуханыя гутаркі, кінотэатры, кніжкі-раманы і пад. Другія, каторыя дзеля свайго цяжката эканамічнага палажэньня вельмі позна маглі-б заняцца сваім сямейным жыцьцём, шукаюць на блуднай дарозе задаваленьня плоцьнага гону, бо барацьба з ім для іх выдаецца непасільнай, або яны ня думаюць зусім сябе чым небудзь зьвязваць. Свае паступкі яны стараюцца апраўдаць сказам, быццам гэты гон немагчыма апанаваць, а прымусовая паўстрыманасьць шкодзіць на здароўе. Ведаем ужо з раней наведзеных высказаў сумленных вучоных і лекараў, колькі ёсьць варты падобныя апраўданьні.

Бяз сумніву трэба з тым згадзіцца, што захаваньне чыстага жыцьця сярод небясьпек сёньняшніх часоў, у атручанай атмасфэры, якая нас акружае, пры агульным нэрвовым аслабленьні так уроджаным, як і набытым — ёсьць рэччу даступнаю і магчымаю толькі для тых, каторыя беззасьцярожна і прынцыпова жадаюць весьці чыстае жыцьцё і адначасна ўжываюць, адпаведных да гэтага і прыродных і надпрыродных спосабаў. Усім тым, хто-б гэтаму супярэчыў, адказам ёсьць дасьведчаньне, якое кажа, што гэта магчыма! Толькі трэба паважна гэтага хацець ды цьвёрда і ўпарта ўзяцца да барацьбы.

Самое паняцьце незаконнае сувязі паказвае, што ў ёй вельмі моцна выяўляюцца ўсе дрэнныя наступствы нясьпелага каханьня. Тут мы абмяжуемся да абгавораньня галаўнейшых з іх.

Малады чалавек, каторы падтрымоўвае незаконную сувязь, робіць бязмэтнымі плоцьныя зносіны. Ён шукае іх для іх самых. Гоны ўзялі ў ім верх. Ня дух і душа кіруюць ягоным целам, але кожны ягоны крок робіцца пад уплывам сэксуальнага інстынкту. Наперакор дамаганьням сумленьня, наперакор голасу здаровае развагі выбірае тое, чаго хоча пажадлівасьць цела. Ён папросту стаецца нявольнікам цялеснае пажадлівасьці.

Калісьці Нітшэ слушна заўважыў: «Датуль ты астаешся вольным, пакуль сабакі ў табе выюць». Змысловыя гоны падобныя да неразумных жывёлаў, каторыя не зьвяртаючы на нішто ўвагі, жадаюць задаволіць сваю юрлівасьць і датуль выюць і яўкаюць, пакуль гэтага жаданьня не заспакояць. Але жывёлы ня маюць ані паняцьця прызваітасьці, ані голасу развагі, якія могуць стрымаць пажадлівасьць. Аднак іх можна муштраваць.

Як сумна глядзець на такога маладога чалавека, каторы ня толькі не бярэ моцна ў рукі тых выючых сабакаў, каб супрацівіцца іхным бясправным вымогам і такім чынам апанаваць іх, але наадварот сам стаецца іхным нізкім слугою і на шкоду сваёй душы ўсьцяж заняты толькі думкай, як ім дагадзіць.

Ён стаўся ахвяраю страшнай памылкі і абма-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

ну, Пажадлівасьці падшэптвалі яму, што задаваленьне іх прынясе яму праўдзівае шчасьце, споўняцца яго лятуценьні. Але пажадлівасьць можа задаволіць толькі ніжэйшую частку чалавека, толькі ягонае цела, але ніколі душы, сэрца. Ледзь прамінула шалёная хваліна змысловае ўцехі, няшчасьніка ахоплівае пачуцьцё незадаваленьня. Замест шчасьця п'яўкай упіваецца ў душу пустэча, зьнеахвочаньне, прыгнобленасьць. Бываюць такія, каторыя ў той час пад уплывам расчараваньня і абрыджаньня да ўласных праступкаў, зрываюцца, страсаюць ярмо гонаў, каб ізноў стацца валадарамі самых сябе. Аднак большасьць не знаходзіць патрэбнае да гэтага сілы; ня гледзячы на ўнутранае незадаваленьне, стараюцца ў розных забавах і гулях знайсьці дурман і запоўніць тую пякельную пустэчу — яны зноў маняць сябе, што ўсьцяж новае ды часьцейшае ўжываньне дасьць ім спадзяванае шчасьце. Сіла супраціву ў адносінах да гонаў слабне штораз больш, зразуменьне вышэйшых духовых вартасьцяў губляецца на вачох, заспакаеньне пажадлівасьці стаецца першай мэтай іхняга жыцьця.

Цяжка апісаць тое спусташэньне, якое дзеецца ў сэрцы, у душы, у псыхіцы такога няшчасьніка. Бо юнацтва гэта час дасьпяваньня, час фармаваньня ўнутранага «я» чалавека, і што-ж можа быць горшым, як змысловасьць, якая зводзіць гэтае «я» на агіднае бездарожжа.

Праз незаконную сувязь творыцца нізкае разуменьне адносінаў мужчыны да жанчыны. Тая сіла, каторая адзіная здольная падняць і зрабіць больш шляхотнымі адносіны, узаемную пашану, чыстую, Богам даную любоў — траціцца. Чалавекам апаноўвае пажадлівасьць, зьвярыная частка плоцьнага гону, маральнае пачуцьцё становіцца дзікім; сорам — далікатнае адчуваньне таго, што выпадае — топчацца. У бальшыні выпадкаў толькі нізкай вартасьці ўпаўшыя дзеўкі годзяцца на такую сувязь. Яны-ж сваімі разбэшчанымі інстынктамі заражаюць думкі і сэрца маладога чалавека.



Чаго ня даў-бы пасьля не адзін юнак, каб магчы вырваць з памяці ўсё тое, што сталася.

Праз грэшныя зносіны ў мужчын зьнікае нагул пашана да жанчыны. У ёй ужо ня бачыць сужонкі, сяброўкі жыцьця, маткі — але выключна аб'ект змысловай пажадлівасьці. Ён ня можа больш глядзець чыстым вокам на жанчыну ці дзяўчыну, бо яна яму будзе, або пабуджаць нізкія, брудныя думкі, або ён будзе прыгноблены маральнай вышынёй і чыстасьцю шляхотнай жаночай постаці. У яе прыстутнасьці ня будзе мець супакою.

Больш таго — малады чалавек губляе здольнасьць тае адзінае праўдзівае, глыбокае любові, каторая потым магла-б стацца асноваю яго сямейнага шчасьця. Цяпер ён марнуе патрэбныя пачуцьці для тае любові, а потым у адносінах з сужонкай будуць вырынаць нахабна і з дакорам успаміны даўняй распусты. Дзеля таго малады чалавек дапускаецца амаль праступства адносна свайго будучага шчасьця, калі ў незаконнай лучнасьці марнуе першыя далікатныя праявы свайго сэрца для нягоднай асобы і то так, што для будучай сужонкі, каторую павінен кахаць, астануцца толькі марныя рэшткі таго сэрца.

Іншай прычынай, каторая ўводзіць закалот у пазьнейшае шчасьце сужонкаў, муціць яго, а часам нават зусім забівае — ёсьць тыя абставіны, што хлапец ня можа забыцца зусім прадмету даўных пачуцьцяў. Да істоты любові належыць, што ніколі ня можа забыцца таго, хто раз быў прадметам яе пажаданьня. Калі раз даецца камусьці сваё сэрца, нельга ўжо пасьля забраць яго цалкам, не пакінуўшы з яго нешта. А поўнае, глыбокае шчасьце сужонкаў вымагае поўнага ўзаемнага самааддданьня без засьцярогі і без падзелу. Любоў ёсьць завідушчая і жадае, каб каханая асоба належала да яе аднае і да нікога больш.

Зрэштаю ў кожным сужэнстве могуць здарыцца разьбежнасьці поглядаў, непаразуменьні, расчараваньні; нікога няма вольнага ад нястачаў і ва-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

даў; найлепшае сужыцьцё можа сапсаваць і замуціць гнеў, незадаваленьне, ці кепскі настрой. Аднак, калі муж і жонка дасканала ведаюць, што яны беззасьцярожна і ўпоўні належалі і належаць да сябе, тады хутка дойдуць да згоды. Затое можна спадзявацца вельмі паважнай небясьпекі ў тым выпадку, калі выявіцца, што адно з сужонкаў, а яшчэ горш калі абое, захоўваюць прыязныя зьвязкі маладосьці, калі ў іх сэрцах тляцца ўспаміны мінулага. Тады вельмі-ж лёгка можа прыйсьці ў голаву думка: Напэўна ніколі не дайшло-б да такіх гісторыяў, калі-б я ажаніўся з тою; калі-б я выйшла замуж за таго! Яшчэ горш, калі адно, або другое жаліцца перад даўным прыяцелем, ці даўнай прыяцелькай. Замест шукаць узаемнага выбачэньня, зьвяртаюцца да іншых даўных павернікаў сэрца, і бязодня капаецца між сужонкамі.

Ці мала ёсьць такіх выпадкаў, што дзяўчына нават з вельмі добрага дому, вышаўшы замуж, некалькі тыдняў пасьля шлюбу, дзеля малаважнага непаразумленьня з мужам, пакідае яго ды йдзе да даўнага сябры маладосьці.

Адзін селянін трымаў удома заражаны пісталет і казаў: «Гэта для мае жонкі, калі яшчэ раз захочацца ёй пайсьці да таго».

Шматлікія страшэнныя сямейныя трагэдыі маюць свае карані ў даўным грэшным каханьні.

У натуры незаконнай грэшнай сувязі маецца і тое, што пры зносінах робяцца стараньні, запабегчы іхным наступствам. Аднак ня гледзячы на гэтыя стараньні, заўсёды астаецца страх, што тыя непажаданыя наступствы калісь могуць зьявіцца. Лепш аб тым не гаварыць, як гадкімі і нягоднымі ёсьць тады паводзіны, да каторых змушае іх асьцярожнасьць. Пры ўсім тым ніколі няма пэўнасьці, ці адна хвіліна забыцьця не прывядзе да няшчасьця. Лекары маглі-б расказаць шмат аб гэтых няшчасьніцах, якія засаромлена прыходзяць да іх, поўныя неспакою і страху, ды часта нават стаўшы на калені, моляць іх: «Дохтар, памажэце мне, ратуйце мяне! Я не магу паказацца



удома. Бацька мяне выкіне за дзьверы, а матцы сьлёзы выядуць вочы! Памажэце мне!» Ясна, не задумоўваецца яна тады над тым, што тое, чаго жадае, ёсьць звычайным забойствам, да чаго чэсны лекар ня прыложыць свае рукі. Што-ж тады рабіць?

Некаторыя ў роспачы зьвяртаюцца да лекара бяз сумленьня, да асобы ведамай маркі.

Аб тым запабяганьні, аб каторым тут мова, праф. д-р. М. Лябгардт дырэктар жаночага шпіталю ў Баль, піша: «Нават найлепшы лекар ня можа запэўніць, што матка дзеля такога запабяганьня ня выстаўляецца на вялікую небясьпеку і што яна агулам яе перанясе». Праф. д-р Зігварт з Бэрліна кажа: «Доўгагадовае дасьведчаньне паказвае, што выпадкі, калі ў выніку зробленае апэрацыі маткі трацяць здароўе, або нават і жыцьцё, ня ёсьць такія рэдкія і часта мы змушаныя рабіць трудныя апэрацыі». Тайны раднік праф. д-р Брумм з Бэрліну піша: «Пагаджаюся ўва ўсіх пунктах з доказамі праф. Зігварта... ў апошніх тыднях я займаўся чатырма выпадкамі вельмі паважнага захварэньня, з каторых адзін закончыўся сьмерцю». Праф. Абдэргальдэн з Галь кажа: «Такія захады раўназначны цяжкай катастрофе для ўсяго арганізму. Толькі ў вынятковых шчасьлівых абставінах выходзіцца з яе бяз трывалых наступстваў. Аднак гэта не ад нас залежыць. Цьверджаньне некаторых, быццам тут маецца дачыненьне з захадамі, якія ў сёньняшніх адносінах ня маюць большага значэньня, ёсьць у крыклівай супярэчнасьці з фактамі. Кожны такі захад цягне за сабою паважную небясьпеку».

Паводля афіцыяльнае статыстыкі ў Нямеччыне штогод памірае больш дзесяці тысяч асоб у выніку гэткіх захадаў.

Царква з свайго боку гэткія захады ўважае за роўназначныя з забойствам і выклінае ўсіх, хто толькі спрычыняецца да іх зьдзейсьненьня. Дзеля таго кожнае стараньне, дазвол, супрацоўніцтва, дараджваньне і нават сам намер, каб выка-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

нацць дзецябойчую апэрацыю ёсьць цяжкім грахом, ня гледзячы на тое, які будзе вынік. Дзяржаўнае права за гэткія правіны карае турмой.

Можна тады ўявіць, якую трывогу, якое пекла душы перажываюць маладыя людзі, калі выконваюць такія захады. Калі гэта ім удасца, дык ляжа каменем на іхным сумленьні на ўсё жыцьцё сьведамасьць забойства роднага дзіцяці. Але як мусіць дакараць сабе малады чалавек, калі справа ня ўдасца! Магчыма няшчасная дзяўчына ня мела ані часу, ані нагоды, каб упарадкаваць сваё сумленьне і бяз прыгатаваньня станула на парозе вечнасьці з таўром забойцы. Або, калі аднойчы дойдзе да яго вестка, што яго дзяўчына ў роспачы налажыла на сябе руку, што дзесьці з вады выцягнулі яе мёртвае цела! Калі пасьля закапаюць у магілу гэтае халоднае, абясчэшчэнае цела, разам з ім закапаюць назаўсёды супакой сумленьня спакусьніка. Пасьля гэтага ён можа, як Каін, шукаць супакою па ўсім сьвеце і ня знойдзе ніколі.

А калі дзіця ўбачыць сьвет, дык яно будзе крыніцай мукаў сумленьня. Бо ці-ж можа быць больш прыгнобленая сьведамасьць ад тэй, калі сумленьне кажа чалавеку: Гэтае дзіця ёсьць плодам мае грэшнае пажадлівасьці, вечны памятнік мае немаральнасьці! А ці менш страшэнным ёсьць жыцьцё самога дзіцяці, калі яно падрасьце і ў пэўным часе даведаецца, што гэта значыць, ня мець бацькі.

У 1910 г. лекар знайшоў у пакоі маладога чалавека, які куляй рэвальвэру закончыў сваё жыцьцё, ліст у якім пісалася: «Да мае маткі! Ужо ўсё канчаецца... Годзе! Яшчэ толькі канчатковы акорд. Аднаго толькі праклінаю: Майго бацьку!..» Ён быў незаконным дзецям (крапіўнікам).

Падобна ўзварушаючымі былі словы 19-цігадовага юнака: «Ня ведаю, хто ёсьць маім бацькам. Матка жыве, але яе ня знаю. Яшчэ яе ня бачыў. Але калі дарасту, дайду хто яна і знайду да яе шлях. Калі мае сябры ў нядзелю выходзяць у горад, я часта кідаюся на ложак і выю, бо ня маю чалавека, з якім магу разьвеяць сваю тугу, бо я адзінокі ў сьвеце, як палец!»



А матка? Здараецца часта, што бацькі яе выракаюцца і яна гіне ў бядзе і паніжэньні. А хоцьбы нават так ня здарылася, дык сонечнае шчасьце, пагодная ўсьмешка, сьведамасьць чыстага сумленьня і нясплямленае чэсьці — згінулі ў ёй назаўсёды. І ўсё гэта дзеля таго, што малады чалавек не апанаваўся! Ён не патрапіў прывыкнуць акелзваць свае хаценьні і гоны. Ці гэта магчыма апраўдаць перад уласным сумленьнем і перад векавечным Судзьдзёю?

Хоць-бы наступствы ня былі гэтак пагубныя, іх аднак прадбачыць немагчыма. Наступствы ня ў руках чалавека, дык трэба быць гатовым на ўсё. Гэта азарт у якім вырашае прыпадак. А на карту трэба ставіць шчасьце ўсяго жыцьця, сваю чэсьць, супакой сумленьня, сваю душу і яе збаўленьне; а тое, што здабываецца коштам гэткае рызыкі гэта некалькі змысловых цьмяных захапленьняў затручаных горыччу сьведамасьці граху, што муціць чалавеку чыстую радасьць сужэнства.

Варта зьвярнуць увагу яшчэ на іншыя абставіны, якія не аднаму мужчыне атруцілі, або зьвіхнулі жыцьцё, ставячы яго ў вельмі клапатлівае палажэньне. Бацька незаконнага дзіцяці правам забавязаны плаціць алімэнты на ўтрыманьне дзіцяці да 16 гадоў, або і даўжэй. Гэтыя праўныя забавязаньні няраз выкарыстоўваюць нячэсныя дзеўкі, каб вымусіць ад неасьцярожнага хлапца грошы, або шлюб. Перад судом выстарчае пасьведчаньне дзяўчыны, калі абвінавачаны ня можа даказаць сваю нявіннасьць, каб быць засуджаным. Для прысуду давольі, калі будзе даказана што ён быў з ёю на адзіноце.

Адзін юнак на запросіны свайго сябры адведаў дзяўчыну, з каторой той меў ужо не адзін раз зносіны. Да граху не дайшло. Хутка пасьля гэтага сябра павінен быў выехаць на фронт і за-



5

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

гінуў. Дзяўчына-ж радзіла дзіця і абвініла нявіннага юнака. Яго сьведчаньне аб зносінах дзяўчыны з яганым сябрам, які загінуў на вайне, суд ня прыняў пад увагу, бо дзяўчына station ўка гэтаму запярэчыла. І прысудзілі нявіннаму плаціць алімэнты.

Іншы хлапец, каторы праводзіў нейкую кэльнэрку, трапіў у падобную пастку. На шчасьце змог выказаць пасьля на судзе беспадстаўнасьць абвінавачаньня і быў апраўданы.

Падобных прыкладаў можна знайсьці бяз ліку.

Словам адусюль за грэх чакае няпрыемнасьць і кара і колькі душэўнае трывогі мусіць перажываць такі малады чалавек, які павінен аглядацца на магчымасьць, што ўсё яго лёгкадумства можа выйсьці на дзённае сьвятло!

Але гляньма яшчэ на асабліва прыкрыя наступствы для зьведзенай маладой дзяўчыны. Перадусім яна стаецца забаўкаю найгоршага сорту, з каторай гуляе пажадлівасьць. Распусьнік уважае яе не за чалавека, але за прыладу, якая служыць для заспакаеньня яганых найніжэйшых інстынктаў. Ён не зьвяртае ўвагі на яе душу, на яе долю. Калі яе не патрабуе, або яму надакучыла, кідае яе, як дзеці ляльку, каторую яшчэ ўчора галубілі. Аб яе долі яму галава не баліць.

Пэўна-ж часта гэта ўжо ўпаўшыя дзяўчаты, якія ўвайходзяць у незаконныя зносіны. Гэтую праўду яскрава падчыркнуў калісь Гэтэ, кажучы: «Калі мужчына зробіць адзін крок да ўпадку, — упаўшая жанчына тысячу крокаў сьпяшыць яму на спатканьне». Аднак гэта не дае ніякага права хлапцу, каб іх псаваць яшчэ горш і сьпіхаць яшчэ глыбей у протхлу грахоўнага бруду. Калі-б гэткія дзеўкі сустрэлі маладога чалавека, каторы сваім абыходжаньнем вярнуў ім пачуцьцё годнасьці, не адна-б з іх завярнулася з кепскае дарогі і распачала-б новае жыцьцё.

Але нажаль часта можна спаткаць дзяўчат нясьведамых, лёгкадумных, каторыя пад уплывам розных дурных і бязглуздых гутарак жадаюць



«пакаштаваць жыцьця». Трэба прыняць пад увагу, што найчасьцей імі кіруе ахвота ісьці за нахілам сэрца, каб мець свайго залётніка-ухажора, тады, калі мужчына шукае сэксуальнага задаваленьня. Усёю чульлівасьцю свайго жаночага сэрца, хінецца дзяўчына да каханага і гэтая прывязанасьць запускае глыбока карані ўва ўсе яе думкі і пачуцьці. Дзеля свае недасьведчанасьці яна ўяўляе, што яе каханы ня здольны яе зрадзіць. Ані можа, ані хоча верыць, каб мог яе пакінуць і дзеля таго годзіцца на ўсе яго жаданьні. Тымбольш балючае пасьля для яе расчараваньне, калі каханы сарве зносіны; тымбольш тады жарстока мучыцца яе сэрца. Не адна гадамі не магла перахварэць таго, што яе пакінуў. Іншыя расчараваныя такімі паводзінамі, пачынаюць сумнявацца аб усім, нават аб Богу і сьв. Царкве. Яны ня могуць пагадзіцца з тым, што чагосьці падобнага можа дапусьціцца каталік.

Гэтага кароткага апісаньня даволі, каб зразумець, якое страшэннае зьнішчэньне спрычыняюць грэшныя зносіны ў душы і для цела дзяўчыны. Аднак найбольш цярпіць тая, каторае любоў не асталася бяз наступстваў. Патрасаючы абраз такога цярпеньня апісвае Гэтэ ў «Фаўсьце». Зьведзеная Грэтхэн моліцца перад абразом Маці Божай Цярпячай, але сумленьне ёй увесь час не дае супакою, асабліва яно даймае яе ў часе хаўтурнага багаслужэньня ў катэдры. Яе далейшы жыцьцёвы шлях вядзе ў турму, дзе ад цярпеньня траціць розум. Канчаецца яе жыцьцёвы шлях на шыбеніцы — такі фінал яе любоўных зносінаў з Фаустам, а сам Фауст выходзіць непакараны. Так яно здараецца і сёньня.

Янка Купала ў «Раскіданым гнязьдзе» яшчэ больш праймаюча змаляваў трагэдыю зьведзенае простае дзяўчыны. Бедная беларуская дзяўчына Зоська стаецца ахвяраю залётаў Паніча і да тае ступені засьлепліваецца ў ім, што нават сьмерць бацькі, выкліканая жарстокасьцю Паніча не апамятала Зоські. Але канец гэтым залётам прыхо-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © PDF: Kamunikat.org 2019

дзіць як звычайна скора: Паніч, нацешыўшыся, кідае няшчасную і тая ў роспачы хоча налажыць на сябе рукі, а калі яе ратуюць ад сьмерці, дык ад роспачы траціць розум, а Паніч спакойна едзе жаніцца за мора.

Страх падумаць, колькі бывае няшчасьця, калі такія зьведзеныя дзяўчаты выйдуць потым замуж і стануцца маткамі! Ці-ж не жалюгодныя тыя бедныя дзеці, каторых маткі маюць за сабою такую няслаўную прошласьць? Якім шляхам пойдзе тады ўзгадаваньне? Дзеля таго, што ўнутраны настрой маткі мае аграмадны ўплыў на фармаваньне душы дзіцяці, трэба баяцца, што небясьпечныя нахілы маці будуць сумнай спадчынай яе нашчадкаў.

Гэтак яно ідзе: няшчасьце, пракляцьце, маральныя румовішчы — ёсьць неаддзельным вынікам незаконных зносінаў і гэта для абох спаўвінаватых. Гэта толькі небясьпечны самаабман маладога чалавека, каторы думае, што незаконная сувязь зьяўляецца нечым нядобрым толькі з некаторага гледзішча, але для яго самога яна няшкодная. Няпраўда! Уся ягоная істота на гэтым траціць вельмі шмат. Ён сам паніжаецца на ўзровень раба сваіх гонаў. На мейсца спадзяванага шчасьця ў душу яго заглядае пустэча і незадаваленьне, ягоная пачуцьцёвая частка дзічэе; маральнае адчуваньне таго, што можна, а чаго ня можна — тупее; пашана да кабеты занікае; ён сам становіцца няздольным да сапраўднай, адзінай, глыбокай любові, каторая магла-б стацца асноваю яго сямейнага шчасьця. Даўныя зносіны могуць стацца перашкодаю для будучай сужэнскай згоды. За ім гоніцца той заўсёдны сполах натуральных наступстваў, каторыя спрычыняюць нязноснае прыгнобленьне і неспакой. Подла адносіцца да дзяўчыны, каторую ўважае за бяздушную прыладу роскашы, бяздумна псуе яе і робіць гаротнай, няшчаснай.

Трэба падчыркнуць, што наступствы, аб якіх тут мова, ня ёсьць нечым вонкавым, што можна



страсьці з сябе маўляў той вулічны пыл з ботаў. Не. Яны глыбока ўядаюцца ў душу і пакідаюць незацёртыя сьляды на ўсё жыцьцё. Страшэнная адказнасьць лажыцца на такога праступніка і хаця-б ён у сталейшых гадох і шкадаваў і пакутаваў за свой праступак, зробленае раней крыўды гэтым ён ніколі ня зможа паправіць, ані так выраўняць, каб не асталося рэшткаў даўгу. Замест Божага багаславенства заслужвае сабе на цяжкую кару. Сьведамасьць дакананага бяспраўя цьмяніць яму ўспаміны маладых гадоў і цяжыць на душы каменем. Час ад часу яна вырынае з сутанку мінулага і становіцца перад вачыма духа, каб яго дакараць і гнобіць. І калі пры гэтым развважыцца, што апрача кароткатрывалага, нявыразнага пачуцьця роскашы нічога іншага за тыя зносіны ня прыдбаў, дык трэба сказаць, што для такое карысьці даводзіць сваю долю і долю дзяўчыны да руіны ёсьць праступствам, каторага нічым ня можна апраўдаць.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

## РАЗЬДЗЕЛ 7-ы.

### Завугольныя зносіны.

Выпадае яшчэ заняцца найбольш брыдкім надужыцьцём плоцьнага гону, каторы шукае задаваленьня ў бессаромных зносінах з асобамі вулічных паводзінаў, якія распустаю зарабляюць сабе на пражыцьцё. Да ўсіх прычынаў недазволенасьці прынагадных плоцьных зносінаў, аб якіх была гутарка ў папярэдніх разьдзелах, завугольныя зносіны маюць яшчэ свае асаблівыя прычыны. Дастаткова зьвярнуць увагу на тое, што тут зьвярыная частка чалавека даходзіць да дэспатызму, а ўсякія вышэйшыя прычыны паўстрымanасьці, як сарамязьлівасьць, чэснасьць, пашана ўласнага і чужога цела топчуцца ў балота. Тут ужо для духовых праяваў няма зусім мейсца; чалавекам авалодвае нізкая цялесная пажадлівасьць. Пры гэтым узровень думак тых літасьці годных істотаў з каторымі спатыкаецца малады чалавек, пранікае ў ягонае нутро, заражае яго сваімі бакцылямі і нішчыць, як атрута, усякае вышэйшае імкненьне. Ужо толькі адзін страх перад успамінам гэтае сутычкі, якая выклікае агіду і абрыдлівасьць, павінен паўстрымаць маладога чалавека ад гэткага кроку.

Акрамя нізкага маральнага ўпадку ў завугольных зносінах ёсьць яшчэ горшая небясьпека, гэта: найлягчэйшая нагода заразіцца вэнэрычнымі хваробамі. Вельмі часта выстарчае адзін дрэнны крок, каб атруціць назаўсёды сваё жыцьцё і жыцьцё цэлае сям'і.

Агулам усе вэнэрычныя хваробы брыдкія, але найгоршыя з іх і адначасна найбольш распаўсюджаныя ёсьць дзьве. Вось некалькі слоў аб кожнай з іх.



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

Першая называецца ганаррэя. Выклікаецца яна маленькімі мікробамі, якія перадаюцца праз плоцьныя зносіны. Размнажаюцца мікробы вельмі хутка і некалькі дзён пасьля заражэньня выклікаюць першыя азнакі хваробы: сваеасаблівае выдзяленьне гною.

Гэтую хваробу адносна лёгка можна вылячыць, калі пачаць яе лячыць неадкладна і паважна. Калі-ж лячэньне адкладаць, дык хвароба спрычыняе страшэнныя цярпеньні. Потым нельга спыніць выдзяленьне гною і гэтая немач можа астацца на ўсё жыцьцё. У жанчын яна звычайна выклікае бязьдзетнасьць, калі-ж у пачаткавых стадыях хваробы і родзяцца дзеці, дык заражаюцца падчас нараджаньня і сьлепнуць. Выстарчае калі іхныя вочкі дакрануцца да якое небудзь заразнае часткі разродчых органаў, каб асьлепнуць.

Другая вэнэрычная хвароба гэта пранцы, або сыфіліс. Яна таксама пераносіцца мікробамі, ды ня толькі праз плоцьныя зносіны, але дастаткова дакрануцца нейкага заражанага прадмету, якою колечы часткаю цела, дзе ёсьць маленькія пашкоджаньні шкуры, каб заразіцца. Часта заражаюцца праз пацалункі, калі вусны чуць патрэсканыя.

Нядоўга пасьля заражэньня зьяўляецца на целе невялічкі і небалючы валдырок. Хворы часта нават не заўважвае гэтага першага аб'яву хваробы; зрэштаю валдыр хутка зьнікае.

Калі занядбаць лячэньне ў гэтай стадыі, дык атрутная зараза пранцаў пранікае ў кроў і ўсё цела стаецца заражаным ды наступае другая стадыя хвробы. Праяўляецца яна тады розна: зьяўляецца высыпка маленькіх чырвоных плямаў, або творыцца верад у ротнай падзі, залозкі напухаюць і пад.

Энэргічнае лячэньне ў гэтай стадыі можа ўзмоцніць адпорнасьць арганізму і азнакі хваробы могуць занікнуць, здароўе сяк так можа вяр-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

нуцца, але трэба ведаць, што звычайна ў гэтай стадыі хвароба ня зьнікае хутчэй, як па доўгачасным лячэньні. Апошнім часам дзякуючы вынаходу пэніцыліны гэтае лячэньня значна палепшана і прысьпешана, аднак заўсёды трэба памятаць, што самое зьнікненьне азнакаў хваробы можа быць вельмі зводным. Бяда, калі хворы нявылечыўшыся зусім уступіць у сужэнства.

Калі мікробы ў арганізьме ня зьнішчаны зусім, дык пасьля некалькі гадоў повіднага здароўя наступае трэцяя і апошняя стадыя пранцаў. Тады ўжо ўсё цела затручана заразаю і азнакі хваробы могуць праявіцца на любым органе. Часта твораццa глыбокія верады на косьцях, на нутраных органах і разьядаюць іх. Сьледам за гэтым ідзе паралюш мазгоў або нэрваў. Потым могуць прылучыцца сухоты хрыбетнага мазгу і разьмякчэньне мазгоў. Апошняя з гэтых хваробаў паступова паралізуе ўсякую дзейнасьць розуму, чуцьцё і рух; вядзе да поўнага ідыятызму і, паводля слоў аднаго лекара, перамяняе чалавека «ў найсумнейшую руіну, аб якой толькі льга падумаць, пакуль над гэтай непадобнай да чалавека істотай, духова даўно памёршай, а толькі яшчэ вэгэтуючай бяз руху, ня зьлітуецца сьмерць».

Страшэннае няшчасьце бывае тады, калі хворы, уважаючы сябе за вылечанага, жэніцца. Хутка хваробай заражаецца жонка. Няшчасная маладзіца сохне тады на вачох, бо яе жыцьце атручана і цялесна і маральна. Жутка бачыць тых, якія нядаўна цьвілі здароўем, а хутка пасьля ў сужэнстве пачынаюць хварэць, вянуць і па нямногіх гадох ідуць у дамавіну. Хворыя на пранцы могуць радзіць дзяцей, але найчасьцей гэтыя дзеці родзяцца пакрытыя ранамі і на шчасьце для сябе хутка ўміраюць. Часам аднак здараецца, што хвароба набірае моцы па гадох, каб у далейшым нішчыць сваю ахвяру.

Надзейнага абароннага сродку перад заражэньнем у завугольных плоцьных зносінах няма. Упадак найчасьцей здараецца ў п’яным стане, калі алькаголь замуціць розум і разбудзіць пажадлівасьць, якая не зважае на ніякія сродкі асьцярожнасьці. Лекары аднагодна цьвердзяць, што лік вэнэрычна хворых страшэнна вялікі. Але ў натуры гэтай хваробы ёсьць тое, што яна жадае хавацца.

Ёсьць толькі адно пэўнае застрахаваньне перад гэтай заразай: чыстае жыцьцё. Для дарастаючага мужчыны павінна быць справай зусім яснай і непахісна пэўнай, што ён ніколі не дазволіць сабе на грэшныя і брудныя зносіны. Нястача станоўкасьці, хісткасьць заўсёды вядзе да ўпадку.

Хто супраць пажадлівасьці не паставіць нязломнага «Не!», хто можа тайком падтрымоўвае жаданьне скарыстаць з нагоды, каб задаволіць свой гон, той пры першай спакусе можа ўпасьці і тады павінен так-жа быць падрыхтаваным на тое, што тую нават аднаразовую, кароткатрываючую цялесную прыемнасьць трэба будзе аплачваць стратаю свайго шчасьця і шчасьця свае сям’і.



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

## РАЗЬДЗЕЛ 8-ы.

## БУДЗЬ РЫЦАРАМ.

Згодна з Божаю воляй большасьць людзей прызначана да сужэнства. Сямейнае жыцьцё павінна для іх стацца крыніцай найчысьцейшае, найпрыгажэйшае, найпрыямнейшае радасьці. Праўдзівага шчасьця ня знойдзеш на вуліцы, у балёвай салі, у кінотэатрах, у публічных кутках, на прагулках, у спорце і тым падобных разрыўках; яно перахоўваецца ў дамашняй цішыні, і ўзрастае на глыбокай, шчырай і чыстай любові сужонкаў, бацькоў і дзяцей.

Неабходнай умовай, якая вядзе да шчасьця, ёсьць адпаведныя адносіны мужчыны да жанчыны. Ён павінен у ёй бачыць сяброўку жыцьця, вернага прыяцеля і матку сваіх дзяцей і згодна з гэтым адносіцца да яе. Такі сьветапогляд ня прыходзіць сам сабою; яго трэба здабыць, перамагаючы ніжэйшую натуру. А здабыўшы, яго трэба абараняць перад шматлікімі ворагамі. І гэта ёсьць заданьнем дарастаючага маладога мужчыны, каб сабе ўмець вырабіць і прысвоіць той шляхотны падыход да будучай сужонкі. Акурат у гадох фізычнага і духовага дасьпяваньня фармуецца яго паняцьце аб жанчыне. Гэта ёсьць быццам апошнім дапаўненьнем і вынікам яго ўласнага ўнутранага выпрацаваньня. Чыстае, глыбокае і радаснае шчасьце сужэнства чакае толькі тых, каторыя ў час дасьпяваньня з натугай і сьведамым высілкам дайшлі да чэсьці ў адносінах да жанчын, сталіся праўдзівымі рыцарамі.

Трудна было-б зразумець, каб наймудрэйшы Бог, так не распарадкаваў, што пры нармальным разьвіцьці ў хлапца і юнака не прабудзіўся-б сам сабою дух рыцарства.



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

Найцясьнейшыя сувязі якія толькі бываюць у жыцьці чалавека — гэта сувязі дзяцей з маткаю. Пэўна-ж дзеці не разумеюць і доўгі час не дацэньваюць таго, чым для іх ёсьць матка. Ды гэта ім у дзяцінстве і непатрэбна. Але Бог так усё ўладзіў сваім няскончаным розумам, што дзеці зусім залежаць ад маткі. Яна для іх ёсьць усім. З яе рук дзіця атрымоўвае ўсе дабрадзействы; гадуецца на яе каленях. Дзіця мае змогу ўсьцяж бачыць і падзіўляць ахвярную, дбайлівую, няўтомную мацярынскую любоў. Дзеля таго зусім натуральным ёсьць тое зьявішча, што спаміж усіх магчымых і ўяўных багацьцяў, якія дзіця найбольш цэніць, матка займае першае мейсца.

Гэтая поўная чэсьці любоў стаецца больш глыбокай, калі хлапец пачынае цяміць зьмест слова «матка». Мацней і жывей б'ецца ягонае сэрца, калі ён усьведамляе, што дзякуючы матцы, ён атрымаў жыцьцё: «у яе цікім улоньні пад сэрцам прабываў я калісь праз дзевяць месяцаў, а яна ў той час усьцяж аба мне памятала, малілася за мяне, чакала майго прыходу. З якой увагай сачыла за ўсім, каб мне не пашкодзіць! Дзеля мяне пераносіла нявыгоды, выракалася прыемнасьцяў; уканцы—спрычыняючы вялікі боль пакінуў утульнае памешканьне пад яе сэрцам; яе жыцьцё тады было ў небяспецы, каб толькі мяне абдарыць жыцьцём. Якая-ж затое была яе вялікая радасьць, калі мяне першы раз узяла ў свае абыймы, туліла да грудзей і цалавала. Пасьля праз доўгія месяцы карміла мяне сваімі грудзьмі і адначасна служыла мне так, як нікому іншаму не пасьмела-б гэтага рабіць. Колькі клопатаў, цярплівасьці, вырачэньня і ахвяр — колькі бяссонных ночаў — пакуль я не падрос і не пачаў сам сабе даваць рады! Колькі дабраты і любові дарыла яна мне! З якой чульлівасьцю заўсёды спаглядала на мяне!»

**Гэтая чэсьць для свае маткі ёсьць фундаментам рыцарскіх адносінаў юнака да жанчыны агулам. Толькі той, хто шануе годнасць маткі, мо-**



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

**жа мець рыцарскія пачуцьці. Дарэмна мы шукалі-б чэсьці для дзяўчыны ў таго маладога чалавека, каторы не навучыўся паважаць сваю матку і мацярынства.**

Вока Божага Правіду сягае бязьмежна далёка. У нармальных абставінах гадуецца хлапец у асяродзьдзі сваіх сёстраў, дзе вузлы брацкай любові вяжуць іх у адну сям'ю. У здаровых адносінах для хлапца сёстры ёсьць чымсь бясплоцьным. На нейкае плоцьнае ўзварушэньне тут няма мейсца. У сужыцьці з сваею сястрою хлапец павінен паказаць сваё рыцарства; уважаць сваім абавязкам бараніць сястру, як слабейшую, памагаць ёй, служыць парадай і, адкінуўшы ўсякі тон загаду, прысвоіць сабе ў адносінах да яе быць ветлівым і далікатным. Родныя ў сям'і, каторыя добра разумеюць адзін другога, ўзаемна сабе памагаюць, падобна, як сужонкі, з тым аднак выняткам, што плоцьны нахіл тут ня грае ніякае ролі. Гэтак зусім натуральна і, быццам нясьведама, малады чалавек здабывае тое рыцарства, якое ён павінен выяўляць перад кожнай дзяўчынай.

Самазразумела, што яму здараецца пры сястры спатыкацца з яе сяброўкамі, што-ж тады больш натуральна, як тое, што ён будзе вясьці сябе ў адносінах да іх так, як і ў адносінах да сястры? Калі-б хтосьці пасьмеў быць нахабным у адносінах да яго сястры, дык ён заступіўся-б за яе са шляхотным абурэньнем. А ў далейшым ці-ж могбы ў адносінах да сястры іншага пазволіць сабе на думкі ці выступы, за якія асудзіў-бы найбольш сурова каго іншага за падобныя выступы пад адрасам да свае сястры? Ён павінен навучыцца гэтак захоўвацца ў адносінах да кожнай дзяўчыны, як жадаў-бы, каб іншыя захоўваліся ў адносінах да ягонай сястры. Тут можна датарнаваць прыказку: «Не рабі другому таго, што табе ня міла».

Вельмі важнай рэччу ёсьць тое, каб дарастаючы хлапец зразумеў вялікае пакліканьне жонкі і маткі. Найпрыгажэйшы прыклад што да гэтага ён павінен мець у асобе свае маткі. Але яму трэ-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

ба вучыцца йсьці жыцьцёвым шляхам з адчыненымі вачыма і ўглядацца ў нутраныя скарбы жанчын, каб не дазволіць зьвясьці сябе вонкавымі прывабамі і гожасьцю. Трэба, каб яго пагляд на жанчын тварыўся ня з пустых гутарках распусных сяброў, не паводля нашэптаў пажадлівасьці, але паслухаўшы радаў дасьведчаных і жадаючых яму дабра людзей.

У адносінах маладога чалавека да жаночага сьвету рашаючае значэньне мае той факт, як быць да акту сужэнскіх суадносінаў. З той хвілінай, калі ён пазнаў Божы лад размнажэньня людзкога роду, у ягонай душы пачынаюць змагацца розныя пагляды на жанчын. Тут якраз прыходзіцца яму здабыць шляхотнае хрысьціянскае паняцьце сужэнства, годнасьці бацькі і маці. Хто пойдзе за паганскім духам сучаснага сьвету і сваімі палкасьцямі, той прысвоіць сабе і паняцьце сужэнства, якое мае гэты сьвет і будзе глядзець на жанчыну, як на прадмет сэксуальнае гульні. Вера аднак нас вучыць, што сужэнства ёсьць сьвятыняю, ў якой чалавек мае змогу ўдзельнічаць да пэўнае ступені ў дзейнасьці Бога-Тварца. Хрыстос падняў сужэнства га годнасьці сьвятое Тайны.

Стацца бацькам — гэта значыць мець права да неапісанага шчасьця, але так-жа прыняць нявыказаную адказнасьць перад Богам і перад людзьмі. Сужэнская адданасьць аднаго другому толькі тады ёсьць годнай чалавека, калі яна ёсьць вынікам, Богам данае і асьвячанае сьвятой Тайнай Сужэнства, любові.

Вось такія паняцьці павінны ўтварыцца ў душы маладога чалавека. Тады бяз сумніву ў яго характары ўкараніцца чэсьць да маткі і годная паўстрыманасьць перад кожнай дзяўчынай.

Хто жадае стацца годным мужчынай з шляхотнай душою, той павінен з найвялікшай пільнасьцю ўнікаць усяго, што магло-б спрычыніцца да перамогі ў ім нізкага гону; гэта зн. чытаньня дрэнных кніжак, баламутных сяброў, падазрон-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

ных кінаў і тэатраў, брудных і двузначных гутарак і пад. Павінен сьцерагчы свае думкі і калі пачынаюць разгарацца брудныя лятуценьні, тушыць іх. Ён павінен старацца, каб аб жанчыне думаць толькі чэсна і каб здабываць больш і больш разуменьня для яе высокага пакліканьня жонкі і маткі.

Бяз сумніву для маладога чалавека вельмі карысна, калі ў час яго дасьпяваньня ніякая жаночая асоба ня стане яму ў папярок дарогі, каб замуціць, або абцяжыць ціхі працэс яго разьвіцьця, ці накіраваць яго духовасьць у падазронным кірунку. У гадох, калі ўсё мае на сабе знак пераходнасьці, калі малады хлапец ня ёсьць яшчэ сам сабой і ягонае разьвіцьцё не закончанае, зблізкэньне да нейкае дзяўчыны з намерам запрыязьніцца, пагражала-б вялікай небясьпекай. Мы ўжо бачылі перш, што сяброўства паміж двумя равесьнікамі можа быць вельмі пажаданае і карыснае, але паміж юнаком і дзяўчынай яно блізу заўсёды канчаецца любошчамі. Толькі тады, калі хлапец і дзяўчына гадуюцца асобна, яны могуць вырасьці і расквітнець на поўнавартасных мужчын і жанчын.

Гэта аднак ня значыць, што для маладых людзей рознае плоці адкідаецца ўсякая магчымасьць спатыкацца, напр., на грунце сямейных урачыстасьцяў, рабіць супольныя прагулкі пад апекай бацькоў ці старэйшых, або каб ня ўдзельнічалі ў добрых гульнях. Наадварот, такія нагоды дзякуючы акурат прысутнасьці дзяўчат маюць для юнака асаблівы пацяг. Пры гэтай нагодзе ён будзе мець магчымасьць назіраць жаночую красу і тожасьць ды адчуць іхняе дзеяньне на сабе, цешыцца ёю, нават захопліваца, як іншымі творамі мастацтва Тварца. Але акурат пры гэткіх абставінах ён будзе мець нагоду апанаваць сябе, трымаць на прывязі свае нізкія думкі і жаданьні, калі-б яны спрабавалі адазвацца. Тады выявіцца, ці змог дайсьці да праўдзівага рыцарства, да шляхотнай чэсьці для годнасьці жанчыны. Ён паві-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

нен навучыцца любавацца красой дзяўчыны гэтак, каб пажадлівасьць не накідала яму свае ўлады.

Арганізацыйны рух сярод моладзі ў апошніх часох набірае вялікага размаху, але аднацасна, і на вялікі жаль, ня раз прымае формы, якія могуць прынесьці вялікія шкоды для моладзі. Шмат небясьпекаў крыецца ў саюзах, якія гуртуюць разам моладзь рознае плоці. Такія супольныя групы ў каторых хлапцы і дзяўчаты часта спатыкаюцца ў зусім неадпаведных умовах, маюць шматлікія шкодныя наступствы. Ужо тое адно ім паважна шкодзіць, калі адны і другія губляюць свае прыметы; калі хлапцы стаюцца «бабамі», а дзяўчаты захворваюць на бязглуздую амбіцыю быць мужчынай. Галоўнае аднак зло пранікае маральную галіну. Хочаш, ня хочаш — паўстаюць знаёмствы і завязваецца нясьпелае каханьне, што спрычыняецца да эротычных пабуджэньняў, а пры адсутнасьці апякунчага вока, гэта вядзе да цяжкіх праступстваў.

Праўда, ня раз гутарыцца, што было-б пажадана, каб маладыя хлапцы і дзяўчаты прывыкалі да пэўнага нявымушанага і нявіннага прабываньня з сабою. Гэткая думка ёсьць вельмі ідэальнай. Прыклады аднак штодзеннага жыцьця сьведчаць аб чым іншым. Вось адзін з нязьлічаных:

Пяць скаўтаў высокага палёту і старшых гімназістаў стварыла кружок для чытаньня. Нехта кінуў думку: ці ня варта было-б запрасіць у кружок некалькі дзяўчат. Справу доўга абмяркоўвалі. Адзін быў рашуча супраць, другі так-жа ня мог на гэта наважыцца. Апошніх трох перамаглі. Мэтай гэтага закліку сяброўак мела быць: пасьля прачытаньня кніжкі пазнаёміцца з сьветам зацікаўленьня дзяўчат і прывыкнуць да вольнага і нявіннага прабываньня з імі. Запрасілі дзьвёх сёстраў у гадох 19 і 21, каторыя так-жа вучыліся. Для ўсіх пяцёх было справай вырашанай, што аб каханьні ня можа быць і гутаркі.

На пачатку ўсё было добра. Аднак хутка рас-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

пачаўся флірт. Трох, якія правялі свой плян, заўважылі, што яны зусім добра разумеюцца з дзяўчатамі. Не ўспамінаючы іх прозьвішчаў, назавём іх А. Б. В. Перш абудзілася зайздрасьць у А і Б, бо абодва пачулі нахіл да малодшае з сясьцёр. А, убачыўшы безнадзейнасьць навязаньня бліжэйшых суадносінаў, выракся іх, хоць гэта не абышлося бяз унутранае барацьбы. Аднак дзеля розных асабістых пачуцьцяў і нахілаў, сапраўднае зацікаўленьне кружком аслабла, дый сам кружок хутка перастаў існаваць. Нядоўга пасьля старэйшая сястра заручылася з кім іншым, а яе адаратар з кружка чуўся падведзеным і зламаным. Хаця дзяўчына спачувала яму, не магла ні ў чым памагчы. Б загубіў праз гэтае нясьпелае каханьне свой ідэальны палёт; спадабалася яму сэксуальная непаўстрыманасьць і ён кінуўся ў вір дрэнных гульняў. А, каторы расказаў усю гэтую гісторыю, знаў яшчэ некалькі такіх кружкоў, у каторых таксама здараліся падобныя рэчы. Калі толькі кружкі ставаліся мешанымі, адразу пачыналіся любошчы і зайздрасьць. Самыя кружкі пераставалі існаваць, а далейшым наступствам быў маральны ўпадак і вялікія духовыя страты.

Як было ўжо заўважана перш, ня можна быць супраць таго, каб пры бацьках, ці адпаведным доглядзе моладзь спатыкалася з сабою пры розных нагодах. Але ўсялякія рэгулярныя зборкі ці то на ўроках танцаў, ці на рэпэтыцыях да тэатральных выступаў, ці іншых бескантрольных сходках, дзе пабуджаюцца эротычныя пачуцьці — усё гэта рэгулярна вядзе да розных фліртаў і нясьпелага каханьня. Заўсёды знойдуцца такія, што паддадуцца чару іншае плоці, або і такія, што ўсяго й цікавяцца гэтымі зборкамі пастольку, паколькі там ёсьць нагода да зблізэньня. Таму малады чалавек, які выбіраецца на падобныя гульні, дзе спаткаецца з дзяўчатамі, павінен сабе ясна ўсьведаміць, чаго ад яго вымагае ў такім асяродзьдзі праўдзівае рыцарства. Ён мусіць умець захаваць сваю асабістую годнасьць і акялзаць



свае пачуцьці, каб яны яго не панесьлі куды ня сьлед.

Бывае, што заняцьце ці прафэсыя змушаюць хлапцоў і дзяўчат працаваць разам. Тут выстаўляецца на пробу шляхотнасьць духу юнакоў. Адны з іх бястурботна выкарыстоўваюць такія абставіны, каб якнайхутчэй пазнаёміцца з дзяўчатамі і завязаць любошчы. Іншыя, наадварот, і тут умеюць быць самі сабою. Яны не папускаюць цуглі, калі будзяцца нячыстыя думкі і прыходзяць да голасу цялесныя гоны. Да сяброўкі працы адносяцца з шчырай ветлівасьцю, але так-жа з поўнай годнасьцю і ўстрыманасьцю. Яны маюць на ўвеце залатое правіла: абходзіцца з дзяўчатамі так, як-бы сам жадаў, каб абходзіліся з яго сястрой, ці пазьнейшай «сваёй» дзяўчынай. Калі ёсьць праўдай, што характар вырабляецца ў змаганьні за жыцьцё, дык гэта адносіцца так-жа да праўдзівага рыцарства, каторае толькі тады можа дайсьці да поўнага разьвіцьця, калі малады чалавек мае магчымасьць праявіць яго ў тых нагодах, якія дае нам штодзеннае жыцьцё.

Трэба так-жа памятаць, што рыцарства гэта ня толькі вонкавыя таварыскія формы: першаму вітаць жанчын, уступаць ім мейсца, ісьці з левага боку, або ад вуліцы, як гэта прынята ў Англіі. Усё гэта тады мае вартасьць, калі ёсьць вынікам шчырае, паважнае ўнутранае чэсьці і глыбокага пераканаеньня. Інакш тыя вонкавыя формы будуць аблуднай маскай, якая прыкрывае ўбоства і немач рыцарскага духа.

Рыцарства мае так-жа праявіцца ў абароне слабых і хісткіх. Можа здарыцца маладому чалавеку, што дзяўчаты, каторыя згубілі ўнутраную маральную сілу, самі накідаюцца яму, каб сваімі залётамі заблытаць яго ў немаральную твань. Яны чакаюць толькі якотась знаку, ці погляду, каб аддацца зусім. І тут справа ў тым, ці юнак астанецца верны сваім прынцыпам, ці не. Ці ён сваім рыцарствам падтрымае іх і гэткім чынам паможа ратавацца тым няшчасьніцам, ці сапхне іх ніжэй у



6

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

балота. Колькі з тых няшчасных падае ўсё ніжэй дзеля таго, што не натрапілі на такога мужчыну, каторы паказаў-бы зацікаўленьне да годнасьці жанчыны. Не адна магла-б яшчэ захавацца нявіннай, калі-б яна спаткала чалавека, каторы замест таго, каб выкарыстоўваць яе слабасьць, падаў-бы ёй моцную далоню і памог-бы падняцца. Такога гэроя яна-б не забылася да сьмерці.

Ня варта нават прыпамінаць, што асобаў, якія проста прадаюцца, малады чалавек не павінен браць зусім пад увагу і ня траціць часу ані на словы, ані на позіркі ў іх бок.

**Усе адносіны маладога чалавека да жаночага сьвету павінны кіравацца той праводнай думкай, што, калі з волі Бога мае ўступіць у сужэнства, дык толькі адна жанчына будзе ягоная і ён будзе толькі да яе аднае належаць: гэта сяброўка яго жыцьця і матка яго дзяцей. Ягоным абавязкам ёсьць захаваць сябе чыстым і годным яе. Непахісным прынцыпам у адносінах да яе павінна стацца думка: Жадаю ўжо цяпер дахаваць непарушную вернасьць сужонцы, якую мне Бог вызначыць. Жадаю належаць толькі да яе аднае і да ніякае іншае.**

Хто ня можа наважыцца на такую пазыцыю, той доўга без памылак і грахоў ня ўтрымаецца. Нястача станоўкасьці, хісткасьць, нерашучасьць вядуць, звычайна, да чорта — толькі думкі аснованыя на ясных і глыбокіх прынцыпах вядуць да Бога. Тут ідзе гутарка аб барацьбе з найбольш падступным, найбольш хітрым і найбольш зацятым ворагам — пажадлівасьцю; ворагам, каторы ўнутры самога чалавека мае заўсёднага саюзьніка, з каторым за ўсякую цану імкнецца да ўлады. А ў жыцьці чалавека ёсьць нямала спакус і нагодаў да ўпадку і толькі тыя ім дзейна супрацьставяцца, каторыя вырашылі раз і на заўсёды: не забаўляцца любошчамі.



**Разьдзел 9-ы.**

## СЯБРОЎКА ЖЫЦЬЦЯ.

Для сямейнага шчасьця ў сужэнстве рашаючае значэньне мае добры выбар сяброўкі жыцьця. Гэта-ж выбар на ўсё жыцьцё, а яго наступствы прыносяць багаславенства або пракляцьце ня толькі дзецям і ўнукам, але агулам усім нашчадкам.

Ужо раней успаміналіся вельмі трапныя словы Колёна: «У жыцьці мужчыны ёсьць мейсца толькі для дзьвёх жанчын: для ягонай маткі і для маткі ягоных дзяцей». Не сказаў: «Для маткі і для жонкі», бо мужчына ў сваей сужонцы павінен бачыць у першую чаргу матку сваіх дзяцей, а ня тое, чым яна ёсьць для яго самога. Галоўнай мэтай сужэнства ёсьць павялічэньне людзкога роду. Дзеля гэтага мужчына пры выбары сяброўкі жыцьця павінен зьвяртаць увагу перадусім на тое, каб з гэтай сувязі магло вырасьці здаровае і добрае патомства. Кіруючыся гэткім паказьнікам, сам асабіста нічога ня губляе; наадварот, мае толькі карысьць, бо такі падыход да справы рашае адначасна і аб ягоным асабістым шчасьці, а да таго мае яшчэ тую прыгожую старонку, што яго забясьпечыць перад уплывам іншых дзейнікаў, каторых значэньне для шчасьця ў сужэнстве, або для патомства ёсьць або вельмі малое, або і зусім ніякае.

Пару дзесяткаў гадоў таму паўстала асобная галіна навукі, якая займаецца вывучэньнем спадковасьці, гэта значыць усім тым, што перадаецца ў спадчыне з пакаленьня ў пакаленьне. Гэтая навука даходзіць да цікавых вынікаў.

Спадковасьць не абмяжоўваецца толькі вон-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

кавымі прыметамі, як форма цела, выгляд твару, вачэй, носа і пад., але яна так-жа мае ўплыў на здольнасьць, даравітасьць і нахілы ў духовым жыцьці. Ня можа тут быць гутаркі аб перадаваньні прыметаў душы; гэта ёсьць немагчымым, бо душа бярэ свой пачатак беспасрэдна з рук Божых і моцай Бога даецца кожнаму новаму чалавеку. Але для праяўленьня свае дзейнасьці душа патрабуе цела быццам інструманту і вельмі залежыць ад яго ўдачы. А прыметы цела ня ёсьць вынікам прыпадку, але кіруюцца правамі спадковасьці. Яны залежаць ад тых прыродных здольнасьцяў, якія дзіця атрымала ад бацькоў. Кожны зародак жыцьця атрымоўвае ад сваіх бацькоў некаторыя нахілы і прыметы, якія перадаюцца з роду ў род. Гэта быццам багацьце данага роду, бо яны ёсьць спадчынай найдалейшых продкаў.

Трэба аднак заўважыць, што ня ўсе прыметы і ўласьцівасьці пераходзяць ад бацькоў да дзяцей, бо перад апладненьнем зародку адбываецца дзіўны працэс дасьпяваньня насеньня, падчас якога рэдукуецца частка насеннага ядра. Дзеля гэтага ядры дасьпелага насеньня няпоўныя (зрэдукаваныя). І толькі пры спалучэньні дзьвёх рознаполых разродчых каморачак паўстае адна цэлая разродчая каморачка, якая дае пачатак новаму арганізму. Гэтак можна растлумачыць нязьлічаныя match рознавіднасьці ў той самай сям'і, бо ня кожнае дзіця атрымоўвае роўны ўдзел спадчыны свайго роду, але ў аднаго выяўляюцца адны азнакі, а ў другога іншыя. Трэба аднак падчыркнуць, што кожнае дзіця можа мець толькі тыя азнакі, якія яму перадалі бацькі, а тым самым яны іх мусілі мець. Добрыя прыметы і здольнасьці бацькоў, перанятыя ад продкаў, павінны перайсьці да нашчадкаў. Таму спадчына можа прынасіць багацьце шляхотных уласьцівасьцяў, але можа быць так-жа затручанай крыніцай страшэннага зла, творачы фізычных і маральных калекаў, павялічваючы на сьвеце лік выродкаў і лік перадчасна ўміраючых.



Варта толькі разглянуцца вакол сябе з адчыненымі вачыма, каб пераканацца ў праўдзівасьці гэтых навуковых выснаўкаў. Найбольш ведамыя і здольныя людзі заўдзячваюць свае вынятковыя здольнасьці шчасьліваму спалучэньню добрых якасьцяў бацькі і маткі. Няма сумніву што для таго, каб абудзіць і належна разьвіць дрэмлючыя здольнасьці, атрыманыя ў спадку, патрэбна мець належнае ўзгадаваньне. Спрыяючыя абставіны так-жа нямала прычыняюцца да праяўленьня і поўнага разьвіцьця здольнасьцяў. Гэтым высьняецца, што часам дарагая спадчына выяўляецца ў далейшых пакаленьнях, калі заіснуюць умовы спрыяючыя для яе разьвіцьця. Амаль заўсёды здольнасьці выдатных адзінак былі ўжо ў іх продкаў, а праяўляліся ў патомках.

Але можа быць і дрэнная спадчына там, дзе якіколечы хвараблівы нахіл трапіў у сокі родавага дрэва сям'і. Няма сумніву, што прыметы набытыя чалавекам не перадаюцца ў спадку. Нармальны чалавек, калі зыйдзе з добрага шляху жыцьця, гэтым яшчэ ня нішчыць спадчыны свайго роду, але перадае яе сваім нашчадкам. Аднак з другога боку, як паказвае дасьведчаньне, атрутныя рэчавіны псуюць добрыя якасьці, а тым самым абядняюць спадковыя здольнасьці; праз гэта патомства можа зусім вырадзіцца. Так забойча можа дзеяць алькаголь, спрычыняючы ідыятызм, падачку ды іншыя нэрвовыя і ўмысловыя забурэньні. Найсумнейшым ёсьць тое, што затрачаных здольнасьцяў нельга ўжо вярнуць для спадчыны роду, а на іх мейсца стаюцца спадковымі хвараблівыя нахілы. Атрыманыя гэткім чынам нахілы ёсьць нявылячальныя, хаця добрае узгадаваньне можа іх крыху злагодзіць. Звычайна аднак ўзгадаваньне, якое даюць недаразвьвітыя бацькі і бацькі са спадковымі ненармальнасьцямі, мае шмат да жаданьня, а прыродныя нахілы, прыклады, акружаючае асяродзьдзе, дзеюць якнайгорш на дарастаючае пакаленьне.

Навука, якая займаецца спадковасьцю, падае



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

весткі аб родах запачаткаваных вырадкамі. Малюнак сапсуцьця і ліха ў такіх родах застрашаючы. У Амэрыцы прасьледжана жыцьцё 709 нашчадкаў нейкай Ады Юкес; між імі налічана: 64 вар'таў, 174 распусьніцаў, 196 байструкоў і 77 крамольнікаў; сярод якіх 12 забойцаў; 142 утрымоўвала грамадзкая апека.

Асабліва павучаючая гісторыя двох скрыжаваных сямейных пнёў: Адзін малады чалавек з добрае сям'і ў часе ваеннае службы зьвёў недаразьвітую дзяўчыну, пасьля чаго пакінуў яе на ласку жыцьця, а сам пазьней добра ажаніўся. Гэткім чынам даў пачатак двом розным родам. І вось абраз! Нашчадкі з нармальнага сужэнства ў ліку 409 былі бяз вынятку нармальнымі людзьмі, а нават былі між імі выдатныя адзінкі. Затое плод граху — недаразьвіты хлапец, якога радзіла зьведзеная дзяўчына, даў пачатак іншаму роду, у якім нахілы маткі не пераставалі шырыць зьнішчэньне і сярод прасьледжаных 480 нашчадкаў было: 143 недаразьвітых, 46 нармальных, рэшта або былі няведамыя, або няпэўныя, але між імі знайшлося 8 уласьнікаў дамоў распусты, 24 горкіх п'яніцаў, 33 маральна ўпаўшых і 3 злачынцаў.

Калі возьмецца пад увагу гэткае сямейнае раздваеньне, выходзячае ад аднаго бацькі, з каторага адна галіна выдала блізу ўсіх здаровых і мужных, а другая дала няшчасьнікаў і злачынцаў, дык зразумеем, якое мае вялікае значэньне для будучых пакаленьняў выбар сяброўкі жыцьця.

Хоць-бы толькі адзін раз у здаровы пень ушчэплена хворую галінку, яна здолее спрычыніць мноства няшчасьця на цэлыя пакаленьні.

Малады мужчына, які мае на ўвеце залажыць сямейнае вогнішча, павінен добра сабе ўявіць, якую бярэ на сябе адказнасьць перад будучымі пакаленьнямі. Ён мае абавязак чэснага жыцьця і павінен сьцерагчы добрае спадчыны свайго роду. Гэтая адказнасьць дыктуе яму належную асьцярожнасьць пры выбары жонкі, каб праз добрую матку перадаць дзецям толькі добрыя прыметы.



© PDF: Kamunikat.org 2019

Маці мае перад сабой яшчэ іншае заданьне, для яго зразуменьня трэба ведаць, што акрамя прыродных здольнасьцяў, ў ацэнку вартасьці будучага чалавека ўвайходзяць яшчэ іншыя дзейнікі. Розныя уплывы могуць дзейнічаць або карысна, або шкодна ў разьвіцьці агульналюдзкіх ці спэцыяльных талентаў. Унутраныя перажываньні маці могуць паважна дзеяць на дзіця, якое спачывае ў яе ўлоньні. Тое, што трывожыць і разьдзірае сэрца маці, або тое, што ўздымае і цешыць яе, уплывае на вельмі далікатную нэрвовую сыстэму дзіцяці. Шляхотныя, добразычлівыя і паважныя думкі добрай і пабожнай маці бяз сумніву адаб'юцца карысна на яе дзіцяці. Зусім інакш уплывае на характар дзіцяці тая маці, якая, будучы ў паважным стане, кіпіць злосьцю і нянавісьцю, ня церпіць нікога і нічога, дае волю ўсім сваім пажаданьням.

Дык няма ў тым нічога дзіўнага, што дзеці, каторыя ў кнізе мэтрыкаў ня маюць імені бацькі, праяўляюць толькі паганых нахілаў. Стан душы маткі, грэшныя пажадлівасьці, неакелзаныя хаценьні, або сполах перад аганеньнем і дакор сумленьня, дзейнічалі разбураюча на дзіця ў яе лоне і выціснулі на маладым ягоным мазгу незацёртае таўро.

Таму ёсьць вельмі важнай справай, каб малады чалавек шукаў для сваіх дзяцей такое маткі, з сэрца каторай уліваліся-б ў сэрцы нашчадкаў толькі любоў, дабрата, пабожнасьць, мужнасьць, супакой і усё тое, што сапраўды вартаснае для чалавека.

Далей, у асаблівы спосаб узгадаваньне дзяцей у першых гадох жыцьця належыць да маткі. А ўжо хіба ня трэба паясьняць важнасьці ўзгадаваньня дзіцяці, бо-ж агулам ведама, што ўсё прысвоенае ў маладых гадох астанецца на ўсё жыцьцё, «Чым гаршчок накіпіць, тым і пахне», і наадварот: чаго чалавек не здабыў ззамаладу,



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

тое трудна будзе знайсьці праз усё жыцьцё. Ды як можа чалавек даць іншым тое, чаго сам ня мае? Як можа даць добрае ўзгадаваньне дзіцяці тая маці, якая сама гэтага ўзгадаваньня ня мае? Адгэтуль і прыказка паўстала: «Якая матка, такое й дзіцятка».

Калі ўсё гэта разважым і падумаем, якім чынам у бальшыні выпадкаў робяцца заручыны, дык сапраўды трэба дзівіцца, што маладыя людзі з гэткім лёгкадумствам падыходзяць да так важных для іх і для іх патомства справаў. Калі земляроб падрыхтоўвае ніву, дык перш вынішчае на ёй пустазельле, якое маглю-б заглушыць насеньне збожжа, адбіраючы яму патрэбныя сокі. Ён таксама выбірае для севу найлепшае насеньне. Ці-ж людзі з сужэнствам, — дзе важыцца жыцьцё і шчасьце чалавека, яго нашчадкаў і ўсё тое, што на зямлі найдаражэйшае — не павінны паступаць прынамся з такой самай разважнасьцю? І трэба спадзявацца, што ў гэтым выпадку не пашкадуюць ніякае ахвяры, каб аддаліць усё магчымае, што перашкаджала-б мець дзяцей найбольш даравітых. Гэта абавязак сэрца і сумленьня кожнага сумленнага чалавека.

Пры заручынах нельга рабіць выбару, кіруючыся зусім малаважнымі і другараднымі асабістымі карысьцямі, або яшчэ горш кіруючыся пажадлівасьцю. Дабро патомства павінна пераважаць усе іншыя меркаваньні. Калі-ж даведаецца, што з плянаванага сужэнства паводля ўсіх верагодных азнакаў можна спадзявацца дрэннае спадчыны для дзяцей, дык дзеля спакою свайго сумленьня ён павінен зрабіць ахвяру з сваіх пачуцьцяў сэрца, а так-жа з іншых карысьцяў.

Ведаючы аб правох спадковасьці малады чалавек у выбары сяброўкі жыцьця павінен упэўніцца найбольш бесстаронна, ці ня бачыць у той сям'і, у якой мае на прымеце будучую жонку, якогась спадковага абцяжаньня, якія там інтэлектуальны ўзровень, якія маральныя і рэлігійныя пагляды. Трэба так-жа добра пазнаць асабістыя



© PDF: Kamunikat.org 2019

якасьці і прынцыпы дзяўчыны, каб ведаць, ці можна будзе разьлічаць на суладнае жыцьцё з ею. Агульна ведама, што ў характары жанчыны маецца шмат патрэбнага, каб у жыцьці датарнавацца да абставін і, што жанчына адносна лёгка зжываецца з рознымі тэмпэрамэнтамі і ўмее ўзгодніць з імі свае паводзіны. Але найважнейшым для добрай сужонкі і маткі (не гаворачы ўжо аб патрэбным да гэтага пакліканьня здароўі) ёсьць сапраўды хрысьціянскае ўзгадаваньне, якое садзейнічае да разьвіцьця і афармленьня ўсіх тых цнотаў, якія патрэбныя для таго, каб стацца вернай сужонкай і шчырай маткай.

На некаторыя вельмі важныя мамэнты жадаем зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Зусім слушна бацька завецца галавою сям'і, тады калі маці — яе душою. А душа павінна быць пабожная. Таму малады чалавек у дзяўчыны, якую мае на прымеце, павінен шукаць праўдзівай пабожнасьці. Для яго самога, а так-жа і для яго дзяцей глыбокая пабожнасьць жонкі ёсьць зарукай шчасьлівага жыцьця. Няма сям'і бяз турботаў, цярпеньняў і дасьведчаньняў! Але ў гэтых няшчасьцях толькі пабожная душа знойдзе спосаб у гэтыя цяжкія мамэнты не заламацца пад іх цяжарам.

Таму вельмі ня радзяцца мяшаныя сужэнствы. Для веруючага каталіка ёсьць асноўнай праўдай, што Царква асннованай Хрыстом ёсьць яго-ная Царква. Іншыя рэлігійныя спалучэньні, як-бы яны сябе прыгожа не называлі, адкалоліся ад Яе і астаюцца на фальшывай дарозе.

Праўдай ёсьць, што тыя, якія без свае віны знаходзяцца навонках праўдзівае Царквы, могуць збавіць сваю душу, калі толькі ў жыцьці кіруюцца сумленьнем, але яны ня ёсьць на шляху, які з волі Бога проста вядзе да неба. Як адзін Бог на небе, так ёсьць адна праўдзівая рэлігія і адна праўдзівая Хрыст. Кат. Царква. І нельга сабе ўявіць сямейнага шчасьця з сужонкай, якая адносіцца няпрыхільна да гэтай Царквы.



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

Умоваю сапраўднага шчасьця ў сужэнстве ёсьць лучнасьць душаў. Але ці-ж гэтая лучнасьць магчымая там, дзе розныя пагляды на Бога і рэлігію? Дзе розныя перакананьні аб рэлігійным жыцьці? У цяжкіх жыцьцёвых бурах сапраўдную пацеху можна знайсьці толькі ў рэлігіі. Асабліва больш чульлівае жаночае сэрца шукае тых чыстых крыніцаў пацехі, з якіх сама сябе падтрымоўвае і находзіць падтрымку для мужа і дзяцей.

Але яшчэ больш у мяшаных сужэнствах трэба баяцца за дзяцей. Узгадаваньне пераважна знайходзіцца ў руках маці. Ад яе дзіця атрымоўвае першыя рэлігійныя веды. Яе пабожныя напамінаньні і навучаньні павінны апірацца на катэхізьме, яна павінна глыбока ўшчапляць у маладую душу хрысьціянскі сьветапагляд. Як-жа гэта зробіць тая матка, якая сама нічога ня мае? Які будзе сумны для дзіцяці той дзень першага сьвятога Прычасьця, калі ягоная матка не падзеліцца з ім тым шчасьцем! Пагубныя наступствы мяшаных сужэнстваў адносна дзяцей паказвае той факт, што яны адбываюцца бястурботна і без царкоўнага шлюбу. Як правіла ў гэткіх сужэнствах няма рэлігійнага ўзгадаваньня дзяцей і ўжо ўнукі, а тымбольш праўнукі бываюць страчаныя для праўдзівае веры. Пераглядаючы радаводы мяшаных сем'яў, заўсёды можна бачыць, як гэтая мешаніна вядзе да адпаду ад Хрыстовае Царквы і да затраты веры.

Трэба яшчэ зьвярнуць увагу, што некаталікі ўважаюць разводы за рэч дапушчальную, а тым самым вельмі развальняецца захаваньне шостага Божага прыказаньня: ня чужалож. Агулам выкананьне рэлігійных практыкаў у мяшаных сужэнствах вельмі абцяжваецца. Дзеля гэтага зразумела, што каталіцкая Царква ўважала патрэбным станоўка выступіць супраць такіх сужэнстваў. Неаднолькавасьць рэлігіі ёсьць адною з важных перашкодаў царкоўнага права. А такое мяшанае сужэнства, ў якім ёсьць небясьпека зусім страціць веру забараняецца так-жа правам Божым. У абліччы гэткіх небясьпекаў лепш ня шукаць дазволу для мяшанага сужэнства, але шмат лепш падпарадкавацца тым вымогам і радам, якія ў гэткіх выпадках даюць духоўныя ўлады.



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

Бяручы пад увагу здаро̆ўе патомства, трэба зьвярнуць яшчэ ўвагу на сужэнства ў недалёкіх ступенях спародненьня. Здараецца ў некаторых родах, што там ёсьць нейкае паважнае даляганьне, якое перадаецца ў спадку, але датуль астаецца бяз уплыву, пакуль адзінкі гэтае сям'і жэняцца з несваякамі. Калі аднак здарыцца сужэнства паміж спародненымі, тады хваравлівыя зародкі лучацца і могуць выклікаць розныя няшчасныя наступствы, як: передчасную сьмяротнасьць дзяцей, няплоднасьць, або яшчэ што горшае. У сужэнствах з падвойным спародненьнем, гэта значыць, дзе ўжо ў лініі продкаў раней былі сужэнствы з сваякамі, там нашчадкі зьяўляюцца больш блізкімі да сябе і ў выпадку іхняга сужэнства ў недалёкіх лініях спародненьня можна спадзявацца тым горшых наступстваў, чым у бліжэйшай ступені былі-б нарачоныя. Сумныя наступствы такіх сужэнстваў можна бачыць у тых вёсках, дзе звычайна адбываюцца сужэнствы ў межах тае самае вёскі.

Шмат даляганьняў і нават хваробаў пераказваных у спадку любіць таіцца, таму выявіць іх немагчыма, дзеля гэтага царкоўная забарона сужэнстваў у блізкіх ступенях спародненьня паводля аднагоднага сьведчаньня сучасных навуковых аўтарытэтаў ёсьць вельмі мудраю.

У нашых часох можна пачуць галасы, каторыя дамагаюцца перад сужэнствам пасьведчаньня сумленнага лекара, падцьвярджаючага здаро̆ўе абодвых нарачоных. У шматлікіх выпадках такім чынам можна было-б усьцерагчыся ад горкіх расчараваньняў і прыкрых цярпеньняў, каб паслухаць гэтае мудрае і зусім абаснаванае рады.

Да іншых умоваў перад сужэнствам трэба залічыць бяз закіду чыстае жыцьцё. Ужо гаварылася вышэй аб тых шкодах, якія спрычыняе нясьпелае каханьне. А цяпер падумайма, ці дзяўчына з



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

абцяжаным мінулым зможа ўзгадаваць дзяцей так, як належыцца, калі сама такога ўзгадаваньня ня мае? Ці яна зможа стацца душою сям'і? Куды пацягне яе сэрца? Ці зможа адрачыся дрэнных кнігаў, ліхога кіна і паганых тэатраў?

Для шчасьлівага сямейнага жыцьця неабходна, каб адзін другога разумеў і любіў. Вялікія розьніцы ў асьвеце, узгадаваньні і паглядах часта ёсьць перашкодай, каб сужонкі добра з сабою зжыліся. Той, хто лепш узгадаваны, ня раз будзе прыкра адчуваць нястачы выхаваньня і добрых манераў свайго сябры жыцьця. Дзеля гэтага ня ёсьць неразумным вымаганьне роўнасьці стану сужонкаў. Аднак у памысных абставінах выняткі з гэтага вымаганьня могуць быць, дзеля гэтага такое вымаганьне варта цаніць, як раду, а не як перашкоду.

Гаворачы аб праўдзівай любові, мы не разумеем тут тае палкасьці закаханых, што часта астыўшы, выраджаецца ў няпрыязьнь і нянавісьць, але тое глыбокае ўзаемнае сяброўства, каторае асноўваецца на ўзаемным разуменьні і праяўляецца ў жаданьні рабіць адзін аднаму добра. Такая любоў ня шукае ў першую чаргу сябе і свае карысьці, але дабра другога. Гэтая любоў падказвае даць любаму тое, што яму прынясе дабро і шчасьце.

Трэба памятаць, што чалавек не заўсёды найбольш любіць тых, ад каго атрымоўвае шмат дарункаў, або тых, якія выконваюць усе яго ныя жаданьні, але часьцей тых, для каго сам трудзіцца і пацее і каторым сам робіць добра. Калі прыкладам муж занадта стараецца дагадзіць жонцы і выконвае ўсе яе найменшыя жаданьні, дык лёгка можа дайсьці да таго, што яна перш будзе прымаць усё разумна, але пасьля пачне дамагацца гэтага, як нечага, што ёй належыцца, і ня прыйдзе ёй нават у галаву, каб падобнай дбайлівасьцю адплаціць мужу. Калі гэта муж адчуе і час ад часу пакажа на гэта пальцам, дык настае раздваеньне. Расьпешчаныя людзі звычайна бываюць няўдзячнымі і за вялікую дбайлівасьць плоцяць абыякавасьцю і наравістасьцю. Праўдзівая любоў не заўсёды мае праяўляцца ў спаўненьні жаданьняў любае асобы; наадварот, часам трэба сапраўды вялікае любові, каб любаму нечага адмовіць. Толькі тады, калі абое ўсьцяж робяць бескарысна ўсё магчымае дзеля ўзаемнага дабра, любоў магутнее і становіцца глыбейшай.



Бескарыснае любові трэба вучыцца. Сама яна ня прыйдзе. Сілы для яе здабыцьця знайходзяцца ў цяхім і ахвярным выконваньні абавязкаў, трывалым перамаганьні самога сябе і ахвотнай паслухмянасьці бацьком.

Аб усім тым, што вышэй сказана, трэба думаць перш, чымся «закахаўся», бо калі гэтае славутае «каханьне» ўжо сталася, дык яно можа так засьляпіць чалавека, што ён будзе пераканаты аб вечным трываньні свайго пачуцьця і аб сапраўднасьці ўсіх уяўных нябесных прыметаў каханае асобы. «Бура каханьня, — як кажа адзін лекар, — марочыць развагу, засьляпляе вочы на найбольш яўныя дрэнныя нахілы, усё ўбірае ў вясёлкавыя колеры і прысланяе сапраўдную вартасьць аднаго перад другім. Калі праміне першы бурлівы час быццам ненасытнага пажаданьня, калі праміну́ць мядовыя месяцы, прыходзіць час цьвярозасьці, а з ім сапраўдная любоў, або абыякавасьць, ці нават нянавісьць, або мяшанка ўсіх гэтых пачуцьцяў, ствараючая нейкія магчымасьці для сужыцьця. Таму гвалтоўныя закаханьні заўсёды падазронныя і толькі даўжэйшае, глыбейшае знаёмства абодвых перад сужэнствам можа даваць надзею на трывалую і шчасьлівую сувязь».

Адгэтуль асьцярога маладому чалавеку, каб быў паўстрыманым, калі пачуе ў сабе першы подых каханьня. Тады трэба канешне захаваць нескаламучаную сьведамасьць сябе, каб пачуцьцё не заняло сэрца бурлівым полымем, не замуціла розуму і ня спутала волі. Жыцьцё паказвае, што маладыя закаханыя трапляюць у такі стан, у якім



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

ані самі ня могуць спакойна разважаць, ані ня слухаюць разумных заўваг іншых. Агулам трапна кажацца «Каханьне асьляпляе». Пры гэтым вельмі часта тымі прыметамі, якія нязвычайна пацягваюць, ёсьць выключна вонкавыя прыметы, як: голас, валасы, позірк, або нават прыгожая вопратка. Слушна заўважвае адзін з сучасных псыхалёгаў, што сёньняшняя мода мае на мэце не забясьпечыць чалавека перад кліматам, але каб зрабіць яго прывабным. Ведаючы аб гэтым, малады чалавек павінен навучыцца трымаць воддаль сваё сэрца ад падобных прывабаў, каб яны не завялі яго ў палон. Ад вякоў ведама, што «Дай сэрцу волю, завядзе ў няволю». Дзеля гэтага так трэба абходзіцца з жанчынамі, нават з тымі, каторыя падабаюцца, каб не паддацца пацягам інстынктаў; асабліва адкінуць стараньне ім падабацца. Толькі тады магчыма здолее цьвяроза разважыць: ці дзяўчына, да каторае хіліцца яго сэрца, мае патрэбныя якасьці для заснаваньня шчасьлівага сужэнства. І толькі тады, калі знойдзе пазытыўны адказ на гэтае разважаньне, можа паважна адчыніць сваё сэрца.

Яшчэ адна заўвага: Малады чалавек можа паважна думаць аб сужэнстве, калі дарос да гэтага. Лекары падаюць час для дзяўчат 22-23 гады, для хлапцоў крыху больш. У гэтых гадох фізычнае і духовае разьвіцьцё на толькі аформілася, паколькі гэтага вымагае мацярынскі і бацькаўскі стан. Ранейшае сужэнства псуе недакончаны працэс разьвіцьця і можа ў жанчыны спрычыніць перадчасную старасьць.

Вышэй успаміналася, што пры добрых adносінах двох сем'яў можа здарыцца, што двое людзей могуць з сабою пазнаёміцца з мэтай будучага сужэнства. У такім выпадку ня можна рабіць закіду маладой пары, абы толькі яны трымаліся ў межах чэснае прызваітасьці. Часам падобныя адносіны могуць быць маральнай апорай і абаронай у спакусах.

Заручаныя павінны зрабіць моцную пастано-



ву, што да аўтара яны прыступяць у стане беззаганнае чыстасьці, каб гэтым сьцягнуць на сваё сужэнства Божае багаславенства. На маладым чалавеку ляжыць абавязак чэсьці, паўстрымоўваць гоны свае натуры, каб нявіннасьць яго каханае ня сталася ахвяраю гэтых гонаў. Час ад часу ён павінен сабе прыпомніць, што забыцьцё можа стацца крыніцай горкіх дакораў сумленьня і стварыць паважныя перашкоды для Божага багаславенства іхняга будучага сужэнства.

Аднак наймацнейшая пастанова можа захістацца і ўпасьці, калі яе сторажам ня будзе разважнасьць. Як ужо няраз успаміналася вышэй, плоцьныя гоны нахабна папіхаюць да апошніх межаў. Пусьціцца на гэты шлях, а пасьля затрымацца на паўдарогі — гэта на даўжэйшы час перавышае людзкія сілы. Таму сьведамае падпарадкаваньне сваіх пачуцьцяў розуму і хрысьціянскай маралі ёсьць неабходнаю ўмоваю, калі закаханыя жадаюць прыступіць да парогу сужэнства чыстымі так, як Бог загадаў.

Аб тым, што спатканьні заручаных сам на сам выстаўляюць іхнюю чыстасьць на вялікую небясьпеку, лішне нават і ўспамінаць. Дзеля гэтага такія спатканьні забараняе хрысьціянскі звычай і маладыя не павінны ўважаць гэтага звычаю за нешта такое, што іх абцяжвае, але тое, што ім дапамагае і бароніць перад упадкам, бо прысутнасьць іншых заўсёды дзейнічае паўстрымоўліваючa. Заручаныя не павінны падарожнічаць адны, а прагулкі зразумела могуць рабіць, але толькі ў людныя мейсцы.

Вось снапок думак і радаў для маладога чалавека. Рады гэтыя павінны стацца пакажчыкам пры выбары сяброўкі жыцьця і як з ею паводзіцца. Але толькі той здолее імі карыстацца, у каго кіруючую ролю ў жыцьці наагул, а ў плоцьных адносінах у асаблівасьці, мае дух. Ня дай Божа ў ім узялі верх сьляпыя гоны, тады яны яму знойдуць сяброўку жыцьця паводля іхняга смаку. Гэта было-б вельмі рэдкае здарэньне, каб па-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

добны выбар прынёс чалавеку шчасьцё.

З надзеяй на будучыню і ацэньваючы належна веліч свае пастановы, малады чалавек павінен аформіць сваю волю наступна: Як вада быстрае ракі зьбіраецца ў рэчышчы і сваею плыньню па дарозе парушае млынавыя і электрычныя турбіны, стаючыся праз гэта паважнаю крыніцаю сьвятла і энэргіі, так і плоцьныя гоны людзкое натуры, ўнятыя ў рамы хрысьціянскае навукі і цнотаў, стаюцца дзейнікам выкананьня Божых плянаў у сужэнстве. Таму трэба сьцерагчы гэтых плянаў, каб нядобрыя людзі, распусныя кніжкі і тэатры ды іншыя падступныя нагоды іх ня зьнішчылі і не павялі чалавека на бездарожжа. Трэба стацца валадаром сваіх пачуцьцяў, а ня іхным слугою!



РАЗЬДЗЕЛ 10.

## ДЗЯВОЦТВА

Згодна з недасьледжаным Божым правідам ня ўсе людзі пакліканы да сужэнства. Шмат хто мае ад Бога пакліканьне да сьвятарскага, або да законнага стану. Ахвяра быць нежанатым і захоўваць дзявоцтва, якое вымагае ад некаторых Каталіцкая Царква, мае свае глыбокія доказы ў натуры самога стану.

Галоўнаю мэтаю чалавека ёсьць: славіць Бога церaз унутраную ахвяру, каторую прыносім тады, калі выконваем Яго сьвятую волю. Што дзеецца ўнутры чалавека, тое дамагаецца праявіцца навонках і чым тое ўнутранае сільнейшае, тым цяжэй яго затаіць. Пры тым выяўленьне навонках таго, што чалавек перажывае ў душы, узмацняе самое перажываньне, робіць яго магутнейшым, глыбейшым і шырэйшым. І наадварот, калі няма вонкавага выяўленьня, дык напружаньне ўнутранага жыцьця ўсьцяж слабее і можа нават дайсьці да таго, што яно занікне і патухне зусім.

Калі прымем, што ахвяра ёсьць найдасканальшым актам культу, найвышэйшым абавязкам чалавека ў адносінах да Бога, дык ці-ж яна можа астацца толькі ўнутры душы чалавека без выяўленьня? Што-як-што, але ахвяра павінна выйсьці, паказацца сьвету, праявіць сябе ў пачыне. Толькі гэтак унутраная ахвяра праз вонкавае праяўленьне зможа ўтрымацца і стацца больш жыцьцяздольнай. Калі няма вонкавых ахвяраў, гасьне полымя ўнутранай ахвяры і астаецца ад яе толькі пажарышча і попел эгаізму.

Патрэба вонкавай ахвяры апіраецца яшчэ на іншых асновах. Чалавек ёсьць зложаны з душы і цела. Дзеля таго і ў найвялікшым акце культу,



7

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

да якога паклікана стварэньне, гэта значыць у акце ахвяры, павінны ўдзельнічаць і душа і цела. Успомнім яшчэ і тое, што ўвесь бачаны сьвет можа асягнуць сваю апошнюю мэту толькі праз чалавека. А чалавек павінен так карыстацца ўсім існуючым, каб яно служыла для ўслаўленьня Бога.

Гэта ёсьць магчыма тады, калі чалавек бярэ найлепшае са сьвету і прыносіць яго ў ахвяру Богу, каб такім чынам Яму, як Валадару сусьвету аддаць чэсьць, падзякаваць, прасіць Ягонай помачы і перапрасіць за шматлікія правіны. Таму праз вонкавую ахвяру чалавек аддае Богу найвялікшую чэсьць!

Гэты абавязак чалавека ў адношаньні да Бога так глыбока пранікае людзкую натуру, што няма такога народу ў сьвеце, які не складаў-бы ахвяраў Богу. Хаця быў час, што занікала вера ў аднаго праўдзівага Бога, хаця пагане ўважалі за Бога: сонца, месяц, зоры, зьвяроў і розных ідалаў — аднак усюды і заўсёды прыносілі ім ахвяры. Адна толькі рэлігія не прызнае вонкавых ахвяраў — гэта пратэстантызм, каторы агулам запярэчвае многія істотныя праўды хрысьціянства і адракаецца ад ахвяраў.

У кожным народзе знаходзім выбраных людзей, прызнаных для прыношаньня ахвяраў. Гэтыя людзі ад вякоў займалі ў грамадстве асаблівае мейсца. Яны былі пасрэднікамі між Боствам і людзьмі. Дзеля таго яны павінны былі асабліва падабацца Боству. І ня дзіва, што нават паганскія народы вымагалі ад тых людзей, каторых галоўным абавязкам было; прыносіць ахвяры такжа пэўных асабістых ахвяр, што мусіла рабіць іх мілымі ў вачох Боства.

Той, што прыносіць Богу ахвяры, павінен быць чысты ад усялякай правіны, а перадусім у галіне плоцьнага жыцьця, якая лёгка кідаецца ў вочы. А небясьпека плоцьнага надужываньня і непамернасьці ёсьць вялікай нават для тых, што жывуць у сужэнстве. Таму спатыкаем дзіўную рэч, што ад жрацоў і жрыцаў у паганскіх часох



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

у некаторых народаў вымагалася вырачэньня сужэнства. Рымляне, прыкладам, дзявочасьць вэсталак сьцераглі з такой суровасьцю, што нарушаючая ея, каралася галадоваю сьмерцю праз закопваньне жыўцом у зямлю. Падобна сурова караліся вайдэлёткі ў летувіскіх плямёнаў.

Гэтыя заўвагі паказваюць, як цесна зьвязана сьвятарства з дзявоцтвам. Дык ці-ж ёсьць дзіўна, што Каталіцкая Царква, найдасканалейшая з рэлігіяў, вымагае ад сваіх сьвятароў дзявоцтва? Людзі, каторыя маюць пачэсны абавязак штодня аднаўляць на аўтарох найдастайнейшую ахвяру сьвету, павінны сябе зрабіць больш годнымі для выконваньня яе праз дабравольнае прырачэньне заўсёднага дзявоцтва.

Выходзіла-б за межы нашай скромнай працы, калі-б мы жадалі падаць усе доказы, якія прамаўляюць за бязжэнным сьвятарствам. Зьвернем увагу толькі на адно. Людзі заўсёды патрабуюць прыкладу, хочуць бачыць такіх асобаў, якія-б на сабе сьцьвярджалі магчымасьць аставацца заўсёды чыстымі. Сёньня патрэба гэтых доказаў, асабліва для моладзі, адчуваецца больш, чым калі.

Супраць усіх брудных закідаў на бязжэнных сьвятароў трэба падчыркнуць, што каталіцкае духавенства захоўвае бязжэнства (цэлібат). Бяз сумніву здараюцца выняткі. Сярод дванаццаці апосталаў знайшоўся нават зраднік. Розныя абставіны могуць спрычыніць збачэньне. Трудна судзіць, ці ўпадак быў наступствам нейкага спадковага брыдкага нахілу, ці стаўся дзеля недастатковага разуменьня велічы сьвятарскіх абавязкаў, або дзеля ня зусім шчырае інтэнцыі пры выбары стану ,ці проста дзеля неразважнасьці, палучанае з занядбаньнем малітвы. Зусім зразумела, што такога роду сумныя хоць і рэдкія выпадкі падхоплівающа і раздзьмухваюцца асабліва тымі людзьмі, якія самі не бяз закіду і жадаюць чужым коштам прыкрыць уласнае балота. Але выняткі ня ёсьць доказам тады, калі нязьлічаныя тысячы праз усё жыцьцё шчыра захоўваюць дзявоцтва.

Падобнае апостальства ціхага прыкладу вядуць



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

законьнікі. У Божым валадарстве на зямлі ёсьць некаторыя заданьні, якія могуць выконваць толькі тыя, што ўмеюць сьцерагчы свае сэрцы ад усякай прыземнай любові. Таму каталіцкія манастыры і каталіцкія законьнікі ўжо праз сваё існаваньне зьяўляюцца тым красамоўным казаньнем з нязьбітымі доказамі, што існуюць вышэйшыя рэчы, чымся цялесныя роскашы і што чыстасьць патрэбная ў моладасьці ёсьць магчымай праз усё жыцьцё.

Паводля навукі Хрыста дзявоцтва выбранае з любові да Бога стаіць вышэй чымся сужэнства. Яно ёсьць ахвярай, якою ў асаблівы сопсаб аддаецца чэсьць Богу. Праўда, праз яе чалавек выракаецца цялеснага патомства, але-ж ёсьць яшчэ бацькаўства вышэйшае, духовае, праз якое памнажаецца, утрымоўваецца і магутнее надпрыроднае жыцьцё душы. А толькі гэтае жыцьцё мае вечную вартасьць.

У небе для дзявочых душ ёсьць асаблівая чэсьць, бо іх акружаць сотні і тысячы іншых душ, каб падзякаваць ім за жыцьцё ласкі, якое заўдзячваюць дзявочым душам, іхным ахвярам, трудом і малітвам і каторае адчыніла гэтым душам брамы неба.

Такая чэсьць прызначана толькі для дабравольнага, з любові да Бога выбранага дзявоцтва. Калі-б хто выбраў стан нежанатага толькі дзеля таго, каб ня мець клопатаў сямейнага жыцьця, або дзеля іншых зямных меркаваньняў, дык бяз сумніву гэткае эгаістычнае бязжэнства не паставіць яго вышэй бязжэнства. Ды рэдка каторы такі чалавек захавае чыстасьць!

Бываюць і такія, што дзеля розных прычын ня могуць уступіць у сужэнства. Яны павінны згадзіцца са сваёю доляй і прызнаць у ёй Божую волю ды старацца захаваць крыштальна чыстае жыцьцё ў вольным стане. Здабыцца на падобную ахвяру і вытрываць на падобным шляху змогуць толькі тыя, што захочуць паслугоўвацца сродкамі, аб каторых была гутарка перш, і каторыя даюць чалавеку Божую ласку захаваць чыстасьць.



РАЗЬДЗЕЛ 11.

## ШТО-Ж ТЫ НА ГЭТА?

Збліжаемся да канца. На ўступе мы акінулі вокам мэтазгоднасьць плянаў Тварца і спатканіся з суровой павагай Яго загадаў. Потым мы бачылі розныя блудныя дарожкі, каторыя зводзяць маладога чалавека ў прадоньне; мы бачылі так-жа і той адзіны шлях, што вядзе да шчасьця. Аб чым мы гаварылі, было спакойным разважаньнем; тут ня было гульні ў пустаслоўе, не падавалася тэорыяў адарваных ад жыцьця і вывадаў бяз зьместу, але падаваліся праўды і здарэньні такімі, якімі знае іх будзённае жыцьцё і сьціплая людзкая веда. Калі цяпер ставіцца пытаньне: што-ж ты на гэта? — дык няма сумніву, што твой адказ будзе ясны і непахісны. Ты будзеш паводзіцца з кожнай дзяўчынай, як рыцар. Ты не захочаш, каб нават нешта найменшае сплямiла гразёю тваю чэсьць. Але пытаньне мае яшчэ іншы зьмест: Што ты думаеш зрабіць, каб ажыцьцявіць твае пастановы?

Пэўна-ж шмат значыць мець шляхотнае жаданьне йсьці шляхам чэсьці, але магчыма ты ведаеш прыказку: «Добрымі пастановамі ўсё пекла выбрукавана»... Спрабуй палічыць каменьне на дарозе з твайго дому да царквы — столькі тых добрых пастаноў, якія ты шмат разоў рабіў і ня зьдзейсьніў. Кожны, хто жадае выканаць сваю пастанову, павінен, зрабіўшы яе, неадкладна падумаць, што трэба рабіць, каб яе зьдзейсьніць. Шмат пастановаў астаюцца назаўсёды пастановамі! Іншыя хутка загараюцца да чагосьці шляхотнага, але стукнуўшыся лбом у лоб з цяжкасьцямі, губляюць адвагу.

Калі сваю пастанову лічыш паважнай, ты павінен наважыцца зрабіць усё тое, што ў тваёй сіле, каб не адступіць назад перад ахвярамі, не палохацца ніякіх труднасьцяў для яе ажыцьцяўленьня. Сама пастанова гэта яшчэ далёка ня ўсё! Мы ня можам за адным махам утрымаць нашу волю ў адным нязьменным кірунку. У тысячах і



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

тысячах розных абставін пастанову трэба ўтрымаць і за кожным разам воля павінна выказвацца нанова. Трэба падрыхтавацца да змаганьня, якое трывае доўга; цэлыя гады, а нават і праз усё жыцьцё.

Прыродныя гоны не супакояцца ў сваім супраціве да нашае волі. Пераможаныя сто і тысячу раз, ня пойдуць у палон, а нават ня выракуцца таго, каб некалі пры іншай нагодзе распачаць атаку нанова, каб асягнуць сваё. Яны будуць цябе намаўляць, што для твайго шчасьця трэба, каб ты пайшоў за іх нахілам. Яны будуць падлізвацца, будуць імкнуцца прыпадабацца, карыстаць з кожнае нагоды, каб свае жаданьні паставіць на парадку дня твайго жыцьця; яны скарыстаюць з кожнага твайго ўступства, каб толькі здабыць перамогу. Яны маюць цэлую армію прыхільнікаў, насупалку з якімі штурмуюць крэпасьць твайго сэрца, каб сілай ці подступам улезьці ў яго і запанаваць над ім. Кніжкі, малюнкі, часапісы, кіно, тэатр, кабарэт — гэта слугі гонаў прыроды. Мала гэтага. Яшчэ дойдуць прыклады іншых, алькаголь, які зацямняе розум і пабуджае похаці; кпіны і насьмешкі лёгкадумных сяброў з твае цноты; рады нячэсных лекараў, якія быццам у імя навукі і быццам для дабра твайго здароя будуць казаць, што гэта супрацьпрыродна і шкодна супрацьставіцца нізкім плоцьным гонам. Грэх будзе табе ўсьміхацца пад маскай любові і роскашы. Сам накінецца на цябе, толькі дай згоду, толькі не бараніся.

Можа стаіш адзінокі і сумны сярод разбэшчанага сьвету, каторы апрача змысловых прыемнасьцяў нічога лепшага ня знае і кліча цябе, каб іх ня выракаўся. Бо-ж раз толькі жывеш, і раз ёсьць маладым!

Сапраўды гэта змаганьне, дзе трэба сілаў волата; праўдзівая сусьветная вайна ўсіх супраць аднаго. І як тут асягнуць перамогу?! — Адвагі! Толькі іншых перамагло і ты пераможаш, калі толькі маеш волю і сілу цягам ужываць сродкаў, якія вядуць да перамогі.



Твая пастанова, захаваць чыстасьць павінна апірацца перадусім на грунтоўным хрысьціянскім сьветаглядзе. Праўды нашае сьвятое веры ня могуць аставацца толькі ў нейкай загарадцы твае памяці, каб пры нагодзе даставаць іх адтуль і потым зноў вяртаць іх туды для бязьдзейнага перахаваньня. Не! Яны павінны пранікнуць увесь твой розум, пачуцьці і імкненьні, каб усё ў тваім жыцьці было прасякнута імі.

Тая праўда, што не дзеля роскашаў і прыемнасьцяў жывём на зямлі, але каб славіць Бога, прызнаючы над сабою Яго валадарства — мусіць быць заўсёды ў тваёй сьведамасьці. «Сьвяціся Імя Тваё», «Не мая, а Твая Воля хай станецца!» — гэта найпрыгажэйшая з мэтаў і адначасна пуцяводная зорка ў туземным жыцьці. Яна-ж ёсьць найбольшай рэччу, якую можаш зрабіць. Гэта ёсьць тая мэта, дзеля якое Бог стварыў сьвет. Усё іншае, як-бы яно ня выглядала вялікім і важным, ёсьць другарадным. Хто ня выканае гэтага першараднага заданьня, той перад Богам ёсьць бязвартасным, кім-бы ён ня быў. На вечнае шчасьце заслугоўваюць толькі тыя, што ўмеюць сказаць рашуча ўсякай брыдоце: вон ад мяне!

Бог — твой Тварэц і Судзьдзя, Ён ёсьць тваім найвышэйшым законадаўцам. Яму выпадае даваць загады, табе слухаць. Ён ня тыран, каторы на твой кошт хоча быць вялікім і шчасьлівым. З цябе Ён ня можа мець ніякае карысьці, але можа табе шмат даваць з таго, што мае. Ён забараняе табе толькі тое, што цябе вядзе да згубы. Жадае выключна таго, што для цябе і для ўсяго чалавецтва ёсьць збаўляючым. Таму табе не астаецца нічога іншага ў адносінах да Бога, як безасьцярожнае прызнаньне Ягонае ўлады над сабою і поўнасьцю падпарадкавацца Яго сьвятым прыказаньням.

Не забывайся таго, якім чынам прышоў на зямлю першы грэх. «Чаму забараніў вам Бог есьці з усіх дрэваў саду?» Гэтак спакусьнік спытаў на вуха Эву. «Чаму?» І гэтым слаўцом «чаму» да сёньняшніх дзён многія ашукваюцца. Далей спа-



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

кусьнік зводзіць манлівай абяцанкай: «Будзеце, як Бог, знаючы добрае і ліхое», гэта значыць: «будзеце незалежнымі і самі рассудзіце, што вам можна, а чаго не. Не дазвольце даваць сабе загады; няхай Бог і Царква кажуць, што ім падабаецца, а вы паступайце, як вам захочацца і не дапускайце, каб хтосьці ўмешваўся ў вашае жыцьцё, а тымбольш з сваім ботам лез у ваша сэрца...» Бяда і нядоля стагодзьдзяў не зрабіла людзей разумнейшымі і яны ўсьцяж ублытваюцца ў сілю тае спакусы, ад наступстваў каторае стогне ўвесь людзкі род.

Пазнаўшы волю Бога, няма чаго пытаць далей: «чаму?», ані йсьці супраць Божых прыказаньняў. Цяпер мы іх пазналі — і гэта было мэтай нашых разважаньняў — і мы ведаем, што яны глыбока абгрунтаваныя, згодныя з нашаю натураю і вядуць нас да шчасьця.

Перад нашымі вачыма маем так-жа прыклад нашага Збаўцы, які паказвае, як далёка мы павінны йсьці ў нашым паслуху Божай волі. Глянь на жыцьцё Хрыста і на мукі! Там усё асноўваецца на поўнай згоднасьці з Божай воляй, аж да апошняга: «Збылося!» Ён, Бог-Чалавек, ня меў нічога важнейшага ад таго, як выконваць волю Айца. Сьмерць Хрыста на крыжы была ня толькі найстрашнейшай, але і найвялікшым здарэньнем на сьвеце, найдасканалейшым прызнаньнем Божага кіраўніцтва праз ахвяру Бога-Чалавека поўнай адданасьці волі Бога-Айца. Гэтая ахвяра аднаўляецца штодзенна ў нашых цэрквах-касьцёлах, каб адначасна быць выяўленьнем і паказчыкам таго, што і на нас ляжыць абавязак аддаваць чэсьць Богу праз ахвяру падданства нашае волі Яго сьвятой волі.

З неба глядзяць на нас лікі сьвятых. Яны былі людзьмі, адчувалі так, як і мы, стагналі няраз ад цяжкіх спакусаў, няраз яны мусілі аддаваць чэсьць Богу ў найстрашнейшых ахвярах. Падумайма толькі аб мучаніках. Яны ахвяравалі маемасьць, сям'ю і самых сябе; цела вілося ў страшэнных катаваньнях, — але што яны страцілі



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

ахвяроўваючы ўсё гэта і не паддаючыся нават найбольш лісьлівым спакусам?! Сьвятое Пісаньне кажа: «Маюць супакой». Стагодзьдзі ўжо цешацца нявымоўным шчасьцем і багаслаўляюць мукі, якія выслужылі ім такое шчасьце.

Браце, гэта ня толькі прыгожая гутарка кабеткі з-пад касьцёла, гэта сапраўднасьць. Трэба ўмець яе ўцяміць і перажыць. Гэтая праўда павінна прасякнуць наш спосаб думаньня і дзеяньня. Яна так-жа павінна быць нормаю ў сэксуальных справах. У гэтай дзялянцы ёсьць часьць нашых абавязкаў у адносінах да Божага маестату. Плоцьным гонам можаш патураць патолькі, пакольکі гэта адказвае Божай волі. Чалавек не павінен карыстаць з премнасьцяў насупраць Божых правоў.

Толькі тады, калі пастанова чыстага жыцьця выплывае з такіх перакананьняў, яна ёсьць досыць моцнаю, каб перамагчы ўсе цяжкасьці.

Другая ўмова, так-жа неабходная, як і папярэдняя ёсьць: сьцерагчы сябе перад спакусьлівымі нагодамі. Ёсьць абставіны ў жыцьці, у якіх змысловыя ўражэньні так моцна дзеюць на розум, што ўсе іншыя думкі сьпіхаюцца на бок, каб усю ўвагу скіраваць выключна на сябе. Змысловая роскаш у змаганьні за чыстасьць умее ўсё ўпрыгожыць такімі колерамі, што вельмі цяжка адвярнуцца ад іх, каб пабачыць канцовую брыду, да якое яна вядзе. Праз моцнае цялеснае падрапжненьне яна з такой сілай дзейнічае на розум, што можа ўнемагчымыць цьвярозае разважаньне, узяць у палон волю так, што ўпадак здаецца няўнікнёным. Аднак мы часта можам напярод прадбачваць абставіны і выбіраць іх. Няраз мы знайшліся ў такіх ці іншых абставінах дзеля таго, што самі іх шукалі, любаваліся імі. Але ад уплываў, якія маюць на нас тыя, дабравольна выбраныя, абставіны, мы ня можам ухіліцца. Таму ўнікаць такіх нагодаў і абставінаў, якія могуць моцна пабудзіць плоцьны гон, ёсьць неабходнай патрэбай.

Перадусім гэта могуць быць уплывы, якія атручваюць твае пагляды на сужэнства і чы-



© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

стасьць. Нельга апраўдвацца, што гэтыя ўплывы дзейнічаюць толькі на ўяву і ня маюць уплыву на нашае дзеяньне. Так казаць, гэта значыць ашукваць сябе, бо воля чалавека йдзе за тым, што розум прызнае за добрае і паступкі чалавека звычайна ёсьць выявам яго перакананьня. Калі жадаеш астацца чыстым, ня можаш пазволіць сабе вырваць высокіх шляхотных перакананьняў; можа аднак прыйсьці да гэтага, слухаючы лёгкадумных гутарак, чытаючы немаральныя кніжкі, аглядаючы распусныя фільмы і тэатры. Яны вырываюць з сэрца чэсьць для сужэнства, пашану да жанчыны, любоў да чыстага жыцьця, а цялесныя роскашы, малююць, як вяршыню радасьці. Коратка кажучы, для чэснага чэлавека там не павінна быць месца, дзе адносіны да граху прадстаўляюць, як звычайную прыродную рэч, дзе высьмейваюць чыстасьць і вернасьць сужэнства, дзе бярэцца на зуб паўстрыманых людзей і паказваецца на іх пальцам, як на аблуднікаў і фарысэяў. У атмасфэры такіх гутарак і такога спосабу думаньня немагчыма жыць, каб імі не заразіцца.

Падобныя нагоды маюць вялікі ўплыў на найніжэйшыя гоны і на ўяву. А нашы думкі маюць цесную сувязь з плоцьнымі нэрвамі і могуць іх так узбурыць, давясьці ад такога напружаньня, якое ня гледзячы на нічога дамагаецца задаваленьня сэксуальнага інстынкту. У гэткіх умовах, хай толькі здарыцца нагода, а ўпадак прыдзе. Дзеля гэтага сьцерагчы сябе ад падобных абставін ёсьць тваім сьвятым абавязкам.

Можа найгоршым нахабнікам — паводля сказу аднаго нават няверуючага псыхалёга — ёсьць т. зв. мадэрныя скокі. Там маеш сабраны ў кучу ўвесь падпальны матэрыял, каторы дзее на плоцьнае пачуцьце. Песьцячае вуха музыка, пахі парфумаў, лёгкая прасьвячаючая вопратка, алькаголь, абыймы — яны ўпрагаюць усе пачуцьці і накіроўваюць іх на плоцьны гон. А што-ж сказаць аб немаральных танцах! Гэта-ж просты заклік да граху! Малады чалавек уцягваецца там у



зір сэксуалізму, з якога могуць выйці бясстратна толькі выняткова сільныя адзінкі.

У такіх выпадках алькаголь займае асаблівае мейсца, бо звычайна «мужчына ў штодзенным жыцьці — кажа той-жа псыхалёг — пры помачы тормазаў (да якіх трэба залічыць шляхотныя пагляды і прынцыпы) дае адпор змысловым прынадам, але тады стаецца іхняй ахвярай, калі хэмічныя атруты (алькаголь) спараліжуюць тую паўстрымліваючую сілу, каб працерабіць шлях дзеяньню сэксуальных нахілаў. Алькаголь аглушае перадусім розум і робіць яго нячулым на вялікія і сьвятыя рэчы, а пабуджае смагу роскашы».

Уцякай, браце, ад нагоды да граху. Тысячы спосабаў мае змысловасьць, каб трапіць у душу, а хто неасьцярожны, можа няўпрыцям для сябе забрысьці далей, чым сам думае. Тут спраўджваюцца слова паэта: «Небясьпечна абудзіць льва».

З прынцыпу і няўхільна трэба высьцерагацца ўсякага патураньня сваім нізкім гонам. Цьвёрдая, як скала, станоўкасьць можа захаваць чыстасьць і нявіннасьць; тая станоўкасьць, якое вучыць нас Збаўца: «Калі вока тваё горшыць цябе, вырві яго і адкінь ад сябе» (Мат. XVIII, 9).

Калі скажаш сабе рашуча: буду чыстым, дык асьцярожнасьць ня будзе для цябе ані цьвёрдым абавязкам, ані балючым вырачэньнем; ты маеш перад сабою мэту, для каторае ахвотна робіш ахвяру з нізкіх прыемнасьцяў.

Паважным дапаможным дзейнікам у захаваньні чыстасьці ёсьць заняцьце і праца. Адзін з выдатных нават няхрысьціянскіх вучоных так кажа аб гэтым: «Звычайна паважная сталая праца спалучаная з уніканьнем усяго таго, што дражніць, будзе ўстрымоўваць плоцьны гон у межах прызваітае меры». Можа нішто так не распальвае гэтага гону, як жаданьне «пажыць, дык пажыць» да таго спалучанае з гультайствам і гуляньнем. Праўду кажа старая прыказка: «Дух чалавека маўляў той млын, каторы бязупынна ў руху». Калі не стараешся, каб ён малоў збожжа, прыйдзе вораг і засыпле ў кош сьмецьце, ці куколь.



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

Дух моладзі вызначаецца асаблівай жывасьцю. Ён усьцяж нешта абдумовае, камбінуе, строіць пляны. Падобна, як цела падчас разьвіцьця выцягваецца і рвецца да мэты, якую сабе паставіць, так старайся заняць твой розум і тваю думку высокалётнай мэтай, якая-б заняла ўсяго цябе і на глупствы не пакінула-б ані часу, ані мейсца.

Таму здольнасьць да працы і дзеяньня ёсьць вялікім дабрадзействам для цела і душы; безработьце-ж з кожнага гледзішча ёсьць няшчасьцем. Чэснай і адпаведнай да твайго абавязку працай заўсёды прыдбаеш карысьць. Яна гартуе сілу волі, дадае энэргіі, вытрываласьці і выклікае добрыя думкі. Для каго праца ёсьць толькі сродкам для здабыцьця грошай на гуляньне і лайдачаньне, для таго яна зьяўляецца нявымоўным цяжарам. Калі аднак у працы бачыш Божую волю, тады яна будзе лёгкай, хаця-б сама ў сабе была найцяжэйшай; аблягчае яе і ўпрыгожвае думка аб ахвяры для бацькоў, сваякоў, для свае будучае сям'і, для бацькаўшчыны і для свае апошняе мэты.

Побач з абавязковай працай трэба ўмела і карысна правесьці вольны час. Найлепш яго выкарыстаць для ўсебаковага пазнаньня свайго фаху, або для вывучэньня іншага фаху. Добра так-жа калі-ні-калі выкарыстаць яго для разрыўкаў, спартовых гульняў, ці вясёлых прагулкаў — яны дадаюць сілаў для духа і цела. Затое страціць вольны час шліфуючы вулічны брук, шукаючы акуркаў, гадзінамі праседжваючы ў кінах, ці яшчэ горш у шынках — гэта хутка завядзе на бездарожжа ў балота немаральнасьці.

Яшчэ адной бязумоўнай перадумовай захаваньня чыстасьці ёсьць перамаганьне самога сябе. Жыцьцё ёсьць заўсёдным змаганьнем, у якім мае вырашыцца, што над табою возьме верх: цела, ці дух. Ніжэйшая частка прыроды падобная да стогаловай патворы. Кожнае хвіліны падымаецца іншая галава і жадае ўлады. Гультайства, шуканьне выгодаў, нездысцыплінаванасьць, упартасьць, эгаізм, гордасьць, дух супраціву, нарастасьць, жаданьне гуляў, ласункаў, або зноў нячэснасьць, дух маны і круцельства ды іншая падобная брыдота — усё гэта вылазіць са сваімі прэтэнзыямі і дамагаецца здаваленьня. Хто пачне ім патураць, трапіць ім у палон. Можна часта пачуць з вуснаў юнакоў: «Мне гэта непадабаецца. Гэта мяне не пацягае. Гэтага мне ня хочацца». І гэта якраз у тых справах, якія мусілі-б і падабацца і хацецца. Колькі ты такога не пераконвай, пакуль ніжэйшая натура бярэ над ім верх, ягоны дух астаецца ў палоне. Ці такі можа абараніцца, калі найсільнейшы з гонаў падыме ў ім сваё чало і зажадае для сябе послуху?

Кім хочаш быць: ці ездаком, ці на кім едуць? Ездаком, каторы моцнай рукою трымае цуглі і кіруе агнякроўным рысаком, ці хочаш быць канём, на каторым сядзіць наравістая похаць і гарцуе на ім паводля свае натурлівасьці. Цяпер бачыш у чым рэч і ведаеш дзеля чаго вымагаецца самаапанаваньне. Праз ахвотную паслухмянасьць, праз акуратнае выконваньне абавязкаў асягаецца ўладаньне над сабою. Такі сказ, як: Мне ня хочацца, не павінен для цябе існаваць, калі абавязак, або розум чагосьці слушна ад цябе вымагае.

Ведай так-жа, што ўсякія ахвяры; і матэрыяльныя для ўспамаганьня бедных, і ахвяры з сваіх прыемнасьцяў, і ахвяры вырачэньняў, зробленыя для добрае справы і ў імя Хрыста, мацуюць волю, спрычыняюцца да ўнутранае свабоды і ёсьць зарукай Божага багаславенства. «Што вы зрабілі аднаму з гэных меншых братоў Маіх, гэта вы Мне зрабілі», кажа Хрыстос.

Уканцы зьвернем увагу на тое, што сілу да перамогі над спакусамі маемо не з сябе. Так вучыць непамыльная Царква. Наступы спакусаў ёсьць так шматлікія і гвалтоўныя, гон натуры так магутны, ягоныя хаўрусьнікі так падступныя, што толькі воля ўзмоцненая **ласкай** Усемагутнага можа іх перамагчы. Бог кожнаму чалавеку дае даволі ласкі, каб ён змог супрацьставіцца спакусам. Малітва, добрыя ўчынкі, і асабліва годнае сьвятое Прычасьце — могуць выслужыць багаты дар




© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

ласкаў, пры помачы якіх куды лягчэй можам асягнуць перамогу. У сьв. Прычасьці крынічыць асабліва багаты дар Божае сілы. Калі спытаць каталіцкіх сьвятароў ці законьніцаў: адкуль яны чэрпаюць сілы да змаганьня праз усё жыцьцё са спакусамі, дык пакажуць табе на аўтар. Дасьведчаньне выяўляе, што для захаваньня чыстасьці няма нічога, што дае лепшыя вынікі, як анельскі хлеб сьв. Прычасьця. Часам пасьля Прычасьця спакусы адступаюць зусім, або на даўжэйшы час, або прынамся даваліся перамагчы бяз цяжкасьцяў.

Кажуць, што ў маладых гадох ужо з прыроды будзіцца пацяг да другое плоці і для некаторых жаданьне сяброўства з нейкай шляхотнай Дайлідай зьяўляецца чуць не канечнасьцю. Такое сяброўства можа мець дабрадзейны ўплыў, калі йдзе ў добрым кірунку.

Нельга запярэчыць, што падобнае цьверджаньне, мае крыху праўды. Але справа ў тым, як устанавіць тыя спрыяючыя ўмовы, дзе-б уплыў жанчыны дзеяў у добрым кірунку, ды дзе-ж знайсьці такую жанчыну, якая адказвала-б вымаганым умовам? Яе постаць павінна-б дыхаць тым крышталььна-чыстым паветрам, якое не дапушчала-б ніякае нячыстае думкі. Адначасна яна мусіла-б разумець усе асаблівасьці мужчыны, так добрыя, як і дрэнныя. Яму было-б вельмі карысна, калі-б мог ёй даверыцца, як матцы; паказаць тайны свае душы бяз страху, што за гэта яна абурыцца на яго, або нават зусім адкіне яго з пагардай. Ён мусіў-бы глыбока пакахаць яе, але так чыстай любоўю, каб ужо ад яе ніколі не адвярнуцца, але заўсёды зьвяртацца за радай, кіравецтвам і помаччу. Ён павінен-бы і тады прыблізіцца да яе з поўным даверам, калі-б ранены, ці пераможаны ў жыцьцёвым змаганьні з сумам і цяжкасьцю ў сэрцы шукаў ратунку і падтрыманьня, каб яна мацярынскай рукою абвязала яму раны, запаліла-б іскру надзеі, падняла-б на духу і падмацавала. Яна павінна-б была ісьці сьледам за ім, калі-б нават зьбіўся з правільнага шляху, каб вярнуць яго назад і ратаваць. Ён павінен-бы мець



© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

да яе доступ у кожную пору, а лепш кажучы, яна мусіла-б быць пры ім, каб ён заўсёды адчуваў, што яе вока ўзіраецца на яго, каб не зрабіў кроку, за які чырванеў-бы перад ёю.

Але ці-ж існуе такі ідэал жанчыны?! Дарэмна шукалі-б яго на зямлі, але ў небе ёсьць. Дагадваешся аб кім ідзе гутарка... Так, Найсьвяцейшая Дзева Марыя — гэта найпрыгажэйшы ідэал найдасканалейшай жанчыны, дзевы і маці адначасна. Найлягчэйшы цень граху ня спляміў яе душы. Яна ёсьць чалавекам, як твая сястра і твая маці, але Яна чыстая і непавінная. Ад Яе йдзе нявымоўны чар і пабуджае ў сэрцы чалавека цяпло, супакой і нявіннасьць. Перад Яе іконаю моўкне бура похаці, разьлятаюцца брудныя думкі, як начніцы перад касулямі ўсходзячага сонца. Яе пагляд будзіць у людзкім сэрцы ўсё, што чыстае, шляхотнае і добрае; пад Яе подыхом родзяцца высокія думкі, тады-ж родзіцца і чэсьць для годнасьці жанчыны і моцная пастанова, каб дзеля Марыі шанаваць і паважаць кожную дзяўчыну і кожную жанчыну.

А калі-б ты нават спатыкнуўся, ці ўпаў, Яна можа цябе ратаваць. Не адкіне цябе, бо ты Яе дзіця; не пакіне цябе, калі толькі ты Яе не пакінеш. Калі з даверам прыблізішся да Яе, напоўніць тваё сэрца палючым сорамам за грэх, бо Яна так чыстая, а ты гэтак заграз! І ня дасьць табе супачыць, пакуль не ачысьціш свае душы ад праступства і правіны. А калі вернешся зноў да Яе, гляне на цябе з любоўю сваім ласкавым вокам маткі, вытра твае сьлёзы каеньня, падыме, пацешыць і пабагаславіць да змаганьня.

Для Яе ёсьць радасьцю сьпяшаць на помач у барацьбе, калі толькі да Яе зьвернешся. Калі вораг налягае, калі пачынаеш слабець, кліч Яе —магутную абарону. Бяз сумніву Яна дапаможа табе здабыць перамогу ў барацьбе за найпрыгажэйшую цноту — цноту чыстасьці. Наша сэрца з радасьцю і шчасьцем пяе на Яе чэсьць:

Будзь прывітана Маці ў чыстаце дзявочай,
ясьнейшая за зоры таёмнай паўночы.

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

Твая дзіўная чыстасьць боскае ступені,
Княгіня, Ты, анёлаў у вянку зялені.
Матухна Божай ласкі, грэшных зорка ясна,
блудным на жыцьця моры Ты надзея шчасна...»

Жывая і гарачая пабожнасьць да Найсьвяцейшае Дзевы можа зрабіць на цябе такі ўплыў, што бяз цяжкасьці пераможаш усе спакусы. Тваё сэрца напоўніцца гэткай любоўю да чыстасьці і такой чэсьцю да жанчыны, што табе папросту будзе немагчыма вясьці сябе нячэсна перад сястрой тваё нябеснае Маці.

Закончу славамі выдатнага пастырскага ліста каталіцкіх біскупаў Нямеччыны з 1908 г.:

«Да цябе зьвяртаемся, мужчынская моладзь, і жадаем абудзіць усё шляхотнае, што ў табе жыве і табой хвалюе; гэтую веру і любоў да Бога і людзей, каторую ўшчапілі табе ў сэрца твае добрыя бацькі і душпастыры; жадаем адклікацца да ўсіх сілаў вашых несьмяротных душаў і заахвоціць да сьвятога змаганьня з грахом, які вам пагражае. Будзьце гэроямі, не палохайцеся! Ня йдзеце сьледам за ліхімі прыкладамі! Мейце адвагу ісьці шляхам чэсьці, быць лепшымі ад другіх, быць вольнымі сярод нявольнікаў граху і ліхіх прывычак, захаваць розум сярод бязглуздых! Не дазвольце, каб пажадлівасьць вам закрыла вочы, спавіла волю, адабрала найлепшыя сілы, загасіла полымя ідэалу ў вашых душах! Будзьце гэроямі і змагайцеся за вашу свабоду, за ваша цялеснае і духовае здароўе, за шчасьце ўсяго жыцьця і за збаўленьне душ. Над пачуцьцёвымі гонамі няхай заўладае скіпетр розуму і меч вашай волі. Дбайце пра парадак і чыстасьць вашых думак і пачуцьцяў; мейце абрыдлівасьць да ўсякага маральнага бруду, гартуйце вашу волю суровасьцю к самым сабе, умераннасьцю і паўстрыманасьцю ды пільнасьцю ў працы! Усё гэта аднак зможаце толькі пры помачы ласкі з вышыняў. Вазьмеце тады Божую зброю, каб маглі ўстаяць у ліхі дзень (Эфэз. VI, 13), праз малітву захоўвайце лучнасьць з Хрыстом і перамагайце грэшны агонь цялесных пажацяў сьвятым агнём любові Бога і бліжняга!»

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

БІБЛІЯТЭКА
БЕЛАРУСКАГА ГІСТАРЫЧНАГА ТАВАРЫСТВА
ў Беластоку
Н-Р 4482

© PDF: Kamunikat.org 2019
© PDF: Kamunikat.org 2019

## ЗЬМЕСТ: